# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3-4 ( 23-24 ) ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2003 г.


## *У НУМАРЫ:*



## СЛЕД НА ЗЯМЛІ




**Знакна мяжыГарадзенскай і Менскай абласцей, які будаваў Антось Савук**

*Антось Савук, карэспандэнт часопіса "Лідскі летапісец" па месцы асноўнай працы быў інжынерам у будтрэсце № 19. Антось пайшоў. Пасля яго засталіся дабраўпарадкаваныя гарады і мястэчкі, у тым ліку Мір, Смаргонь. Але асноўная яго спадчына - гэта гістарычныя і краязнаўчыя даследванні, якія самі пасабеўжо з'яўляюцца найлепшым помнікам гэтаму адданаму Беларусі і яе гісторыі чалавеку.*

**Ідзеш па пяску -**
**застаюцца сляды,**
**Ды тут жа знікаюць**
**пад хваляй вады.**

**За плугам ідзеш -**
**за табой баразна,**
**Травою праз год**
**зарастае яна.**

**Дом пабудуеш -**
**стагоддзе стаіць,**
**Ды часу павінен**
**і ён саступіць.**

**Напішаш радок -**
**і застаўся навек**
**У літарах мёртвых**
**жывы чалавек.**

***Станіслаў Суднік.***





**Антось Савук (13.02.1968 - 27.10.2003)**

**карэспандэнт часопіса “Лідскі летапісец”, сябар Беларускай асацыяцыі журналістаў**

# Лідскі Летапісец



Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні



Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3-4 ( 23-24 ) ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2003 г.

## Даследчык гісторыі Лідскага аэрадрома

27 кастрычніка 2003 года на 36-м годзе жыцця ад крывезліяння ў галаву пакінуў гэты свет карэспандэнт часопіса "Лідскі летапісец"сябар Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, сябар Беларускай асацыяцыі журналістаў, **Антось Савук** (сапр. Антон Уладзіміравіч Саук, н. 13.02. 1968 г.)

Антось Савук вёў актыўную і рознабаковую краязнаўчую і даследчую працу, склаў дастаткова шырокі Лідскі біяграфічны даведнік, апу-блікаваў шэраг краязнаўчых даследванняў у "Лідскім лета-пісцы" і іншых перыядычных выданнях ("Вацлаў Іваноўскі. 120 гадоў з дня нараджэння", "Жывапісец паганскай Літвы. Казіміру Альхімовычу – 160 год з дня нараджэння". "Друкар з Вялічак. 390 год з дня смерці Яна Карцана", "Паслядоўнік Лінэя. 240 год з дня нараджэння С. Б. Юндзіла", "Праз турму і ката-ванні. Светлай памяці ксендза Ч. Янкоўскага" і інш.)

Прыступіў да падрыхтоў-кі вялікага даследвання "Млыны Лідчыны", апублікаваў некалькі замалёвак па гэтай тэме.

Але асноўнай яго краязнаўча-даследчай працай стала "Гісторыя Лідскага аэрадрома",



*Апошняя сустрэча даследчыкаў гісторыі Лідскага аэрадрома З. Харытанюка (Беласток) і А. Савука (Ліда), чэрвень 2003 г.*

якая публікавалася ў "Лідскім летапісцы", пачынаючы з 2001 года. У шасці нумарах апубліка-ваны першы раздзел "Лідскі вай-сковы аэрадром (1907 – 1915)", апублікаваны пачатак другога раздзелу "Лідскі вайсковы аэра-дром (1919 – 1939)". Рэальна Антось Савук сабраў матэрыялы да пачатку савецка-нямецкіх баявых дзеянняў у канцы чэр-веня 1941 года, атрымаў першыя звесткі з расейскіх архіваў пра ваенны і пасляваенны перыяд.

Працуючы над гісторыяй Лідскага аэрадрома Антось Са-вук устанавіў цесныя сувязі са шматлікімі даследчыкамі гісторыі авіяцыі. Але ўся гэтая праца была перапынена зусім нечакана і неспадзявана.

ПАСВЕДчАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ Ґ 1342

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

**Наклад 350 асобнікаў**

**7 друк. аркушаў**

Часопіс размножаны на ўласным абсталяванні.

Часопіс падпісаны да друку 23. 06. 2004 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1150 руб.
індывід. 6 мес.- 2300 руб.
Кошт у розніцу: вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.

# КРОНІКА ЛІДЫ

**3 ліпеня 2003 года пад Наваградкам адкрытая скульптурная кампазіцыя на памяць воінаў Чырвонай Арміі, палеглых у 1941 годзе ў Наваградскім катле.**

**Кампазіцыя атрымала статус помніка Рэспубліканскага значэння 3-й катэгорыі.**

**Аўтар - лідскі скульптар Рычард Груша.**





**4 ліпеня 2003 года ў Нясвіжы адкрыты памятны знак у гонар фестывалю сярэднявечнай культуры "Старадаўні Нясвіж" 3-4 ліпеня 2003 г., падараваны Нясвіжу лідскім скульптарам Рычардам Грушам.**



**13 ліпеня 2003 года ў капліцы Святой Барбары на Лідскіх каталіцкіх могілках устаноўлена мемарыяльная дошка ў памяць трох ксяндзоў Лідскага павету (Станіслава Ішоры, Раймунда Земацкага і Адама Фалькоўскага), расстраляных расейскімі карнікамі ў 1863 г. На дошцы герб паўстання арол, Пагоня і архангел), а таксама сімвал капланства (келіх і аплатка).**

**Дошку выканаў Рычард Груша.**



*Асвячэнне памятнай дошкі*



**15 ліпеня 2003 года Леанід Іосіфавіч Дапіра, вядучы інжынер аўтобуснага парка № 2 узнагароджаны нагрудным знакам "Ганаровы транспартнік"**

**З 14 па 20 ліпеня 2003 года ў Бельгіі праходзіў чэмпіянат свету па коннаму спорту сярод вайскоўцаў.**

**Чэмпіёнам свету на жарабцы “Напор” стаў лідзянін Андрэй Сцепаненка.**





***“Каханачка”***



**7 жніўня ансамбль “Каханачка” Феліксаўскага дома народнай творчасці стаў дыпламантам міжнароднага фестывалю фальклору “Вянок дружбы” ў намінацыі “За выканаўчае майстэрства і адраджэнне традыцый”.**



***Камень да 120-годдзя Янкі Быліны***

**9 жніўня 2003 года каля Клюшчанскага касцёла ў Астравецкім раёне ўстаноўлены памятны камень да 120-годдзя беларускага святара і паэта Янкі Быліны (Яна Семашкевіча).**

**Камень падараваны лідскім скульптпрам Рычардам Грушам.**



**13 жніўня 2003 года на ўскраіне Ліды на месцы захавання віленскіх і лідскіх яўрэяў адкрыты манумент з чырвонага граніту.**

**Манумент ахвяраваны скульптарам Рычардам Грушам.**

**Летам 2003 года закончаны работы па аздабленні новага офіснага будынка ААТ "Ліданафтапрадукт".**



*ААТ "Ліданафтапрадукт"*





*Ліцэй № 1*

**1 верасня 2003 года ў Лідзе адкрыўся Ліцэй № 1. Ліцэем стала найстарэйшая школа Ліды, колішняя гімназія імя М. Навіцкай, у апошні час СШ № 3.**

**4 верасня 2003 года ў радавым маёнтку Агінскіх, што ў Залессі Смаргонскага раёна ўстаноўлены камень "Памяці роду Агінскіх". Падарунак лідскага скульптара Рычарда Грушы.**



*Камень з Скарынаўскай сімволікай для Полацка ў майстэрні скульптара Рычарда Грушы ў Лідзе.*



*Скульптар Рычард Груша і Адам Мальдзіс перад каменем "Памяці роду Агінскіх" у Залессі.*

**6 верасня 2003 года ў Полацку ў Дзень беларускага пісьменства і друку адкрыты камень з Скарынаўскай сімволікай. Падарунак лідскага скульптара Рычарда Грушы.**

**26 верасня 2003 года Белевіцкая базавая школа перасялілася ў былую казарму вайсковай часткі ў Гудах. Пра мінулае тут нагадвае зенітная ракета, якая таксама дасталася школе ад шчодрых вайскоўцаў.**



***Белевіцкая базавая школа***



***Рычард Груша працуе над помнікам Уладзіславу Сыракомлю.***

**30 верасня 2003 года ў в. Смольгаў Любаньскага раёна Менскай вобласць ўстаноўлены памятны камень у гонар 180-годдзя з дня народзінаў знакамітага беларускага паэта і пісьменніка Ўладзіслава Сыракомлі. Падарунак лідскага скульптара Рычарда Грушы.**









**Пяць памятных камянёў устанавіў лідскі скульптар Рычард Груша у Пружанах Берасцейскай вобласці да Ўсебеларускага фэсту "Дажынкі-2003", які адбыўся 3 кастрычніка 2003 г.**



**13 кастрычніка 2003 года філіял 413 ААТ СБ “Беларусбанк” пачаў працу ў новым будынку на вуглу вуліц Савецкай і Кірава.**



*“Беларусбанк” у Лідзе.*



*Касцёл Святога Казіміра ў Няцечы Дубровенскага сельсавета, Лідскага раёна*

**1 лістапада 2003 года пачаліся набажэнствы ў Няцецкім касцёле Святога Казіміра.**



**27 лістапада 2003 года закладзены памятны камень на месцы будаўніцтва капліцы на тэрыторыі Лідскага памежнага аддзелу ў Паўночным гарадку.**



*Так будзе выглядаць капліца.*

# Кроніка айкумены

Лідскі гістарычны каляндар

## ліпень – снежань

**1433 год, жнівень.** Напад войскаў Вялікага князя Свідрыгайлы на Ліду. Безпаспяховы штурм замка. Горад спалены да тла.

**1443 год.** Лідскі намеснік Ах (Ач, Ачжы, Даўлет ) - Гірэй выбіраецца ханам Перакопскай Арды.

**1463 год.** Сафія Галігінавіч і яе сын Жыгімонт Галігінавіч пацвердзілі правы Ваверскага касцёла Святой Троіцы.

**1483-1485 гг.** Лідскім намеснікам быў кухмістр каралеўскі і маршалак дворны Пётр (Пятрашка) Кішка.

**1503 год.** Лідская воласць, незаконна забраная ў Ілініча, перададзена каралём і Вялікім князем Аляксандрам у трыманне Андрэю Аляксандравічу Дразду (Дрожджу, Дрожджычу). Паны-Рада звярнулі ўвагу караля Аляксандра на тое, што ён не меў права адбіраць воласць і прыпынілі ўвод Дразда ў валоданне Лідскай воласцю.

**1503 год, 12 ліпеня.** Вялікі князь літоўскі і кароль польскі пацвердзіў намесніку ішчолнскаму Войцаху Нарбутовічу набыццё двара (дварца) на р. Лебядзе (першы успамін в. Лебяда).

**1513 год.** Юры Радзівіл стаў уладальнікам Жырмун.



**Юры Радзівіл**

**1533 год.** У Лідзе асвечана праваслаўная царква Св. Георгія Пераможца, якая паводле Нарбута першапачаткова памяшчалася ў адной з вежаў Лідскага замка.

**Каля 1533 года.** Юры Мікалаевіч Радзівіл пабудаваў у Дакудаве касцёл.

**1553 год.** Беліцкі касцёл Святога Георгія перададзены кальвіністам.

**1553 год.** Запіс у актавай кнізе Лідскага земскага суда аб абмене некаторых зямельных участкаў у г. Ліда на зямельныя ўчасткі ў маёнтку Заліды.

**1563 год.** Вялікі князь літоўскі Жыгімонт-Аўгуст выдаў прывілей аб ураўнаванні правоў праваслаўных і католікаў.

**1613 год.** У Амстардаме выдадзена карта Т. Макоўскага, на якой абазначаны Ліда, Беліца, Ваверка, Крупа, Лебяда і Белагруд.



**Тамаш Макоўскі**

**1633 год.** Пры Голдаўскай царкве ўладальнік А. Трызна заснаваў праваслаўны кляштар.

**1633 год.** Кароль і Вялікі князь Уладзіслаў Ваза выдаў універсал аб вяртанні праваслаўным 19 цэркваў і клештароў, якія былі забраныя ўніятамі, у тым ліку лідскай царквы Святога Збаўцы.

**1653 год.** Інвентар воласці Дзітвянскай з фальваркамі Дылева і Ваверка князёў Вішнявецкіх налічвае наступныя баярскія вёскі: Мейры- 9 дымоў, Пекуры – 6 дымоў, Мялевічы – 10 дымоў, Дылева – 3 дымы.

**1703 год.** Старастам Лідскім прызначаны Ян Сцыпіён дэль Кампа (да 1680 г.- 1738 ) – ротмістр харугвы Лідскага павету, спачатку пісар гарадскі затым маршалак Літоўскага Трыбуналу, ў канцы сенатар і кашталян Смаленскі (умоўна).

**1743 год.** Іосіф Сцыпіён дэль Кампа жэніцца на Тарэзіі Радзівіл (каля 1723) – дачцы Барбары Завішы і Наваградскага ваяводы Мікалая Фаўстына Радзівіла, пражылі разам адзін год.

**1763 год.** У Дакудаве 37 двароў і ўніяцкая царква.

**1783 год, 21(29) ліпеня.** Дарчы запіс Лідскаму кармелітскаму клештару ад манаха гэтага клештара Бенядыкта Паўлавіча на 3000 злотых і маёнтак Сліжыне.

**1783 год.** Юзаф і Антоні Салагубы прадалі Васькевічы (Вашкевічы) і Мінойты Пірынам.

**1793 год, 17 чэрвеня - 23 лістапада.** Гарадзенскі надзвычайны "нямы" сойм Рэчы Паспалітай.

**1793 год.** Аўстрыйскі эрц герцаг спыняўся ў Піярскім калегіюме па дарозе з Вены ў Санкт-Пецярбург.

**1793 год.** У Лідзе памёр І. Ф. Вольфганг- сын доктара медыцыны з Нідэрландаў Я. Вольфганга, вучань Піярскай школы, здаў экзамен на годнасць памочніка аптэкара, па запрашэнні А. Тызенгаўза працаваў у Горадні, затым асеў у Лідзе.

**1793 год.** Рэктар Піярскага калегіюма Фларыян Крушэўскі дакупіў за 25 рублёў срэбрам 6 пляцаў лідскіх мяшчан, якія прылягалі да става Пастаўшчына і пабудаваў тут млын.

**1793 год.** Фелікс Важынскі пабудаваў ў Голдаве драўляную ўніяцкую царкву Нараджэння Багародіцы.

**1803 год.** У Беліцы адкрыта паштовая станцыя на дарозе Наваградак -Горадня.

**1823 год**. Спецыяльным указам імператар Аляксандр І забараніў жыхарам Беларусі і Літвы накіроўваць сваіх дзяцей для навучання ў замежныя універсітэты.

**1833 год.** У Піярскім калегіюме вучылася 103 вучні.

**1843 год.** Пабудаваны новы мураваны будынак пошты – прыватны дом Кашанецкіх, паміж вуліцамі Пераца і Гандлёвай. На пляцы таксама пабудаваны канюшня для коней, хлеў для падвод, домік для фурманаў і паштальёнаў.



***Царква ў Голдаве***

**1853 год.** Іван Андрушкевіч ахвяраваў Фарнаму касцёлу бронзавы піцыфікал с кавалачкам дрэва Святога Крыжа. Ксёндз Хлявінскі ахвяраваў Фарнаму касцёлу абраз (карціну) святога Язэпа ў пазалочанай раме, напісаны жывапісцам Мікульскім.

**1863 год, 18 жніўня (ст.ст.).** Асвечаны Свята-Міхайлаўскі сабор у гонар Архістратыга Міхаіла.

**1863 год.** Пабудаваны піўны завод Ландо і Камянецкага.

**1863 год.** Ануата маёнтка Вялікае Ольжава выплачана памешчыкам Кашыцам унёскам 140 рублёў, 65 капеек, на гэтыя грошы набыты 5% білет Дзяржбанка коштам 150 рублёў.

**1883 год, верасень.** На Нёмане тутэйшым памешчыкам Зянонам Янавічам Ленскім заснаваны

шклозавод.

**1883 год, восень.** Адкрыта школа пісьменства ў Навасёлках ад Мытлянскага прыходу.

**1883 год, восень.** Пабудаваны чыгуначны мост праз Дзітву каля Даржоў, на дарозе Вільня – Баранавічы.

**1893 год, восень.** У Лідскім прыходзе дзве школы пісьменства - у Далекіх і Раклёўцах, у якіх навучаюцца 37 вучняў: 26 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі праваслаўнага веравызнання і 9 хлопчыкаў рымска-каталіцкага веравызнання. Навучанне вядуць: у Далекіх - селянін Антон Міхайлаў Слука, у Раклёўцах - селянін Андрэй Іллін Зайка.

**1893 год, восень.** У Дзікушскіх Баярах адкрыта школа пісьменства.

**1893 год, восень.** У Голдаўскім прыходе выбухнула эпідэмія воспы, якая забрала шмат жыццяў.

**1893 год.** На тытунёва- махорачнай фабрыцы працуе 130 чалавек, у тым ліку 15 мужчын, 75 жанчын, 10 хлопчыкаў, 30 дзяўчынак, выраблена прадукцыі на 47,9 тысяч рублёў, выдаткі склалі 28,5 тысяч рублёў. Заработная плата рабочых у месяц: мужчыны – 15 рублёў, жанчыны – 8 рублёў, хлопчыкі – 5 рублёў, дзяўчынкі – 4 рублі.

**1893 год.** У Пудзіна Лідскага павету адкрыты тартак, паравы рухавік 25 к.с.

**1903 год, восень.** Дваранская навучальня ў Лідзе рэфармавана ў 3 – класную гарадскую школу.

**1903 год, восень.** У Рэймсе (Францыя) на міжнароднай выставе піва піўнога завода М. Пупко, атрымала срэбны медаль.

**1903 год, восень.** Завершана будаўніцтва Васілішскага касцёла з чырвонай цэглы на сродкі прыхаджан, намаганнямі ксяндза Францішка Сакалоўскага.

**1903 год, восень.** Княгіня Трубяцкая купіла Беліцкі ключ, у тым ліку Вялічкі і Пескі ў унука Людвіка Вітгенштэйна.

**1903 год.** Завершана будаўніцтва чыгункі Ліда – Ваўкавыск.

**1903 год.** Будуецца шаша Ліда – Горадня.

**1903 год.** Закончана будаўніцтва механічнага тартака (лесапілкі).

**1913 год, восень.** У Лідзе адкрыта мужчынская дзяржаўная гімназія з двух класаў, 74 вучні.

**1913 год.** На Лідскім аэрадроме на узбраенні 3 паветраплавальнай роты знаходзяцца дырыжаблі “Астра XIII” і “Голуб”

**1913 год.** У Лідскай паштова-тэлеграфнай канторы 3 класа - 22 чыноўнікі. Начальнік Канстанцін Каланкоўскі.



***Аэрастат “Голуб”***

**1913 год.** На шкло заводе Нёман- А працавала 603 рабочых, выраблена 700000 штук сталовага посуду і 35000 штук крыштальных вырабаў на агульную суму 387000 рублёў.

На заводе Нёман –Б. 446 рабочых, прадукцыі выраблена на 328000 рублёў. Асноўныя фонды завода пераваліілі за паўмiліёна рублёў.

**1913 год.** У Лідскім павеце 252,5 тысяч жыхароў.

На тытунёвай фабрыцы 29 работнікаў, газабензінавы рухавік на 10 к.с., прадукцыі выпушчана 7000 пудоў.

**1913 год.** На піўных заводах выпушчана прадукцыі на 155 і 170 тысяч рублёў.

На Перапечацкай цагельні выпушчана прадукцыі на 20000 рублёў.

На Парачанскм бровары паравы рухавік 12 к.с. , 7 рабочых, выпушчана 1,4 млн. градусаў.

**1923 год, восень.** У Лідскім павеце ні адной беларускай школы.

**1923 год**. Адкрыта крама він і гарэлкі Яна Межвы.

**1923 год.** Маёнтак Жырмуны набыў міністр юстыцыі Рэчы паспалітай Аляксандр Мяйштовіч.

**1923 год.** У Лідскім павеце 304 асаднікі.

**1933 год, 1 жніўня.** У звестках Сакратарыяту ЦК КПЗБ паведамлялася, што ў Лідзе ёсць "тройка" арганізацыі камуністаў, але яна звязана толькі з некалькімі вёскамі.

**1933 год, восень.** У першай школе ўведзена сумеснае навучанне хлопчыкаў і дзяўчынак.

Адкрыта ўсеагульная школа № 5 на вул. Гедзіміна, 5.

**1933 год, 20 верасня.** Манькоўскі Міхаіл Міхайлавіч, 56 гадоў Віленскім вайскова-палявым судом за выведную дзейнасць на карысць Савецкага Саюза прыгавораны да смяротнай кары праз павешанне.

**1933 год, 21 верасня.** У Лідскай турме павешаны член КПЗБ М. М. Манькоўскі, цела перадалі жонцы, пахаваны ў Сяльцы.



***Помнік М. М. Манькоўскаму ў Сяльцы***

**1933 год.** Цэны: бульба – 30 грошаў за пуд, жыта – 1,9 злотых, соль – 6 злотых, 1 кг. цукру – 1,75 злотых, карова – 25 злотых.

Сярэдняя дняўная плата 2 – 3 злотых у дзень, мінімальная 1 злоты, самая высокая 6-9 злотых.

**1943 год, жнівень.** Рэдактарам газеты "Уперад" стаў Ю. Б. Драгун.

**1943 год, 19 жніўня.** У Мыто арыштаваны акаўцамі Юстын Іванавіч Халявінскі, забіты ў в. Ваверка стрэлам у патыліцу, труп кінуты ў старую перасохлую студню.

**17 верасня.** Лідскія яўрэі, якія заставаліся ў гета, а таксама дастаўленыя з Воранава, Іўя і інш. адпраўлены ў Майданэк.

**1943 год.** На тэрыторыі Лідскага раёна акаўцамі было знішчана каля 1200 чалавек.

Каля Беліцы акаўцамі быў знішчаны савецкі адзел атамана Бекета.

У Белагрудскай гміне шампаламі збіты і соллю пасыпаны раны больш чым ў 100 сялян. Віна: у паштарце – беларус.

Забіты бургамістр Пінкевіч.

Ілля Кіслы з вёскі Крынкі праводзіў ў Лідзе асветніцкую дзейнасць. Забіты ў пасцелі сонным.

Уладзімір Дрэвіц быў цяжка паранены ў галаву на вуліцы Варшаўскай.

**1943 год, верасень-снежань.** Партызаны Лідскай зоны пастаянна падрываюць цягнікі на чыгуначных лініях Ліда-Менск, Ліда-Баранавічы.

**1943 год, 7 снежня.** З лідскага нямецкага вайсковага лазарэта ўцёк 51 ваеннапалонны. Пры ўцёках знішчылі дзве аўтамашыны, чатыры сапсавалі, забілі немца, разбілі электрарухавік. Групай кіравалі Г. Мершчакоў і С. Сапожнікаў.

**1953 год, 25(26) жніўня.** Грынцэвіч І. А. забіў капітана гараддзела КДБ Стралкоўскага Андрэя Емяльянавіча і двух салдатаў, аднаго цяжка параніў на дарозе каля в. Бердаўка.

**1953 год, 25 чэрвеня і 3 ліпеня.** Парэшткі расстраляных падпольшчыкаў перанесены на праваслаўныя могілкі.

**1953 год, жнівень.** Мантаж і наладка в/ч сувязі Горадня – Шчучын – Ліда.

**1953 год.** На мясакамбінаце праведзена пераабсталяванне забойнага цэха на вертыкальны спосаб раздзелкі жывёлы.

У горадзе адкрыты аўтобусны рух па 1-аму маршруту, на якім працавалі два 16- месныя аўтобусы ГАЗ 03-30.

**1963 год.** Аўтобусны маршрут № 1 пераведзены на абслугоўванне 32-меснымі аўтобусамі ЛІАЗ – 158, на астатніх маршрутах аўтобусы ПАЗ – 651 заменены на 24-месныя 2-х створчатыя ПАЗ – 652.

**1963 год.** Лідскі МКК асвоіў выпуск сухога дзіцячага малака, масла шакаладнага, пашырыў асартымент марожанага і цэльнамалочнай прадукцыі.

Пабудавана першая аўтазаправачная станцыя на вуліцы Энгельса.



*Аўтазапраўка на вул. Энгельса ў Лідзе*

**1973 год, 1 ліпеня.** Пачала працу аўтабаза № 7, пастанова Саўміна ад 12.04.1972 г.

**1973 год, 1 верасня.** Адкрыта музычная навучальня, у якой пачалі працаваць фартэпіяннае аддзяленне, аддзяленне тэорыі музыкі, аддзяленне народных і духавых інструментаў, харавое аддзяленне. Дырэктарам прызначаны Эдуард Кірыленка.

**1973 год, 14 верасня.** Прыняты ў эксплуатацыю летні кінатэатр у гарадскім парку.

**1973 год.** У эксплуатацыю здадзена гасцініца, першы вышынны будынак ў Лідзе.



*Лідская музнавучальня*

**1983 год.** Выдзелена каля мільёна рублёў на рэканструкцыю завода Лідсельмаш.

Пабудаваны адзін з буйнейшых цахоў МДБК – цэх жалеза-бетонных вырабаў № 2. Колькасць працоўных – 700 чалавек. Пачалі выпускаць 2-кватэрныя дамы, пліты для агароджы, фундаментныя блокі, пліты перакрыцця і дарожнага насцілу.

Тавараабарот – 88,7 млн. рублёў.

Ліцейна-механічны завод стаў самастойным.

**1993 год, 25 ліпеня, 22 гадзіны.** Адкрыты помнік Ф. Скарыну.

**1993 год, 1 верасня.** Адкрылася школа - гімназія на базе СШ № 7.



*Лідская гасцініца*

**1993 год, 27 верасня.** Адкрылася СШ № 17. У горадзе 16 школ, і адна гімназія. Самая вялікая школа № 15- 2051 вучань, 90 класаў, 124 настаўнікі. Самая маленькая – СШ №2 ЗПР – 201 вучань, 15 класаў, 29 настаўнікаў.

**1993 год, верасень.** У Беліцы асвечана праваслаўная царква Узвіжання Крыжа Божага.

**1993 год. 29 кастрычніка.** Фабрыка па рамонту і пашыву абутку выкуплена ў калектыўную ўласнасць і пераіменавана ў народнае прадпрыемства ТЭМП .

**1993 год, лістапад.** Закончана рэканструкцыя ОРУ – 110 кВ ПС Ліда-С. Уведзена ў эксплуатацыю ПС Навапрудцы 110/10 кВ-2х6,3 МВА. Рэканстукцыя ПС Тарнова гасспосабам.

У ЛЭС створана лабаратарыя АСУ.

**1993 год, лістапад.** Вучаніца 3 класа Лідскай музычнай школы Дзінара Мазітава (9 год) стала лаўрэатам Рэспубліканскага фэстывалю кампазітараў.

**1993 год, снежань.** На міжнародным конкурсе юных кампазітараў “Надзея – 93” перамог навучэнец Лідскай музычнай навучальні Яўген Ларыёнаў.

**1993 год.** У Лідзе з’явілася авіябаза.



***Праваслаўная царква Ўзвіжання Крыжа Божага ў Беліцы***

# Лідскія юбіляры 2003 года

**Бірута (Даравінская Амелія)** (1863-27.07.1891) настаўнічала ў Лідскім павеце, апублікавала легенду “Сосны ў Лідзе” (1889), “Беларускія песні з Лідскага павету” (1892). Аўтар манаграфіі “Народ Лідскага павету” ( не захавалася).

**Бабкоўскі Андрэй** (Bobkovski Andrzej, 1913-1961). Нарадзіўся ў Лідзе, пахаваны ў Гватэмале. Празаік, эсэіст, драматург. З 1939 г. у Парыжы, працаваў у часопісе “Szhice piorkiem” (1940-44), з 1948 г. у Гватэмале.

**Пашкевіч Густаў** (1893-1954). Нарадзіўся ў Васілішках Лідскага павету. Падпалкоўнік расейскай арміі, камандзір 1 палка 14 пяхотнай польскай дывізіі (1920), камендант Варшаўскай школы падхарунжых (1924), камандзір 12 пяхотнай дывізіі (1935-39), камандзір 1 брыгады стральцоў (1940), командзір 1 польскага корпуса (1943-45), командзір дывізіі (1945-46), камандуючы Варшаўскай вайсковай акругі (1947-49). Генерал брыгады (1939). Узнагароджаны ордэнамі Святого Станіслава, Святой Ганны, Святого Уладзіміра, трыма ордэнамі Віртуці Мілітары (у Польшчы толькі тры чалавекі мелі па тры ордэны Віртуці Мілітары.)



**Андрэй Бабкоўскі**

**Будзько (дзяв. Бушэйка) Антаніна Філіпаўна** (1943 г. н.) - закончыла Бярозаўскую сярэднюю школу (1959), Менскі інстытут замежных моваў (1966). Аўтар навучальных дапаможнікаў для студэнтаў і падручнікаў для школ “Deutsch 2” (1993), “Deutsch 3” (1995), дапаможніка “Настольная кніга для выкладчыка замежнай мовы” (1993,1997 у сааўт.)

**Груша Рычард Баляслававіч**. Нарадзіўся 27 ліпеня 1963 г. у в. Сцеркава. Закончыў Бердаўскую СШ, вучыўся на аднагадовых курсах мастакоў-афармляльнікаў пры Гарадзенскім метадычным цэнтры народнай творчасці. Мастак-афармляльнік у калгасе “Бердаўка”. Служба ў войску ў Ленінградзе ў Вайскова-медычнай Акадэміі ім. Кірава ў батальёне забеспячэння навучальнага працэсу. Вярнуўся афармляльнікам у калгас, у Сцеркаве арганізаваў ВІА, у якім граў на бас-гітары. Закончыў завочнае аддзяленне Маскоўскага народнага універсітэта мастацтваў па спецыяльнасці “станковы жывапіс”. З 1987 г. пачынае займацца афармленнем дзіцячых садкоў разбярнымі драўляным вырабамі. У 1989 г. выконвае кампазіцыю “Сымон-музыка” для д/с № 15. У 1993 г. стварае МП “Дызайн”, якое займаецца дабраўпарадкаваннем, устанаўлівае помнік Францішку Скарыну ў Лідзе, І. Гашкевічу ў Астраўцы. У 1991 г. устанаўлівае каля 25 дубовых скульптур у д/с Воранаўскага раёна. У 1993-94 афармляе вестыбюль цэнтральнай раённай паліклінікі разбярнымі драўлянымі вырабамі. У 1995 г. разам з Юрыем Някрасавым арганізуе школу жывапісу для дзяцей і дарослых. З 1993 г. займаецца апрацоўкай прыроднага каменю


**Рычард Груша**

для надмагільных помнікаў. У 2000 г. распрацоўвае і ўстанаўлівае памятны знак - камень да 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова на вул. Савецкай.

Мастак-жывапісец. Асноўны кірунак творчасці - беларускі пейзаж. Пейзажы Р. Грушы экспанаваліся ў штаб - кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы. У актыве Р. Грушы больш дзесятка персанальных выставаў, удзел у шэрагу выставаў калектыўных. Рычард Груша аўтар і выканавец памятных знакаў І. Дамейку, А. Міцкевічу, Я. Быліну, І. Гашкевічу, У. Сыракомлю, бацьку І. Дамейкі. За памятны знак І. Дамейку ўганараваны дыпломам камісіі па справах ЮНЕСКА. Устанавіў камяні да свята сярэднявечнай культуры ў Нясвіжы, дня беларускага пісіменства і друку ў Полацку, да дажынак у Пружанах, на месцы расстрэлу лідскіх яўрэяў і інш. Помнік на месцы Навaградскага катла аднесены да помнікаў 3-й катэгорыі.

Паэт. Аўтар больш 200 вершаў на беларускай і рускай мовах. На вершы Рычарда Грушы напісана 18 песень кампазітарамі з Горадні, Ліды, Астраўца.

**Рынкевіч (Рынковіч) Алена Васілеўна** (нарадзілася 30.09.1923 г.) У 1939-1945 гг. жыла з сям'ёй у Лідскім раёне - у Сцеркаве і Бердаўцы. Беларуская актрыса, з 1948 г. у тэатры ім. Я. Купалы, заслужаная артыстка БССР (1968).

Бацькі - сельскія настаўнікі. Бацька Васіль Віктаравіч (1894- ?) - заг. ПШ. Маці Вера Рыгораўна (1899-?) - настаўніца. Жылі: Сцеркава (1941-43), Менск (1943-44), Сцеркава (з 5.08.1944).

**Бартосік Іван Станіслававіч.** Беларускі майстар мастацкіх шкловырабаў, шліфавальнік, алмазнік. Нарадзіўся 1.11.1993 года ў Бярозаўцы Лідскага р-на. З 1949 года працаваў на шклазаводзе Нёман. Распрацаваў уласныя прыёмы ў тэхніцы алмазнай гравіроўкі, шліфаваў малюнкі на творах з крыштальнага шкла. Уласныя творы: капмлекты святочнага посуду (1966), "Дэсертны" (1968 ), "Ваза" (1970), "Гранат" (1978), прыборы "Крыштальнае свята" (1967), "Стройны" (1980), посуд пад гародніну (1972), сервіз (1977), ваза пад гародніну ў стылі "рэтра" (1982).

**Сямашка Віталь Канстанцінавіч.** Нарадзіўся ў Лідзе 16.11.1963 года, закончыў СШ. № 11, факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў на радыёстанцыі "Беларуская маладёжная" (стварыў новы праект, новую каманду, якая дасягнула 60% слухання аўдыторыі), намеснік генеральнага дырэктара БТ, лаўрэат прэміі саюза журналістаў за першы цыкл антыкамуністычных матэрыялаў у 1991 годзе, дыпламант усесаюзнага конкурсу тэлепраграм, лаўрэат першага міжнароднага конкурсу кіна-тэлепраграм "Правапарадак і грамадства", у якім удзельнічала 400 тэлекампаній краін СНД і Балтыі ў намінацыі "Барацьба з наркотыкамі". Сябар рэспубліканскай рады Беларускай асацыяцыі журналістаў. Спецыяльны прыз на міжнародным фестывалі моладзевых праграм ў Празе за нарыс "Прага жыцця" пра лідзяніна клоўна-тэрапеўта Андрэя Арыніча, карэспандэнт спецыяльных праектаў БелТА, журналіст радыё"Свабода", аўтар ідэі і сцэнару фільма "Аазіс" прысвечанага 10 - годдзю Чарнобальскай катастрофы, прэм'ера якога адбылася на канале "АРТЭ".

**Валодзька Ядвіга Тадэвушаўна.** Нарадзілася 18 снежня 1933 года. Закончыла Лідскую вячэрнюю школу і Віцебскі медінстытут. Кандыдат біялагічных навук. Старэйшы навуковы супрацоўнік інстытута фізіялогіі АН Беларусі.

**Філіпчык Лявон Георгіевіч** (21.12.1903 - пасля 1964) нарадзіўся ў Лідзе, закончыў гімназію імя К. Хадкевіча ў 1924 годзе. З 1925 года вучыўся ў Віленскім універсітэце імя С. Баторыя. У 1933 г. абараніў дыплом на годнасць магістра філасофіі ў вобласці хіміі. З 1929 г. малодшы асістэнт Віленскага універсітэта, з 1935 г. старшы асістэнт. У 1939 г. абараніў доктарскую дысертацыю "Аб хуткасці хімічных рэакцый ў сумесі водна-няводных распушчальнікаў". Паведамленне аб абароне было апублікавана ў часопісе "Штомесячнік хіміі" за 1939 г. Працаваў ў Віленскім універсітэте да яго ліквідацыі літоўскімі ўладамі ў 1940 годзе. Пасля ліквідацыі універсітэта паступіў у хімічную лабараторыю дырэкцыі Літоўскай чыгункі, дзе працаваў да пачатку вайны. У вайну жыў у Вільні і быў featuresрабочым: пілаваў дровы, вазіў пясок, быў шаўцом. Пасля вызвалення Вільні – тэхнічны кіраўнік, затым старшыня арцелі "Оптыка". З другой паловы 1945 г. па 1949 г. быў загадчыкам хімічнай лабараторыі Літоўскай геалагічнай управы. У другой палове 1949 г. загадам Міністэрствам геалогіі СССР пераведзены начальнікам хімічнай лабараторыі Ленінградскага геалагічнага ўпраўлення. Жыў у Ленінградзе 7 месяцаў, вымушаны быў пакінуць працу ў сувязі з дрэннымі кватэрнымі ўмовамі. З 1950 г. па 1959 г. настаўнік матэматыкі СШ № 1, з 1959 г. завуч СШ № 9, выдатнік народнай асветы, жыў у Лайкаўшчызне.

**Міхась Мельнік**

# ЛІДА - ГОРАД СКАРЫНЫ

## Да 10-годдзя ўстаноўкі ў Лідзе помніка Францішку Скарыну

*Будзем думаць, вучыцца тварыць*
*Так, як ты, у сваёй мове, Скарына.*
*ЛарысаГеніюш.*

На ажыўленым месцы горада Ліды, паблізу Фарнага касцёла ў скверы па вуліцы Савецкай, узвышаецца бронзавая фігура Францішка Скарыны – вялікага гуманіста, перашадрукара, мастака-графіка, пісьменніка, вучонага энцыклапедыста, беларускага асветніка і выдатнага дзеяча культуры эпохі Адраджэння. Мудра і проста вырашана мастакоўская задума: паказаць сапраўднага Скарыну, сына зямлі беларускай. Пастава першадрукара – постаць у рост. Адзенне яго, дарэчы, як увесь помнік, у рэнесансавым стылі. Што датычыцца знешняга аблічча Ф. Скарыны, то таленавіты беларускі скульптар Валеры Янушкевіч захаваў у гэтым вобразе падабенства з вядомай распаўсюджанай гравюрай. Скульптура размешчана на шырокім пастаменце, выкананым з граніту. Добраўпарадкаванне навакольнай тэрыторыі каля помніка, архітэктурнае аздабленне, устаноўку манумента за кошт грашовых сродкаў Лідскага гарвыканкама выканала малое прадпрыемства "Дызайн" (кіраўнік і мастак Рычард Груша). Вось ён, Францішак Скарына, велічны, спакойны, з надзеяй і спадзяваннем у вачах, пазірае на нас і нібы гаворыць: "Бярыце і чытайце" Скарына вярнуўся ў Ліду, вярнуўся на Беларусь, як некалі неадольна вяртаўся на радзімую зямлю, каб падараваць людзям шчасце асветы. Магчыма і маюць рацыю вучоныя, калі сцвярджаюць на падставе розных дакументаў, што шлях зносін паміж Кракавам і Вільняю да канца ХУІ стагоддзя ляжаў праз Ліду-Слонім-Берасце.

Зусім верагодна, што Ф. Скарына ехаў вучыцца з Полацка ў Кракаў праз наш горад, а таксама вяртаўся з Прагі і Кракава ў Вільню старадаўнім гасцінцам праз Ліду. І гэта вельмі важна, што помнік Ф. Скарыну ў Лідзе адкрыўся фактычна на беларускай частцы Віленшчыны, дзе Ліда заўсёды была значным культурным і эканамічным цэнтрам. Менавіта на гэтай зямлі ў старадаўняй Вільні, у доме "найвышшага" бурмістра Якуба Бабіча, у 1522 годзе ўбачыла свет "Малая падарожная кніжка" – зборнік рэлігійных і свецкіх твораў ад "Псалтыра" да "Саборніка", першая друкаваная кніга на сучаснай тэрыторыі Беларусі, Украіны і Расіі.

Мы ганарымся, што Францішак Скарына быў у нашым горадзе, бачыў старажытны замак, сустракаўся з лідзянамі... і таму ў канцы 1989 года Лідская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выступіла з прапановаю ўстанавіць у Лідзе помнік знакамітаму Беларусу, які з'яўляецца гонарам нашай нацыі, нашай дзяржавы. Была распачата высакародная акцыя па збору сродкаў на збудаванне помніка. Неабходна адзначыць упартыя намаганні ў гэтым кірунку сяброў гарадской рады ТБМ Марыі Саўкевіч, Марыі Ганчар і іншых. На адмысловы разліковы рахунак у банку пералічвалі грашовыя сродкі амаль усе першасныя суполкі ТБМ школ, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, дзіцячых садкоў, а таксама грамадскія арганізацыі; (гарком партыі і гарком камсамолу), малыя прадпрыемствы ("Каскад" і інш), дзяржаўныя прадпрыемствы (абутковая фабрыка, завод "Оптык", аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі), многія простыя грамадзяне.



**Сябры ТБМ каля помніка Францішку Скарыну ў Лідзе 26.07.2003 г.**

Таксама ў Менскі скульптурны мастацка-вытворчы камбінат, дзе вырабляўся помнік, вялікія грошы па тых часах пералічылі Міністэрства фінансаў Рэспублікі Бе-

ларусь, Гарадзенскі аблвыканкам і Лідскі гарвыканкам.

Неабходна заўважыць, што адметнае ў ініцыятыве стварэння помніка першадрукару – масавасць, шырокая падтрымка грамадскасці, а пасля – і ўладных структур. Усе стараліся ўкласці свой рубель у высакародную задуму. Але напачатку колькі было горкіх неспадзяванак! І, як у нас заведзена, часта натыкаліся на чыноўніцкабюракратычныя бар'еры. Не ўсе адразу ўспрынялі прапанову, была нават на працягу трох гадоў цэлая дыскусія на старонках лідскай газеты. Многія пісалі: навошта нам гэтыя помнікі: навошта ўвогуле культура, трэба каўбасы і сала. Прыкра было такое чытаць…

---

***НА ПОМНІК СКАРЫНЕ Ў ЛІДЗЕ***

*У Лідскім аддзяленні Жылсацбанка адкрыты рахунак гарадской рады таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.*

*Мы звяртаемся да кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў, кааператыўных гаспадарак, грамадскіх і рэлігійных арганізацый, першасных суполак ТБМ, усіх грамадзян, хто неабыякавы да лёсу беларускай мовы, дапамагаць адраджэнню і развіццю мовы нашага народа, які вынес праз стагоддзі безліч пакут, здзекаў, прыніжэнняў. Хай жыве запаветам у нашых сэрцах напамін вялікага Ф.Скарыны пра любоў і замілаванасць да родных мясцін і роднага слова, а таксама палымяны Багушэвічаў наказ: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!"*

*Сябры, унясіце свой уклад на рахунак 000700873! Вашы сродкі пойдуць на прапагандысцкую, арганізацыйную, гаспадарчую і іншую дзейнасць на карысць нацыянальнай мовы і культуры, а таксама на адкрыццё помніка Францішку Скарыне на плошчы імя 600-годдзя Ліды.*

***М. Мельнік, старшыня гарадской рады Таварыства беларускай мовы.***

*(Лідская газета "Уперад", 30.02.90 г.)*

***"НЕ, МАЕ ДАРАЖЭНЬКІЯ!"***

*Паважаная рэдакцыя газеты "Уперад"! Прачытала артыкул у вашай газеце за 7 красавіка "Будзе ў горадзе помнік Ф.Скарыну", з якога даведалася, што на гэты самы помнік патрабуецца народных грошай больш як сто тысяч. Нічога сабе сума! На маю думку, у нас вельмі шмат нявырашаных пытанняў, і ўзводзіць пампезнасці няма патрэбы. У нас у горадзе няма Палаца піянераў, Палаца культуры, музычнай школы, маладыя сем'і туляцца па "абшчагах" – вось аб чым упершую чаргу трэба падумаць, а неўзводзіць такія дарагія помнікі...*

***Е. Баязлівая, г. Ліда.***

*(Лідская газета "Уперад", 25.04.90 г.)*

## *Мы супраць помніка*

*Днямі ў газеце быў надрукаваны водгук Е. Баязлівай на артыкул "Будзе ў горадзе помнік Ф. Скарыну". Яна вельмі правільна напісала. У нас жа столькі людзям патрабуецца жылля, а мы думаем пра помнікі. Напрыклад інвалід І. Васільеў, які пражывае па вуліцы Труханава, 35, ужо, напэўна, гадоў дзесяць дабіваецца, каб яму палепшылі жыллёвыя ўмовы, просіць правесці прыродны газ (300 метраў ад дома). Яму ва ўсіх інстанцыях гавораць, што на гэта няма сродкаў. А тут помнік! Хай Скарына быў вялікім чалавекам, але гэты помнік жыццё людзям не палепшыць. Гэта сто тысяч рублёў! І гэта народных! З кім даводзілася размаўляць на гэту тэму, усе абураны.*

*Ад жыльцоў вуліцы Труханава напісала*

***В. КРАПІВІНА.***

*(Лідская газета "Уперад", 16.05.90 г.)*

## *Памяць аб вялікім – свяшчэнны рытуал*

*Помнік жа нашаму вялікаму беларусу Ф.Скарыне мяркуецца ўзвесці на народныя грошы. Пра гэта ўжо не раз пісалася і паведамляўся рахунак № 000700873 у Лідскім аддзяленні Жылсацбанка, на які можна пералічыць пэўную суму сваіх грошай. Канешне, добраахвотна і ні ў якім разе не пад нейкім прымусам. Карацей, хто колькі зможа.*

*Дарэчы, пры такой народнай ініцыятыве быў пабудаваны помнік Мініну і Пажарскаму, які стаіць на галоўнай плошчы нашай сталіцы Краснай у Маскве.*

*Такіх прыкладаў тысячы. Ёсць ёні ў нашым горадзе. Па ініцыятыве польскага таварыства, якое дзейнічае ў Лідзе, быў пабудаваны і адкрыты на народныя грошы помнік польскаму паэту Адаму Міцкевічу.*

*Журналісты рэдакцыі газеты "Уперад" таксама далучающа да гуманнай акцыі і рашылі пералічыць на пабудову помніка славутаму земляку ганарар аднаго нумара газеты.*

*Увекавечыць памяць Скарыны, канешне, трэба і ў іншых духоўных і матэрыяльных каштоўнасцях. Духоўная спадчына не павінна пакідаць нас. Гэта адраджае нашу свядомасць, нашу годнасць і нашу вялікую павагу да продкаў, якія жылі і тварылі ў імя нашай будучыні.*

*З павагай*

***Г. Бараўцоў, загадчык аддзела культуры рэдакцыі газеты "Уперад".***

## *Какой нужен памятник?*

*Из Лиды пришла информация: городская рада Общества белорусского языка имени Франциска Скорины открыла счет для сбора средств на возведение в городе памятника первопечатнику, пятисотлетний юбилей которого широко отмечается. Поступили первые взносы.*

*Вроде бы надо радоваться столь замечательной инициативе – будет еще один памятник знаменитому просветителю. Но возникает вопрос: почему выбран именно этот город? Вот и Министерство культуры республики, к которому обратилась городская рада общества, не увидела необходимости установления такого памятника именно в Лиде. И в этой позиции, на мой взгляд, есть немалый смысл. Гораздо ближе к гродненской земле, ее истории творчество и биографии таких, скажем, писателей, как Валентин Тавлай, Тетка – наша песенная Элоиза Пашкевич, предвосхитившая свой поэзией творчество Купалы, Коласа, Богдановича.*

*К тому же, как указывается в ответе министерства, проект предлагаемого к установке в Лиде памятника работы скульптора В.Янушкевича участвовал в республиканском конкурсе. И коль было решено, что он не украсит Минск, то возникает вопрос – прибавит ли архитектурной гармонии Лиде более чем четырехметровая бронзовая фигура белорусского первопечатника?*

***В. Саласюк. (Собственный корреспондент "Советской Белоруссии" по Гродненской области.)***

*("Советская Белоруссия", 1990 г.)*

## *Помнік Ф. Скарыне – важная справа*

*... Але вярнуся зноў да помніка Ф.Скарыне. Людзі ў далёкай Італіі, у Падуі ўвекавечваюць памяць аб першадрукару. А мы на тэрыторыі, дзе друкаваў свае кнігі Ф.*

*Скарына, забываем нашага земляка. Мне здаецца, мы павінны ганарыцца, што менавітаў нашым горадзе будзе знаходзіцца гэты помнік Вядома, грошы пойдуць немалыя. Але хіба наш горад такі маленькі і бедны, што ўяго не хопіць грошай фінансаваць гэтую справу? Здаецца, не. Але калі так здарыцца, то ўсё роўна з любога становішча можна знайсці выйсце. Я, напрыклад, згодна з людзьмі, якія лічаць, што на помнік могуць пералічваць грошы не толькі жыхары нашага горада, але і Лідскага раёна, нават жыхары ўсёй Гродзенскай вобласці...*

**В. Гурневіч, навучэнка педвучылішча.**

*(Лідская газета "Уперад", 25.05.90 г.)*

### ПАМЯЦІ - ЖЫЦЬ

*Пытанне аб устаноўцы помніка Ф. Скарыны мае большае маральнае значэнне, чым матэрыяльнае, г. зн. усведамленне намі патрэбнасці знакагістарычнай памяці аб вялікім нашым земляку.*

*Чалавек жыве не толькі ў геаграфічным, але і ў пэўным культурным асяроддзі, якое выхоўвае яго. Факт яго ўздзеяння на людзей не належыць самаму малому сумненню. Культура неабходна для маральнага жыцця, для яго прывязанасці да сваіх месц, да сваіх продкаў, да сваёй гісторыі. Гэта шматвобразны комплекс, які змяшчае ў сабе і ўзровень духоўнага жыцця народа, і ўзровень адукацыйнасці, мовы, узаемаадносін людзей і г. д...*

*...Патрыятызм нельга выхаваць толькі заклікамі і абяцаннямі. Думаю, што канкрэтным укладам у адраджэнне гонару за свой народ, за лепшых яго прадстаўнікоў магло б быць устанаўленне помніка вялікаму асветніку эпохі Адраджэння, першаму беларускаму друкару. Думаю, што ў нас у горадзе няма патрэбы ў помніках-гігантах, але помнік, які б гістарычна ўпісаўся ў гістарычную частку горада, несумненна патрэбны...*

**С. БІЛЬДЗЬ.**

*(Лідская газета "Уперад", 25.05.90 г.)*

### ЗНОЙДУЦЦА ДОБРААХВОТНІКІ

*Асабіста я не супраць помніка Ф.Скарыне. Але чаму іменна ён будзе каштаваць 100 тысяч рублёў, а не 10 ці 20? Наколькі я ведаю, помнік будуць рабіць у БССР, а не за мяжой. Каляровы метал для адліўкі можа сабраць насельніцтва, з цэментам, пяском і іншым для пастамента, думаю, дапамогуць шматлікія будаўнічыя арганізацыі нашага горада.*

*Калі патрэбна фізічная дапамога – знойдуцца добраахвотнікі. Застанецца знайсці беларускага скульптара-патрыёта, які за ўмераную плату зробіць для нашага горад і беларускага народа помнік вялікаму асветніку.*

**П. Івашкевіч** *("УПЕРАД", 1.08.90 г.)*

## А грошы трацяцца…

*Што датычыцца маёй думкі наконт помніка Ф.Скарыне, то скажу шчыра: я – за ўвекавечванне памяці Ф.Скарыны.*

*Толькі не за такія сродкі. Дарэчы, можна помнік устанавіць на той жа вуліцы Перамогі, знёсшы забруджаныя платы і старыя хаты. Тут можна зрабіць добры скверык, тым больш, што адпачыць у гэтым раёне горада няма дзе. І работу гэту можна правесці за лік энтузіястаў, дзе і я асабіста мог бы папрацаваць у вольны час.*

*І яшчэ хачу сказаць: таварышам У. Шобіку, К. Янчуку, іншым кіраўнікам горада варта часцей сустракацца з людзьмі, каб ведаць думку. Тады і непрыемныя сітуацыі будуць радзейшымі. Вось, да прыкладу, наша вуліца Ясная знаходзіцца паміж дзвюма чыгункамі. Тут жа пабудавана шмат гаражоў, а ўмінулым годзе хацелі пасадзіць яшчэ новыя. Добра, што гарвыканкам не зацвердзіў такое рашэнне. Я разумею: месца для начальніцкіх гаражоў добрае, але навошта псаваць здароўе людзям, якія тут жывуць. Трэба ж нарэшце зразумець, што народнае цярпенне не бязмежна.*

**В. Мацкевіч, жыхар горада..**

*("Уперад" 3.08.1990 г.)*

### ЗБІРАЕМ ГРОШЫ НА ПОМНІК

*Першыя складкі ў Лідзе на пабудову помніка Францішку Скарыне паступілі ад калектываў абутковай фобрыкі, завода "Оптык", жыллёва-камунальнай гаспадаркі, педагагічнага і музычнага вучылішчаў, гаркама і райкама камсамола, першасных суполак ТБМ сярэдніх школ, дзіцячых садкоў.*

*З ініцыятывай пабудовы помніка выступіла Лідская гарадская рада ТБМ імя Францішка Скарыны. Той, хто жадае, можа дапамагчы ў пачэснай справе, пералічыўшы грошы на разліковы рахунак № 000700873 Лідскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы ў аддзяленні Жылсацбанка г. Ліды.*

**Міхась Мельнік, старшыня Лідскай гарадской Рады ТБМ імя Францішка Скарыны, дэпутат Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў.**

*("Наша слова", 4-10 верасня 1991 г.)*

---

Народныя, kроўныя рублі абясцэньваліся, а стос дакументаў – перапіскі станавіўся ўсё больш важкім. Ды што казаць, не толькі газета "Советская Белоруссия", але і Міністэрства культуры выступіла супраць будаўніцтва помніка Ф. Скарыну ў Лідзе, бо, маўляў, першадрукар не меў адносін да гэтага горада… Дык няўжо большыя адносіны меў Ф. Энгельс, чыя асоба ўвекавечана ажно ў адной доўгай вуліцы і чатырох завулках? І народ усё-такі нас падтрымаў… Малады менскі скульптар Валеры Янушкевіч з гонарам выканаў замову лідзян.

25 ліпеня 1993 года. Нядзеля… Такога свята старажытная Ліда, мабыць, не ведала за ўсю сваю шматгадовую гісторыю. Урачыстасці былі прысвечаны Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь і адкрыццю помніка Францішку Скарыну. Гэта гістарычная падзея вызначалася сваім яскравым нацыянальным зместам, адметным і выразным беларускім духам. Гэтай знамянальнай падзеі былі прысвечаны і Міжнародныя гістарычна-краязнаўчыя чытанні ў Лідзе, якія адбыліся 24-26 ліпеня 1993 года, арганізаваныя Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыяй, Гарадзенскім аддзяленнем Беларускага фонду культуры, Гарадзенскім абласным саветам Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Лідскім гарвыканкамам і Лідскай гарадской радай Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Дзейнасць і жыццё Ф. Скарыны сталі тэмай асаблівай увагі, а многія факты і ідэі скарыназнаўства ўпершыню ўведзены ў навуковы зварот. Перад прысутнымі выступілі вядомыя навукоўцы з Масквы і Менска, Вільні і Горадні, мясцовыя краязнаўцы.

Па пэўных прычынах, праўда, не прыбылі ў Ліду, як чакалася, нашчадак вялікага асветніка С. Скарына з Манрэаля, А. Мальдзіс з Менска, Ю. Туронак з Варшавы, Ю. Лабынцаў з Масквы. Аднак іх рэфераты былі зачытаны на гэтай змяс-

тоўнай і запамінальнай сустрэчы. Вельмі цікавымі былі выступленні А. Нарбута (г. Масква), В. Рамука (Чыкага, ЗША), В. Чарапіцы, А. Майсяёнка, А. Краўцэвіча, В. Шведа, Ф. Ігнатовіча, Л. Шагуна (усе з Горадні), І. Панцюка, Т. Разуменка, І. Сосны, Л. Кулажанкі, М. Чарняўскага, У. Васілевіча (усе з Менска), А. Чэмера (г. Вільня) і іншых, а таксама мясцовых краязнаўцаў А. Жалкоўскага, В. Сліўкіна, М. Булая, У. Логаша.

Яшчэ напярэдадні гараджане з сумам паглядалі на хмурнае неба, адкуль некалькі дзён запар ліў дождж. Але 25 ліпеня як па заказу (быццам бы Вышэйшыя сілы вырашылі аддзячыць вялікаму беларусу за яго вычын па выданні "Бібліі" на роднай мове) хмары рассеяліся, заблішчэла сонейка, і людзі з палёгкай уздыхнулі – свята не будзе сапсавана.

А 12 гадзіне дня ля зсівелых муроў старажытнага Лідскага замка на плошчы імя 600-годдзя горада адбылося ўрачыстае адкрыццё свята. Разнастайная насычаная праграма была прапанавана лідзянам і гасцям горада, у тым ліку з далёкага і блізкага замежжа. Гэта і выступленні вядомых прафесійных калектываў, як ансамбль танца "Харошкі", ансамбль песні і танца і духавы аркестр Мiністэства абароны Рэспублікі Беларусь, камерны хор, артысты тэатра імя Я. Купалы і тэатра сатыры і гумару "Хрыстафор", ансамблі "Бліскавіца", "Рунь", "Чысты голас", "Музыкі", шоў-група "М+М", самадзейныя артысты мясцовых ансамбляў "Лідчанка" і "Чаравічкі", гэта і канцэрт майстроў эстрады, гэта і выступленне аршанскага і лепельскага тэатраў сатыры, кірмаш, выстава-продаж прадукцыі прадпрыемстваў горада, народных умельцаў і мастакоў, спартыўна-забаўляльная праграма, вершнікі на конях і гістарычныя персанажы, адкрыццё мастацкай галярэі (у былым будынку сямейных урачыстасцяў), дзе была выстава работ вядомых мастакоў з Менска У. Стальмашонка, А. Кашкурэвіча, У. Гоманава, І. Рэя ды іншых, а таксама лідскіх мастакоў У. Мельнікава, А. Судара, А. Вараксы, Т. Лук'ян, Л. Мягковай (г. Бярозаўка), А. Мурахвера (г. Бярозаўка), скульптара Р. Грушы (г. Ліда) і выхаванцаў СШ № 14 з архітэктурна-мастацкім ухілам. Было шмат і іншых цікавых святочных імпрэзаў. Здаецца, вуліцы і плошчы горада ў гэты дзень дыхалі паветрам незалежнасці; паветрам адраджэння.

Шчырыя віншаванні і пажаданні ў адрас лідзян выказалі ў сваіх тэлеграмах Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч, які ў гэты час знаходзіўся з афіцыйным візітам у ЗША, а таксама прэзідэнт Згуртавання беларусаў Свету "Бацькаўшчына", акадэмік Радзім Гарэцкі, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, бургамістр германскага горада-пабраціма Порта-Вестфаліка, прэзідэнт польскага горада-пабраціма Кашаліна, Маргарэт Тэтчар з Англіі і іншыя. Сярод гасцей, прыбыўшых у Ліду на свята горада і на адкрыццё помніка Ф. Скарыну, былі Міністр замежных справў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка, намеснік старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі; культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Алег Трусаў, намеснік міністра культуры Дзмітры Бубноўскі; намеснік міністра інфармацыі Іван Карэнда, намеснік старшыні Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Яўген Цумараў, пісьменнік Уладзімір Шнэк-Случанскі з Аўстраліі, адзін з кіраўнікоў федэральнай рады беларускіх арганізацый Аўстраліі Алег Шнэк, Вітаўт і Вера Рамукі, дэлегацыі з Бураціі, Менска, Горадні, Смаргоні, Навагрудка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы, паэтэса Данута Бічэль-Загнетава, намеснік старшыні камісіі Гарадзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў па навуцы, культуры, адукацыі і выхаванні, старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, прафесар Андрэй Майсяёнак – і гэта не поўны пералік.

... І вось на вялізнай сцэне, змайстраванай напярэдадні свята каля замка, з'явіліся артысты ў беларускіх нацыянальных строях, а цёплыя парывы ветру панеслі іх песню высока ў неба, на даляглядзе з'явіліся на прыгожа ўбраных конях вершнікі ў латах і кальчугах, быццам маладыя воіны князя Гедзіміна паўсталі з мёртвых перад сваімі нашчадкамі, каб яшчэ раз нагадаць: "Сёння ў вас вялікае свята... Вы здабылі яго ў цяжкай барацьбе. Дык нясіце наш герб і бел-чырвона-белы сцяг, беражыце íàø ó ðî äí óþ ì îâó, ÿê êàë³ñüö³ áåðàãë³ ì û, âàø û



*На святкаванні Дня незалежнасці Беларусі і адкрыцця помніка Ф. Скарыну ў г. Лідзе 25 ліпеня 1993 года. Злева направа: Вітаўт Рамук, Вера Рамук (Чыкага), Уладзімір Малец (мэр г. Ліды), Марыя Ганчар , Міхась Мельнік.*



**Пісьменнік з Аўстраліі Уладзімір Шнэк-Случанскі, удзельнік свята па ўстаноўцы помніка Ф. Скарыну ў Лідзе**

продкі з Вялікага Княства Літоўскага!...” Тры выбухі з гарматаў. Усе ажывіліся, узрадаваліся дзеці.

- Па Радзіме ідзе свята, - гаворыць мэр горада Ліды Уладзімір Малец.

Старшыня гарсавета пажадаў, каб свята яшчэ больш аб’яднала ўсіх нас, і закончыў выступленне заклікам “Жыве Беларусь!” Гэта выклікала вялікае ўзрушэнне сярод людзей на плошчы.

Затым – афіцыйныя прамовы, якія не паспелі нікога стаміць, захапляльныя выступленні артыстаў.

Але, бадай, самае галоўнае ў праграме свята – адкрыццё помніка Францішку Скарыну. Калі ў горад прыйшло змярканне, наступіў кульмінацыйны момант свята. У 22 гадзіны пачалося шэсце да помніка Ф. Скарыну.

... У прамовах перад манументам дзяржаўныя дзеячы, кіраўнікі горада і раёна, госці, аўтар Валеры Янушкевіч узнёсла гаварылі пра адкрыццё помніка першадрукару ўсходніх славян, як пра вялікую падзею ў жыцці нашай Бацькаўшчыны, аб слаўных справах Скарыны...

Тысячы людзей у святочным настроі з хваляваннем чакалі моманту, калі спадзе белае покрыва. І гэты момант настаў... З невыказнай узрушанасцю сцягваюць покрыва **Валеры Янушкевіч, Рычард Груша і Міхась Мельнік.** Перад вачыма прысутных пры асвятленні яркіх пражэктараў і каляровых лямпачак паўстала ва ўвесь рост постаць тытана беларускага і еўрапейскага Адраджэння, нашага вялікага асветніка і гуманіста Францішка Скарыны. Раздаюцца бурныя апладысменты, бадзёрыя крыкі: “Ура!” Грыміць салют у гонар знамянальнай падзеі. Пры святле ілюмінацыі чароўна льюцца мелодыі камернага хору Менскага музычнага ліцэя. Да падножжа помніка ўскладваюцца кветкі, сотні людзей запалілі свечкі, і ўжо не стрымаць рух да манумента. Свечкі і ружы – цяпло і адданасць.

У гэты час на небе расцвілі каляровыя агеньчыкі святочнага феерверку.

Раптам раскалола неба бліскавіца. Нібы пацвердзіла, што адбылося нешта вялікае, незвычайнае, нібы адказала на выбухі святочных гарматаў, што збудзілі ў гэты вечар жыццё ў Лідзе. Вось ён, Францішак Скарына, паўстаў ля дарогі, увайшоў у наш лёс, каб зноў сказаць нам: ***“...Ад прыраджэння звяры, што ходзяць у пустыні знаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і тым падобнае бароняць вулляў сваіх; тако ж і людзі – дзе зрадзіліся і ўскормленыя суць па Бозе, к таму месцу вялікую ласку ймаюць”.***

Тысячы лідзян і гасцей яшчэ доўга не хацелі разыходзіцца, тым больш, што апоўначы на плошчы каля Дома афіцэраў пачыналася начная дыскатэка. Свята працягвалася да раніцы... Назаўтра ішлі ды ішлі да помніка людзі!

Сэрца поўніцца радасцю, што Ліда першая на Беларусі адкрыла помнік новага беларускага часу – помнік уласнай гісторыі і свайму герою, якога выбралі гараджане.



**Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў і намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Міхась Мельнік ускладаюць кветкі да помніка Францішку Скарыну ў Лідзе 26.07.2003 г.**

Скарына вярнуўся ў Ліду. Вярнуўся, каб прадоўжыць сваю асветніцкую, гуманістычную, высокадухоўную працу, гэтак неабходную нашаму грамадству, моладзі; нашай шматпакутнай Радзіме. Будзем памятаць, што выданні Ф. Скарыны – гэта справы духоўнасці беларускага народа, яго высокага прызначэння ў лёсе еўрапейскіх народаў.

*Рычард Груша*

# Ад Скарыны пачаўся творчы шлях

У прыгожым маляўнічым месцы, каля фарнага касцёла, стаіць і красуецца помнік Францішку Скарыну, закамітага скульптара з Менска Валерыя Янушкевіча. На гранітным пастаменце ўсталявана бронзавая выява, вышынёй болей, як за тры метры, вядомага першадрукара з Полацка, які вітае Ліду, нібыта нагадваючы нам пра былое, пра вялікую і багатую гістарычную спадчыну, пра славутыя імёны сыноў беларускай зямлі.

Кожны раз, калі я праходжу каля гэтага помніка, я адчуваю, як моцна б’ецца сэрца, а ў душы хораша і светла, бо я ганаруся працай тых людзей, якія прыклалі тут рукі і талент. І гэта натхняе мяне на ўспамін.

Відаць, такі лёс, што мая сустрэча з Францішкам Скарыном у Лідзе была невыпадковай. Сёння я лічу, што гэта быў знак, які далі мне нябёсы, бо менавіта ўся мая творчая дзейнасць пачалася з устаноўкі гэтага помніка.

У 1992 годзе я арганізаваў МП “Дызайн”, якое займалася будаўніцтвам, добраўпарадкаваннем тэрыторый і мастацкім афармленнем інтэр’ераў з прымяненнем тэхнікі кавальскай коўкі, разьбы па дрэву. У пачатку 1993 года, калі вялася гаворка пра стварэнне помніка ў Лідзе і ўстаноўцы яго, было шмат спрэчак, вакол гэтага хадзілі розныя чуткі і ўвогуле ў той час усе зацікаўленыя людзі, якія прымалі ўдзел у ажыццяўленні гэтай ідэі, думалі пра сродкі, як іх здабыць, бо іх не хапала.

Як сёння помню, аўтар занепакоена казаў, што сродкаў далі ўсяго 4000 дол., якіх хапіла толькі на матэр’ял і адліўку выявы ў бронзе.

У гарадской архітэктуры ў той час працаваў малады архітэктар Ю. Бірукоў, які распрацаваў праект прывязкі гэтага помніка да мясцовасці. Ён прапанаваў мне ўзяцца за працу па ўстаноўцы і добраўпарадкаванні тэрыторыі вакол помніка Ф. Скарыну. Калі я згадзіўся, мы з Ю Бірукавым разам звярнуліся ў гарвыканкам да старшыні Уладзіміра Мальца. Сустрэча з Уладзімірам Міхайлавічам адбылася вельмі цікавая. Як аказалася, ён ускладваў на мяне вялікія надзеі, аказваў мне давер, як маладому кіраўніку, і жадаў плённай працы, пасля чаго мы падпісалі пагадненне аб выкананні будаўнічых работ па ўстаноўцы помніка. Гэта ўсё ўзлажыла вялікую адказнасць на мяне і маё прадпрыемства, але разам з тым дало вялікія сілы і гонар за сябе і калектыў, за што і сёння хачу выказаць вялікую падзяку Ў. Мальцу.

Пасля падпісання дамовы на будаўнічую частку, ужо ў чэрвені мы пачалі распрацоўваць дэталі і матэрыялы, рабіць нарыхтоўку сыравіны і весці іншыя падрыхтоўчыя работы.

З аўтарам помніка Валяр’янам Янушкевічам я пазнаёміўся, калі ён прыехаў у Ліду ўдакладняць месца ўсталявання помніка. Тады ён таксама выказаў сумніў, ці будзе выканана праца дасканала, на што я адказаў, што не трэба хвалявацца, бо ўсё будзе добра. Тады я адчуваў вялікі гонар за тое, што мне давялося працаваць з маладым таленавітым скульптарам.

Праца якую выконвала прадпрыемства “Дызайн” была вельмі складаная, але адначасова і цікавая.

Да будаўнічай часткі працы мы прыступілі ў ліпені: яна вялася пад кантролем гарадской улады. Ужо тады можна было здагадацца аб значнасці гэтага аб’екта, таму што старшыня Ў. Малец быў у курсе ўсіх спраў, а яго намеснік М. Чарнышоў кожны дзень бываў на гэтай пляцоўцы. Усяго тады было: і добрага, і дрэннага. Не ўсё атрымлівалася так, як хацелася. За два тыдні да адкрыцця помніка стала вядома ад В. Янушкевіча, што ёсць праблемы. Камень, які падрыхтавалі пад пастамент, аказаўся з трэшчынай.

Гэты камень апрацоўвалі на мастацка-скульптурным камбінаце ў Калядзічах каля Менска. Пасля распілоўкі аўтар вызначыў камень не прыдатным для ўсталявання. Па гэтай справе мяне запрасіў старшыня гарвыканкаму У. Малец з пытаннем, якое выйсце можна знайсці з гэтага становішча, бо тэрмін да адкрыцця быў невялікі. Тады я паабяцаў, што выйсце будзе знойдзена.

Каб вырашыць гэтую праблему я адправіўся на Ўкраіну ў г. Карастышаў на адно з буйнейшых прадпрыемстваў па камнеапрацоўцы, якое ўзначальваў на той час і да сёння А. Варанай. Але і тут не маглі ў кароткі тэрмін выпілаваць гранітны камень тых памераў, якія патрэбны. Такім чынам мне давялося прыняць новае рашэнне, узгадніўшы з архітэктарам і аўтарам, купіць за ўласныя сродкі пліты вялікіх памераў і прывезці ў Ліду. Чаму за ўласныя сродкі? Таму што не было магчымасці пералічыць іх на рахунак украінскага прадпрыемства бо гэтыя сродкі былі пералічаны мастацкаму камбінату і іх трэба было вяртаць назад, але хутка гэта зрабіць было нельга. Вось такім чынам, праўдамі і няпраўдамі гранітные пліты былі перавезены цераз дзяржаўную мяжу і ўсталёўваліся за чатыры дні да адкрыцця.

А за два дні да адкрыцця быў прывезены помнік і ўсталёўваўся на гэты пастамент. Вакол помніка пасыпана чырвоная крошка, якая здабывалася з бітай цэглы. У апошнія чатыры дні перад адкрыццём нашыя рабочыя працавалі з ранку да цямна. І, нават, у апошні дзень людзі разам са мной у 6 гадзін раніцы выконвалі апошнія работы: чысцілі, мылі, падмалёўвалі. Такім чынам надавалі помніку ганаровы выгляд. А колькі гонару было на тварах маіх супрацоўнікаў!

Адкрыццё помніка адбылося і свята горад таксама. Усіх гасцей запрасілі на ўрачыстасць, але мяне і маіх супрацоўнікаў – не. Ды гэта не галоўнае, бо шчасце зусім у іншым, і помнік – прыгажун сёння красуецца, упрыгожвае родны горад.

***Часлаў Малеўскі***

# Лідская шляхта ў паўстанні 1863 года

Нацыянальны ўрад або так званы Цэнтральны камітэт абвясціў у дзень паўстання 22 студзеня 1863 года зварот, у якім чытаем: *"…У першы дзень адкрытага выступлення, у першую хвіліну пачатку святога змагання Цэнтральны нацыянальны камітэт абвяшчае ўсіх сыноў Польшчы, без розніцы веры і роду, паходжання і стану вольнымі і роўнымі жыхарамі краю. Зямля якую сяляне выкарыстоўвалі датуль на правах чыншу ці паншчыны становіцца ад той хвіліны безумоўнай іх уласнасцю, вечнай спадчынай. Уладальнікам, пацярпелым ад гэтага будзе выплачана кампенсацыя з агульных фундушаў дзяржавы… Да зброі ўсе. Народзе Польшчы, Літвы і Русі да зброі! Бо, час агульнага вызвалення ўжо прабіў, стары меч наш аголены, святы штандар Арла, Пагоні і Архангела разгорнуты…"*

Пасля выбуху паўстання ў Кароне **Людвік Нарбут** адзін з першых 2 лютага з'арганізаваў аддзел на Літве і 14 лютага з малодшым братам Баляславам і шасцю вяскоўцамі вырушыў з маёнтка Сербянішкі ў лясы ў ваколіцах Эйшышак.

У той жа дзень, па дарозе далучыліся да яго **Лявон Краінскі** з Грышанішак з некалькімі людзьмі. Гэта быў пачатак аддзелу Нарбута. Аддзел хутка рос, таму што Людвік Нарбут быў незвычайна папулярны сярод людзей. У Эйшышках пад канец лютага далучыўся да яго вялікі аддзел пад кіраўніцтвам ксендза **Юзафа Гарбачэўскага**, вікарыя Эйшышскай парафіі, які першым у Лідскім павеце абвясціў з амбона маніфест Нацыянальнага ўраду.

У лютым аддзел прамаршыраваў праз вёскі Попішкі, Калітанцы, Рудню, Салкі, Гудэлі ў кірунку Рудніцкай пушчы. Затрымаліся ў маёнтку Парадунь **Ксаверага Турскага**, і маёнтку Подзітва **Яна Карловіча**.

Ужо 11 лютага невялікая партыя паўстанцаў сфармаваная ў Лідскім павеце з'явілася ў аколіцах чыгуначнай станцыі Марцінканцы. Праз 5 дзён 16 лютага яна затрымала цягнік і адбіла рэкрутаў якіх вязлі з Каралеўства Польскага.

Начальнік паўстання ў Лідскім павеце выбраў тэрыторыю дзейнасці, а ў пушчы над ракой Котра заснаваў лагер і распачаў барацьбу. Аддзел налічваў каля 300 чалавек, быў узброены пераважна паляўнічай зброяй, косамі, а пасля пераможных баёў штуцарамі і вайсковымі карабінамі. Партыя, якой кіраваў здольны правадыр і дасканалы знаўца партызанскай барацьбы, нанесла шэраг адчувальных паразаў расейскай гвардыі.

9 сакавіка пасля пераможных бітваў пад Руднікамі, у ваколіцах станцыі Рудзішкі, над рэчкай Мерачанкай да паўстанцаў далучылася група віленскіх дабраахвотнікаў пад кіраўніцтвам **Эльвіра Міхала Андрыёлі.** Наступныя баі адбыліся пад Новым Дваром, пад Пілоўняй, каля Берашт, пад Кавалькамі, над возерам Думбля.

Занепакоеныя ўлады спецыяльна для задушэння "бунтаўшчыкоў" прысылаюць некалькі батальёнаў, але арганізацыйныя здольнасці і веданне вайсковай справай Нарбутам, набытыя на Каўказе ў вайне з чачэнцамі, дазваляюць яму у хвіліны небяспекі бліскавічна арыентавацца ў сітуацыі і ўхіляцца ад баёў з большымі сіламі ворага. На працягу 3-х месяцаў аддзел Нарбута быў сапраўдным страхам для маскалёў таму, што дзейнічаў хутка і дакладна. Добра знаёмы з тэрыторыяй размяшчэння Нарбут займаў цяжка даступныя месцы ў лесе. Акрамя таго камандзір заўсёды пільна сачыў за неабходнасцю заціранння за сабой слядоў, а пры любой аказіі шкодзіў ворагам, дзе толькі мог. Пераймаў чыноўнікаў, па дарогах, адбіваў партыі рэкрутаў, вешаў здраднікаў нацыянальнай справы, забіраў зброю ў леснікоў і т. п. Дзейнасць Нарбута прывяла да таго, што генерал-губернатар Назімаў выдаў спецыяльны загад для сцягвання вялікіх аддзелаў лейбгвардыі Паўлаўскага палка с 3-х пунктаў: з Вільні, Горадні і Ліды. Тыя аддзелы атрымалі загад любой цаной разбіць аддзел неўлавімага "бунтаўшчыка" Нарбута. А вось, апісанне аднаго з баёў паводле Э. М. Андрыёлі:

*"Акружаныя і заціснутыя маскалямі, якія мелі за справу гонару разбіццё аднаго аддзелу, што меў славу на Літве, цэлую ноч адступалі без дарог, змучаныя, галодныя, замёрзлыя. Ксёндз Гарбачэўскі, Краінскі, Нарбут і праваднік са свечкаю ў руках шукаюць дарогі па пушчы. Мы парамі, хістаючыся ад стомы і сплючы на маршы, чапляючыся за калоды і вываратні, сунемся следам за агенчыкам. Бываюць хвіліны, што нашы праваднікі губляюцца ў велізарнай пушчы, кажуць аддзелам спыніцца, а самі разыходзяцца шукаць слядоў дарогі: тады адны стоячы, другія прысеўшы, іншыя абапёршыся зноў засынаюць чуткім сном. Зноў каманда: "Марш" і цягнецца сонная, змучаная дружына.*

*Пад раніцу пераканаўшыся, што кружым вакол, кідаем асцярожнасць і галодныя спыняемся недалёка ад хаты лесніка ва ўрочышчы Лакштунцы. Пра выбар пазіцыі няма мовы. Бо мы думаем, што*

*маскалі, страпаныя нашым начным бадзяннем, пакінуць нас у спакоі. Затрымаліся ў сярэдзіне вялізнага лесу, маючы за сабой балота, а перад вачамі невялікую прасеку, цераз якую вілася сцежка да лесніка. Сонца пачынае прыпякаць, пад адзінаццаць раніцы становіцца горача. Кожны размясціўся, як мог, захоўваючы аднак баявую лінію павернутую фронтам да прасекі. Адны спяць, другія ядуць, іншыя выграваюцца на сонцы, некаторыя чытаюць кніжкі альбо лісты.*

*Каля другой ад паўдня зменены пікеты, цішыня ў лагеры нечуваная, чуцён піск мух і камароў. Нарбут на хвіліну адышоў за зараснік, звыклая пільнасць на гэты раз аслабла, цяпло і стома апанавалі ўсімі.*

*Раптам стрэл здалёку, а за ім два іншыя. “За зброю, за зброю!”. Нарбут ужо паміж намі. Забурліла, як ў катле, падхопліваюцца задрамаўшыя… пытанні, неспакой, замяшанне. Толькі начальнік спакойны, гаворыць пасунуцца наперад на 300 крокаў і заняць баявую лінію па трое ўздоўж краю лесу і прасекі.*

*Пераканаліся тады, што можа халодная адвага аднаго чалавека. Усе хвіліну назад трывожныя, неспакойныя, гатовыя ўцякаць, зараз прытомныя, зручна пазаймалі прызначанае сабе месца. Касінеры з афіцэрам ў баявой калоне залеглі праз 200 крокаў за стралкамі. Тыя ж хаваючыся за пнямі і ў кустах, галавой наперад з руляй перад сабой і пальцам на спуску, чакалі каманды да стральбы, а здалёку ўжо гралі маскоўскія трубы баявы сігнал: “Рассыпались моладцы! За камни, за кусты, по два в ряд!” Знаёмы той сігнал дагэтуль гучыць ў вушах. У лесе, дзе кожны куст, кожнае дрэва хавае засаду, дзе ніколі нельга палічыць непрыяцеля, дзе кожнаму здаецца, што толькі ён і некалькі бліжэйшых яшчэ бароняцца, а рэшта ўжо ўцякла, дзе рэха сто разоў паўтарае стрэлы і рык маскалёў, а небяспека, здаецца, атачае з усіх бакоў – вайсковая труба робіць немалое ўражанне.*

*“Пане Пілецкі – гукае Нарбут, - вазьмі 10 чалавек і марш на рэкагнасцыроўку, - а праз хвіліну, - калі ласка не рызыкуй”. Пілецкі, былы студэнт Пецярбургскага універсітэта, смелы, талковы, разважлівы, а прытым ветлівы і далікатны хлопец быў улюбёнцам ўсяго аддзелу.*

*Яму то Нарбут давяраў найрызыкоўнейшыя справы, пэўны ў тым, што з іх смела і разважліва выйдзе.*

*Пасля адходу Пілецкага наступіла ціша, якой, нават, маскоўская труба не перарывала. Толькі сэрцы біліся хутчэй. Нарбут перабегае ўздоўж ўсёй лініі з шашкай ў адной і шапкай ў другой руцэ, спыняецца, слухае і зноў выглядае, ці ўсе на месцы.*

*Страшную цішу неспадзявана разрываюць выбухі некалькі стрэлаў, загралі трубы і далягела: “Ура-Ура”, якое лес падхапіў і на тысячу таноў паўтарыў. Зашамацелі кусты і з стрэльбамі, якія яшчэ дыміліся, выскачылі нашы рэкагнасцыроўшчыкі. Твары белыя, дыханне прыспешанае: “Пане начальнік! Ідуць шасцёркамі, лінія вялізарная, займаюць крылы!”*

*- Добра! На месца! Ціха… ніякіх галасоў! Хто крыкне – растраляю! Страляць прыцэльна! Чакаць, пакуль не загадаю! Каб мне ніхто не піснуў!*

*А ад стрэлаў маскоўскіх здавалася, што ломіць лес, кулі капаюць землю. Ужо сям-там чуваць: “Езус, Марыя! Правядзіце мяне на воз! “ Але загадана не страляць. І кожны сэрцам, што гучна б’еццa, з стрэльбай наперад чакае, пакуль яму пакажацца маскаль.*

*Гулка грыміць лес. Стрэлы і крыкі ў 100 раз гусцейшыя і бліжэйшыя, ломяцца галіны, чуваць марш цяжкай масы. Праз хвіліну ўбачым маскоўцаў, а перад намі прасека, ціхая аблітая сонцам.*

*Замігалі шэрыя шынялі, бліснула зброя і белыя акруглыя аблочкі на фоне лесу. Маскалі займаюць супрацьлеглы край прасекі. Хаваюцца за дрэвы, але наперад, не гледзячы на загады афіцэраў, не рухаюцца. Відаць іх непакоіць ціш з нашага боку. Нарэшце з трэскам і стрэламі рухаюцца шестёркамі. Была то хвіліна збавення, сэрцы біліся гвалтоўна, яшчэ 40 крокаў, і вытнуць ў штыхі, але раздаўся знаёмы нам моцны голас: “Агонь, хлопцы, усёй лініяй!” І ад канца да канца праляцеў выбух больш сотні стрэлаў, а потым ціша і дым.*

*Не граюць трубы, маўчыць “Ура!”*

*- Добра, добра, спраўна, набіць зброю, востра хлопцы! - гукае расчырванелы Нарбут абабягаючы ўсю лінію.*

*Зноўку граюць трубы і чуваць маскоўская каманда, зноўку грымяць стрэлы і “Ура, вперёд ребята!” Ломяцца кусты. Прымушаныя гнаныя сілай паслушэнства, кідаюцца маскалі галавою ўніз з штыхамі наперад. Ужо, ужо сядзяць нам на карку. Яшчэ хвіліна і ўсе кінемся наўцёкі. Але на выгук “Агонь, прыцэльна!” запаляюцца 150 стрэльбаў на нашай лініі. Воблака дыму закрывае ўсё, уціхае трэск чуваць толькі енкі раненых і канаючых з абодвух бакоў.*

*Але не доўга трывае цішыня, падходзіць падмога. Зноў заенчыў лес, стрэлы, крыкі, паніка… Даём агню некалькі разоў, яшчэ трымаемся. Раптам пабегла левае крыло, зламанае націскам маскалёў, стараемся ўтрымацца, але ўжо позна. Кідаемся направа, за малое балотца дзе ўсё фармуецца вакол начальніка. Масква раз’юшана кідаецца ўсім кагалам за левым крылом міма нас, як бура, страляюць, крычаць, дратуюць раненых, агонь аддаляецца, чуваць толькі адзіночныя стрэлы, галасы ціхнуць, лес замаўкае, ціша, але як яна адрозніваецца ад ранейшай. Бітва скончылася. Пунцовае сонца села за лесам. Здалёк даходзіць да нас глухі шум размоў, водгалас трубы і ад часу да часу далёкі стрэл. Ноч…”*

Становішча што раз станавілася ўсё больш небяспечным. Паўстанцы адступалі ў глыб пушчы. Другога траўня Нарбут размясціўся з лагерам на пагорку пасярод балот недалёка ад Дубіч на поўдзень ад возера Пеляса. Доступ да лагера быў немагчымы для тых, хто не знаў таемных перамычак і вузкіх сцежак паміж багнамі. Але якраз там пятага

траўня адбыўся апошні бой. Лагер паўстанцаў выдаў ворагам гаёвы дзяржаўных лясоў здраднік Базыль Карповіч, давераны чалавек Нарбута. Акружаны адусюль пераважнымі сіламі ворага (якімі кіраваў капітан Цімафееў), паранены ў нагу ў пачатку бітвы, Нарбут праз увесь час кіраваў боем, і як даносяць пазнейшыя рапарты "паранены куляй у грудзі, сканаў з апошнім намаганнем гаворачы да таварышаў, што прыемна памерці за Айчыну". Разам з начальнікам загінулі яго таварышы па змаганні: **Аляксандр і Францішак Бразоўскія (Беразоўскія), сыны Францішка)** з Гарнофеля, **Стэфан Губарэвіч, сын Стэфана** з Галавічполя, **Станіслаў Ян Ёдка** з Петрашунцаў, **Лявон Краінскі сын Антонія** з Грышанішак, **Юзаф Пакемпіновіч** з маёнтка Подзітва, **Уладзімір Паплаўскі** з Крэвіна, **Вандалін Жукоўскі** з Лацка, **Казімір Грэмза, сын Стэфана** з Ліпкунцаў, **Ігнацы Тарашкевіч** - фельчар з Ліды, **Адам Н., Томаш Скірмунт**-жыхар Піншчыны. У няволю трапілі **Пётр Янкоўскі** – сасланы ў Іркуцк, дзе памёр, **Уладзіслаў Кліманотовіч** – сасланы ў Сібір, **Уладзіслаў Нікалаі** (паручнік расейскага войска) – расстраляны ў Вільні 25.09.1863 г. на вядомым пляцы Лукішкі, доктар **Цыпрыян Пясецкі** з Пескаў – высланы на катаргу ў Табольск, **Уладзіслаў Пілецкі**, былы студэнт Пецярбурскага універсітэта, прыгавораны да 6 гадоў катаргі, **Фелікс Ройша** з Ліды, **Цыпрыян Коркуць** з Ліпкунцаў, **Адольф Краінскі** з Палашак (высланы ў Варонежскую губерню, дзе памёр), **Ян Глушыцкі**.

Пасля смерці Нарбута паўстанне ў Лідскім павеце, здавалася, ужо толькі дагарала. Паўстанцы без камандзіра туляліся па лясах і не маглі правесці больш важнай акцыі. Брат Людвіка **Баляслаў** стараўся захаваць аддзел для далейшай барацьбы. Загадаў паўстанцам трымацца ў лесе ў ваколіцах вёскі Паддуб'е, куды меўся прыбыць новы начальнік.

Цэнтральныя паўстанцкія ўлады ў гэтай сітуацыі вызначылі начальнікам на Лідскі павет тагачаснага начальніка Ашмянскага павету **Астрогу** або **Аляксандра Парадоўскага**. Задачу ён меў цяжкую. Належала сабраць раскіданых паўстанцаў і падняць сярод іх ранейшы запал і энтузіязм. Першым важным заданнем Астрогі было пакаранне здрадніка Базыля Карповіча. У дзень зялёных свят (сёмуха) Базыль быў павешаны ў вёсцы Мантаты каля Дубіч. Падобны лёс спаткаў іншага здрадніка селяніна Яна Шумялевіча 15 чэрвеня 1863 года ў маёнтку Сумарокаўшчына.

Намаганні Астрогі ў справе ажыўлення паўстання не давалі вынікаў. Дзейнасць цывільных улад паўстанцаў пачала прабуксоўваць. Жывёла, зброя часта не даходзіла да рук паўстанцаў, або даходзіла з вялікім спазненнем, у недастатковай колькасці. Смерць Нарбута і ўсё больш суровыя рэпрэсіі, якія праводзіліся новым губернатарам Міхаілам Мураўёвым (прыбыў ў Вільню 14 траўня) былі таму прычынай. У той самы час на мяжы Лідскага павету ў Рудніцкай пушчы мелі месца дзве буйныя сутычкі паўстанцаў Троцкага павету з царскімі войскамі. Першая з іх 31 траўня каля Зыгмунцішак з аддзелам генерала Вельямінава, а другая 17 чэрвеня з казакамі палкоўніка Алхазава.

Астрога правёў некалькі баёў у чэрвені, з якіх найбуйнейшым і найлепш прадуманым быў бой пад Каркуцянамі на поўдзень ад Эйшышак 23 чэрвеня з аддзелам палкоўніка Ўласава. Пасля той бітвы ў Эйшышках быў размешчаны вялікі аддзел расейскіх войскаў палкоўніка Крамера.

Праз пару тыдняў Астрога мусіў пакінуць межы Лідскага павету і перамясціцца на Гарадзеншчыну, дзе пад напорам царскіх войскаў 9 жніўня перайшоў Нёман і аказаўся ў Аўгустоўскай губерні.

Так закончылася паўстанне на Віленшчыне. Насталі крывавыя разборкі і рэпрэсіі Мураўёва-вешальніка. Запанаваў страшны стан самавольства, найсуроўшых пераследаў, следства, падазрэнняў і кары. Засценкі і вёскі, замешаныя ў паўстанні, палілі, а пазней часта заворвалі месца, на якім яны стаялі, жыхароў высылалі ў Сібір. Для прыкладу з ваколіцы Цяцянцы у 1864 годзе былі высланы шляхочыя сем'і **Юзафа Палукорда (сын Юрыя)**, **Карнелія Бельскага (сын Барталамея)**, **Антона Вайсята (сын Вінцэнта)**, **Юзафа Сангіна (сын Яна)**, з ваколіцы Свянеўшчына сям'я **Вінцэнта Гурскага**, а з вёскі Ліпкунцы сям'я **Ізыдора Трушынскага** ў Самарскую губерню, а на нявывезеных накладзена вялікая кара грашыма.

Жалоба пакрыла ўсю Літву. Але каб яшчэ больш зраніць народ, генерал-губернатар забараніў жанчынам (у чэрвені 1863 года) нашэнне жалобы па страчаных мужах, братах і бацьках.

**А вось няпоўны спіс шляхты, у 1863 годзе пабітай, зняволенай, пераследаванай і высланай з аднаго толькі Лідскага павету Віленскай губерні:**

1. Абрубскі (Абрэмбскі) Казімір (сын Юзафа, гадоў 27, высланы ў Самарскую губерню).
2. Адамковіч Цэзары (сын Казіміра, гадоў 43, з ваколіцы Мацкішкі).
3. Александровіч Ксаверы (сын Антонія, гадоў 35, з маёнтка Нявіша, акружны начальнік рэвалюцыйнага камітэту, сасланы ў Табольскую губерню).
4. Альшанскі Ігнацы (сын Юрыя, з м. Эйшышкі, з аддзела Нарбута, высланы на катаргу на 6 гадоў ў Табольскую губерню).
5. Альшэўская Ізабэла (з Нарбутаў, дачка Адольфа, гадоў 50, выслана ў Сібір).
6. Аранскі Антоні (сын Станіслава, гадоў 34, з фальварка Лаўцуны, высланы ў Томскую губерню).
7. Аранскі Канстанцін (сын Станіслава, гадоў 37, аддзел Любіча, высланы ў Табольскую губерню).
8. Астравух Леанард (сын Зыгмунта, гадоў

33, высланы ў Сібір).

9. Астроўскі Казімір (з маёнтка Кальчыцы).

10. Багдзевіч Станіслаў (сын Аляксандра, гадоў 21, высланы ў Томскую губерню).

11. Багуміл Антоні (сын Юзафа, гадоў 18, з вёскі Падбор'е парафіі Эйшышскай, высланы ў Сібір).

12. Бамблевіч Антоні (сын Яна, гадоў 21, з вёскі Буйвіды парафіі Эйшышскай, высланы ў Сібір).

13. Банькоўскі Аляксандр (сын Міхала, гадоў 20, высланы ў Самарскую губерню).

14. Банькоўскі Каятан (сын Томаша, гадоў 26, з ваколіцы Вярсочка, высланы ў Самарскую губерню).

15. Бараноўскі Уладзіслаў (сын Яна, гадоў 25, высланы ў Самарскую губерню).

16. Бараноўскі Ян (сын Барталамея, гадоў 18, з ваколіцы Міжаны, высланы ў Сібір).

17. Бароўскі Міхал (сын Міхала, гадоў 25, з вёскі Барталішкі, з аддзелу Нарбута, высланы ў Самарскую губерню).

18. Бароўскі Юзаф (высланы на катаргу на 8 гадоў).

19. Бельскі Ян (сын Барталамея, гадоў 42, з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Самарскую губерню),

20. Бельскі Ян (сын Яна, гадоў 20, з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Сібір).

21. Бердаўскі Адольф (сын Антонія, з маёнтка Сасоўшчына парафіі Васілішскай, высланы на катаргу).

22. Бердаўскі Эдвард (з маёнтка Няпрахі, прыгавораны да 18 гадоў катаргі).

23. Бернатовіч Шымон (высланы ў Табольскую губерню).

24. Блажаеўскі Баляслаў (сын Юзафа).

25. Блажаеўскі Юзаф (з маёнтка Залова).

26. Боландзь Алойзы (сын Леанарда, гадоў 23, высланы ў Сібір).

27. Боландзь Баляслаў (сын Францішка, гадоў 24, высланы ў Сібір).

28. Боландзь Браніслаў (гадоў 21, высланы ў Сібір).

29. Быкоўскі Юзаф (сын Баніфацыя, гадоў 18, высланы ў Томскую губерню).

30. Бялінскі Ян (з маёнтка Станіслававa).

31. Бянкевіч Геранім (сын Гераніма, гадоў 26, з ваколіцы Вянцкевічы).

32. Бярнацкі Юстын (сын Паўла, гадоў 20, з ваколіцы Станкелішкі, з аддзелу Нарбута).

33. Вайсят Антоні (сын Вінцэнта, гадоў 38, з ваколіцы Цяцянцы, высланы ў Самарскую губерню разам з сям'ёй).

34. Валаховіч Аўгустын (сын Мацея, гадоў 30, з ваколіцы Трабушкі, высланы ў Сібір).

35. Валаховіч Тэафіл (сын Пятра, гадоў 26, з ваколіцы Валаховічы, быў ў аддзеле Нарбута).

36. Валаховіч *(Валасовіч)* Юзаф (сын Аўгустына, гадоў 20, з вёскі Кіўлакі, высланы ў Сібір).

37. Валіцкі Леапольд

38. Валянскі Адам (гадоў 28, высланы ў Казанскую губерню).

39. Варсоцкі Аўгустын (сын Мацея, гадоў 21, высланы ў Самарскую губерню).

40. Васілеўскі Аляксандр (сын Ваўрынца, гадоў 23, з вёскі Падбор'е, парафіі Эйшышскай, высланы ў Сібір).*(Селянін, рэд.)*

41. Вільбік Стэфан (сын Стэфана, з ваколіцы Ліпкунцы, высланы на 8 гадоў катаргі).

42. Вільканец Юзаф (сын Клеменса, гадоў 19, з ваколіцы Кіюцішкі, высланы ў Самарскую губерню),

43. Вінча Клеменс (сын Мацея, гадоў 45, з ваколіцы Варсока, высланы ў Томскую губерню),

44. Вінча Стэфан (сын Пятра, гадоў 57, з вёскі Хамоўшчына, высланы разам з сям'ёй ў Самарскую губерню).

45. Вішнеўскі Мацей (сын Станіслава, гадоў 25, з ваколіцы Наркуны, высланы ў Сібір).

46. Вусоўскі Мікалай (сын Юзафа, гадоў 48, высланы ў Табольскую губерню).

47. Вянцкевіч Юзаф (сын Войцаха, гадоў 17, з ваколіцы Вянцкевічы, высланы ў Сібір).

48. Вярбіцкі Пётр (сын Яна, гадоў 18, з ваколіцы Кудлы).

49. Гадачэўскі *(Гадашэўскі)* Зыгмунт (сын Валяр'яна, гадоў 44, з маёнтка Стокі, высланы ў Казанскую губерню).

50. Гадомскі Браніслаў (сын Фердынанда, гадоў 20, з ваколіцы Тальмонты, высланы ў Самарскую губерню).

51. Гаеўскі Вінцэнт (з маёнтка Ішчолна).

52. Гаеўскі Ян (сын Яна, гадоў 17, з ваколіцы Місканцы, парафіі Нацкай, высланы ў Сібір).

53. Галкоўскі Якуб (высланы ў Сібір).

54. Ганцэвіч Юзаф (сын Андрэя, гадоў 17, з ваколіцы Нацкевічы, высланы ў салдаты на 5 гадоў ў Тульскую губерню).

55. Гарбачэўскі Юзаф (ксёндз, вікары Эйшышскага касцёла). *(Пазбег няволі.)*

56. Геншаль Людвік (сын Ігнацыя, гадоў 49, з маёнтка Валдацішкі, высланы ў Табольскую губерню).

57. Герасімовіч Ян (сын Юзафа).

58. Грабоўскі Вільгельм (сын Тадэвуша, гадоў 23, з маёнтка Семякоўшчына, высланы ў Аланецкую губерню).

59. Груздоўскі Казімір (сын Паўла, гадоў 17, з вёскі Салтанішкі, высланы ў Сібір).

60. Груздоўскі Юзаф (сын Марціна, гадоў 35, высланы ў Сібір).

61. Грымайла *(Гржымайла)* Фелікс (сын Канстанціна, высланы ў Табольскую губерню).

62. Гурыновіч Юзаф (сын Томаша, з маёнтка Лябёдка).

63. Дабраўланскі Дыянізы (сын Яна, гадоў 45, з маёнтка Аленшчына, высланы ў Томскую губерню),

64. Дашкевіч Аляксандр (сын Барталамея, гадоў 22, з ваколіцы Яновічы).

65. Драбязгевіч Аляксандр (сын Вінцэнта, з засценка Больсі парафіі Жырмунскай, высланы ў Казанскую губерню).

66. Драздовіч Юстын (гадоў 25, высланы ў Сібір),

67. Драздоўскі Антоні (сын Шымона, з Воранава, высланы ў салдаты на 5 гадоў).

68. Ёдка Кароль (сын Вінцэнта, гадоў 25, з маёнтка Петрашунцы, высланы ў Томскую губерню).

69. Ёдка Людвік (з ваколіцы Валочкі, парафіяльны начальнік паўстання). *(Памёр у турме.)*

70. Ёдка Станіслаў (сын Баніфацыя, гадоў 56, з маёнтка Петрашунцы, высланы ў Табольскую губерню). *(Па інш. звест. загінуў пад Дубічамі.)*

71. Ёч Аляксандра (дачка Стэфана, з ваколіцы Ёчы, парафіі Нацкай, сувязная ў аддзеле Нарбута і Астрогі, хавалася пад псеўданімам Зуброўскай у Вільні).

72. Ёч Антоні (сын Міхала, гадоў 20, высланы ў Самарскую губерню).

73. Ёч Багуслаў (гадоў 19, з маёнтка Клонцы, парафіі Нацкай).

74. Ёч Баляслаў (сын Філіцыяна, з маёнтка Клонцы, высланы ў Сібір),

75. Ёч Дамінік (сын Фердынанда, гадоў 28, з ваколіцы Сурконты, высланы ў Самарскую губерню).

76. Ёч Станіслаў (сын Барталамея, гадоў 45, з маёнтка Галадоўка).

77. Ёч Эдмунд (сын Барталамея, з маёнтка Галадоўка, парафіі Калясніцкай).

78. Жажэцкі (ксёндз з парафіі Забалоцкай высланы ў Сібір).

79. Жамойталь Баляслаў з ваколіцы Вільканцы, з аддзелу Астрогі).

80. Жамойталь Кароль (сын Ксаверыя, з ваколіцы Міцканцы, гадоў 20, з аддзелу Нарбута).

81. Жамойталь Рудольф (гадоў 31, быў арыштаваны).

82. Жукоўскі Баляслаў (высланы ў Пензенскую губерню).

83. Жукоўскі Уладзіслаў. *(Загінуў пад Дубічамі, рэд.)*

84. Жукоўскі Ян (гадоў 25, з аддзелу Нарбута высланы ў Сібір).

85. Жураўскі Ігнацы (сын Нарцыза, гадоў 33, з маёнтка Капцёўшчына).

86. Загорскі Францішак.

87. Закрэўскі Францішак.

88. Запаснік Аляксандр (сын Баніфацыя, гадоў 20, з ваколіцы Асіпоўцы, быў ў аддзеле Нарбута, высланы ў Томскую губерню).

89. Запаснік Андрэй (высланы ў Самарскую губерню).

90. Запаснік Аўгустын (сын Юзафа, высланы ў Табольскую губерню).

91. Запаснік Баніфацы (сын Міхала, гадоў 50, высланы ў Томскую губерню).

92. Запаснік Пётр (сын Бенедыкта, гадоў 25, высланы ў Томскую губерню).

93. Запаснік Станіслаў (гадоў 25, з ваколіцы Руканцы, высланы ў Сібір).

94. Запаснік Стэфан (гадоў 18, высланы ў Арэнбургскую губерню).

95. Захватовіч Вінцэнт (з Бердаўкі, высланы ў Варонежскую губерню).

96. Звяровіч Аляксандр (сын Яна, гадоў 25, з маёнтка Доцішкі, парафіі Эйшышдскай, высланы ў Арэнбургскую губерню).

97. Зданюкевіч Казімір (сын Томаша, з вёскі Шаўры, парафіі Нацкай, высланы ў Сібір).

98. Знамяроўскі Аўгустын (быў арыштаваны).

99. Знамяроўскі Ян (сын Антонія, з ваколіцы Паўстокі, парафіі Эйшышскай).

100. Зуброўскі Вінцэнт (сын Аляксандра, з ваколіцы Асіпоўцы, высланы на катаргу, на 8 гадоў).

101. Зямацкі Раймунд (кнёндз пробашч, з м. Ваверка за прачытанне з амбона маніфесту Нацыянальнага ўраду, растраляны 5.06.1863 года ў Вільні).

102. Зямецкі Браніслаў (сын Ануфрыя, гадоў 33, высланы ў Іркуцкую губерню, дзе памёр).

103. Іваноўскі Ян (быў арыштаваны).

104. Ігнатовіч Рамуальд (сын Міхала, гадоў 24, высланы ў Самарскую губерню).

105. Ішора Станіслаў (ксёндз вікары з Жалудка, прыгавораны на пакаранне смерцю за чытанне з амбона маніфесту Нацыянальнага ўраду і растраляны 3.6.1863 г. у Вільні).

106. Калясінскі Адам (з вёскі Нонішкі, арганіст з Жолудка).

107. Калясінскі Бальтазар (сын Бальтазара, гадоў 44, з маёнтка Сядэймы, высланы ў Кастрамскую губерню).

108. Канапацкі Антоні (гадоў 18, з аддзелу Нарбута).

109. Канапацкі Ян (сын Казіміра, гадоў 18, з маёнтка Сумарокаўшчына, з аддзелу Нарбута).

110. Кандратовіч Адам (сын Марціна, гадоў 20, з аддзелу Астрогі, высланы ў Томскую губерню).

111. Каржанеўскі (Кажанеўскі, Каранеўскі) Ян – (ксёндз вікары з Новага Двара, высланы ў Табольскую губерню),

112. Карповіч Казімір (сын Аляксандра, з ваколіцы Боландзі парафіі Эйшышскай высланы ў Сібір).

113. Карповіч Ян (сын Аляксандра, з ваколіцы Боландзі, парафіі Эйшышскай, высланы ў Томскую губерню).

114. Келер Фрыдэрык (сын Фрыдэрыка, гадоў 19, з аддзелу Чудоўскага).

115. Кіюць Шымон (сын Вінцэнта, з маёнтка Таўкунцы).

116. Клімантовіч Антоні (сын Канстанціна, гадоў 22, з маёнтка Лябёдка, узяты ў няволю).

117. Клімантовіч Баляслаў (сын Канстанціна, з маёнтка Лябёдка, парафіяльны начальнік паўстання, псеўданім – Антаневіч, высланы на катаргу ў цвердзь).

118. Клімантовіч Уладзіслаў (сын Эдмунда, гадоў 32, з аддзелу Нарбута, высланы ў Іркуцкую губерню).

119. Клячкоўскі Казімір (гадоў 29, з аддзелу

Нарбута, высланы ў Пензенскую губерню).

120. Кміта Антоні (сын Мацея, з ваколіцы Рамановічы).

121. Колышка Баляслаў (з ваколіцы Гуды, павешаны 28.05.1863 г. у Вільні).

122. Колышка Міхал (сын Яна, гадоў 28, з ваколіцы Кульпы, высланы ў Томскую губерню).

123. Коркуць Аляксандр (сын Яна, гадоў 27, з ваколіцы Неванянцы, парафіі Альканіцкай).

124. Коркуць (Кіркуць) Цыпрыян гадоў 24, высланы ў Сібір).

125. Краеўскі Вінцэнт (сын Юзафа, гадоў 37, з мястэчка Шчучын, высланы ў Томскую губерню).

126. Краеўскі Павел (сын Уладзіслава гадоў 16, з мястэчка Шчучын, высланы ў Пермскую губерню).

127. Краінскі Адольф (з ваколіцы Палашкі, высланы ў Варонежскую губерню, дзе памёр).

128. Краснік Зыгмунт (сын Яна, высланы ў Табольскую губерню).

129. Крупавец Ян (сын Яна, гадоў 16, з ваколіцы Паддуб'е, высланы ў Самарскую губерню).

130. Круповіч Вінцэнт (гадоў 23, высланы ў Сібір).

131. Круповіч Клеменс (сын Марціна, гадоў 20, з ваколіцы Дзяршышкі, парафіі Эйшышскай, высланы ў Табольскую губерню).

132. Круповіч Марцін (сын Аляксандра з ваколіцы Пазгрында, высланы ў Сібір).

133. Круповіч Шымон з ваколіцы Вішкунцы, парафіі Эйшышскай).

134. Круповіч Юзаф (сын Вінцэнта, з ваколіцы Бянкевічы).

135. Круповіч Юзафат (сын Адама, высланы ў Томскую губерню).

136. Крыжаноўскі Міхал (сын Казіміра, гадоў 29, з ваколіцы Тальмонты, з аддзелу Астрогі).

137. Крыжаноўскі Юзаф (з ваколіцы Тальмонты, парафіі Нацкай).

138. Кубецкі Адольф (сын Даменіка, гадоў 17, з ваколіцы Неванянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Сібір).

139. Кунцэвіч Канстанцін (сын Юрыя, гадоў 43, з маёнтка Талуцішкі, высланы ў Пермскую губерню).

140. Кунцэвіч Райнольд (сын Канстанціна, гадоў 17, з маёнтка Талуцішкі, з аддзелу Астрогі, высланы ў Пермскую губерню).

141. Кунцэвіч Тадэвуш (сын Антона, гадоў 48, з ваколіцы Белапётры).

142. Кунцэвіч Уладзіслаў (сын Тадэвуша, гадоў 17, з ваколіцы Белапётры).

143. Кушалевіч Людвік (сын Казіміра, гадоў 22, з ваколіцы Таўзгіняны, з аддзелу Астрогі).

144. Лазоўскі Эдвард (з ваколіцы Гірэк, высланы ў Сібір).

145. Лукашэвіч Рудольф (гадоў 18, з аддзелу Нарбута).

146. Любянец Ян (сын Даменіка, гадоў 25, з ваколіцы Юрэлі, высланы ў Самарскую губерню).

147. Лясковіч Альберт Вандалін (сын Францішка, нар. 15.04.1840 г., растраляны ў траўні 1863 года).

148. Лясковіч Юліян (сын Францішка, гадоў 32, з Чапляеўшчыны, высланы ў Пермскую губерню).

149. Макоўскі Аляксандр (гадоў 29, быў у паўстанцкім аддзеле).

150. Макрэцкі Адам (сын Томаша, гадоў 20, з маёнтка Макрэц, высланы на катаргу).

151. Макрэцкі Аляксандр (сын Томаша гадоў 27, з маёнтка Макрэц, высланы ў Сібір).

152. Макрэцкі Баляслаў (сын Томаша, гадоў 29, высланы на катаргу ў цвердзі).

153. Малеўскі Міхал (сын Пятра, з ваколіцы Дзімітры).

154. Малеўскі Цыпрыян (сын Пятра, гадоў 27, з ваколіцы Гарманы, парафіі Эйшышскай, з аддзелу Астрогі, высланы ў Томскую губерню).

155. Малеўскі Эдвард (сын Андрэя, гадоў 20, з ваколіцы Сурконты, высланы ў Самарскую губерню).

156. Малеўскі Юльян (сын Каятана, гадоў 20, з ваколіцы Паняздзель, парафіі Эйшышскай, высланы ў Самарскую губерню).

157. Малеўскі Ян (сын Даменіка, гадоў 21, з ваколіцы Тальмонты).

158. Малеўскі Ян (сын Мацея, гадоў 43, высланы на катаргу ў рудніках пажыццёва, пазбаўлены вайсковага звання, кавалер).

159. Маліноўскі Крыштаф.

160. Малькоўскі Ян (з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай). *(Мешчанін.)*

161. Мангайла Антоні (сын Антонія, з вёскі Раўбішкі, высланы ў Сібір).

162. Манкевіч Дамінік.

163. Манчунская Тадора (з Нарбутаў, дачка Тодара, з маёнтка Шаўры, парафіі Нацкай),

164. Манькоўскі Альберт.

165. Марачэўскі Адам (сын Тэафіла, з маёнтка Андрушоўцы, высланы ў Сібір).

166. Маргялевіч Аля-ксандр (сын Міхала, з маёнтка Ганэлькі, высланы на катаргу ў Табольскю губерню).

167. Маргялевіч Ігнацы (сын Юзафа, гадоў 40, з маёнтка Ганэлькі, з аддзелу Нарбута, высланы ў Табольскую губерню).

168. Маргялевіч *(Маргевіч)* Пётр (сын Міхала, гадоў 32, з маёнтка Ганэлькі, з аддзелу Нарбута, высланы ў Томскую губерню).

169. Марцішэўскі Юзаф (сын Яна, гадоў 20, з м. Эйшышкі, высланы ў Сібір).

170. Мікульскі Валенты (сын Яна, гадоў 40, з маёнтка Глыбокае, высланы ў Пермскую губерню).

171. Мілеўскі Казімір (сын Францішка, гадоў 25, з ваколіцы Ягайлавічы).

172. Мілеўскі Міхал (сын Францішка, гадоў 30, з ваколіцы Ягайлавічы, з аддзелу Астрогі, высланы ў Томскую губерню). *(Селянін.)*

173. Мілеўскі Ян (сын Францішка, з вёскі Ягайлавічы, высланы ў Сібір).

174. Мінакоўскі Ян (сын Антона, з ваколіцы Каркуцяны, высланы ў Сібір).

175. Мінскі Альберт (высланы на катаргу на 8 гадоў ў цвердзі).

176. Міцкевіч Ізыдор (гадоў 37).

177. Міцкевіч Уладзіслаў (сын Паўла, гадоў 24, з Воранава, высланы ў Пермскую губерню).

178. Міцкевіч Шымон (сын Казіміра, гадоў 17, высланы ў Самарскую губерню).

179. Міцкевіч Юзаф (гадоў 24).

180. Міцкевіч Якуб (гадоў 25).

181. Навіцкі Кароль (сын Барталамея, гадоў 35, высланы ў Самарскую губерню). *(Селянін.)*

182. Нарбут Баляслаў (сын Тодара, гадоў 20, высланы ў Енісейскую губерню, брат Людвіка).

183. Нарбут Браніслаў (гадоў 31, з маёнтка Нікадэмаў, высланы ў Арэнбургскую губерню).

184. Нарбут Крыстына (з Садоўскіх, дачка Ігната, з маёнтка Шаўры, парафіі Нацкай, выслана ў Пензенскую губерню). *(Маці Людвіка Нарбута.)*

185. Нарушэвіч Вінцэнт (сын Напалеона, гадоў 20, высланы ў Самарскую губерню).

186. Нарушэвіч Напалеон (сын Тодара, гадоў 65, з фальварка Палецкішкі, высланы ў Расію).

187. Непакайчыцкі Францішак (жыў ў Вільні).

188. Орда Андрэй (сын Юстына, гадоў 44).

189. Падэйка Вінцэнт (сын Барталамея, гадоў 37, з ваколіцы Ліпканцы, з аддзелу Нарбута, высланы ў Сібір).

190. Палукорд Антоні (сын Юзафа, гадоў 28, з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Сібір).

191. Палукорд Юзаф (сын Юрыя, гадоў 54, з ваколіцы Цяцянцы, высланы ў Самарскую губерню, разам з сям'ёю).

192. Паплаўскі Юльян (сын Міхала, гадоў 36, з фальварка Ваўчынкі).

193. Патрыкоўскі Анзэльм (гадоў 32, з Лябёдкі, быў ў аддзеле Нарбута, высланы на катаргу).

194. Паўловіч Адам.

195. Паўлоўскі Канстанцін (сын Яна, з вёскі Агароднікі).

196. Паўлоўскі Юзаф (сын Вінцэнта, гадоў 15, з Кукалкі, парафіі Эйшышскай, высланы ў Сібір).

197. Пілецкі Ўладзіслаў (сын Сельвестра, гадоў 25, быў ў аддзеле Нарбута, высланы ў Томскую губерню).

198. Пілецкі Юзаф (сын Адама, з маёнтку Лаўчынавічы, высланы ў Томскую губерню).

199. Плескачэўскі Ігнацы (высланы ў Томскую губерню),

200. Пульяноўскі Наполеон (сын Якуба, гадоў 55, з маёнтка Чаляеўшчана, высланы на катаргу ў Іркуцкую губерню на 6 гадоў).

201. Пясецкі Цыпрыян (з маёнтка Пескі і Бярозаўцы, высланы на катаргу ў цвердзі на 8 гадоў, дзе памёр).

202. Радзевіч Юльян (гадоў 25 ).

203. Развадоўскі Ян (сын Фульгента, гадоў 24, з ваколіцы Боландзі, высланы ў Сібір),

204. Раманоўскі Казімір (сын Мацея, гадоў 24, з ваколіцы Крупавесы, парафіі Калясніцкай, высланы ў Сібір).

205. Раманоўскі Кароль (сын Андрэя, гадоў 17, з ваколіцы Вянцкевічы, высланы ў Сібір).

206. Рапацкі Канстанцін (з маёнтка Рэксці).

207. Рачак Павел (сын Лявона, гадоў 22, з вёскі Лябеднікі, парафіі Эйшышскай, з аддзелу Нарбута, высланы ў Сібір).

208. Ржасніцкі Станіслаў (сын Станіслава, гадоў 32, з маёнтка Здаcоўцы, высланы ў Арэнбургскую губерню).

209. Роўба Міхал (гадоў 20, з вёскі Ваверка, быў ў аддзеле Астрогі і Любіча, высланы ў Тульскія арыштанцкія роты на 4 гады).

210. Роўба Стэфан (гадоў 23, з ваколіцы Кальвіцкія).

211. Рудкоўскі Юзаф (гадоў 33).

212. Рудніцкі Людвік (сын Аляксандра, высланы ў Сібір).

213. Рудніцкі Пётр (сын Аляксандра, прыгавораны да катаргі на 6 гадоў).

214. Руковіч Шымон (гадоў 17, з ваколіцы Смільгіны, высланы ў Сібір).

215. Руткоўскі Юзаф (гадоў 33).

216. Рутскі Стэфан (сын Ігнацыя, гадоў 20, з ваколіцы Сурконты).

217. Рухлевіч Ян (сын Францішка, з маёнтка Радкевічы, с парафіі Шчучынскай, высланы ў Томскую губерню).

218. Руцкі Аляксандр

219. Руцкі Вінцэнт (высланы ў Пензенскую губерню).

220. Руцкі Станіслаў (сын Ігнацыя, гадоў 25, высланы ў Самарскую губерню).

221. Руцкі Ян (сын Казіміра, гадоў 46, высланы ў Сібір).

222. Рыла Канстанцін (сын Тадэвуша, з ваколіцы Ёдкі).

223. Савіцкі Томаш (з м. Алькенікі). *(Мешчанін.)*

224. Сакалоўскі Тадэвуш (сын Ігнацыя, гадоў 17, высланы ў Самарскую губерню).

225. Сакалоўскі Юзаф (сын Антонія, высланы ў Сібір).

226. Сакалоўскі Ян (сын Юзафа, гадоў 29, з вёскі Зубішкі, высланы ў Сібір).

227. Самарока Юзаф (з вёскі Радзівонішкі).

228. Сангін Юзаф (сын Яна, гадоў 35, з ваколіцы Цяцянцы, высланы ў Самарскую губерню).

229. Сасонка Адам (сын Міхала, гадоў 25, з вёскі Рэксці, высланы ў Кастрамскую губерню).

230. Скавінскі Адольф (сын Юрыя, гадоў 25).

231. Скавінскі Аляксандр (сын Даменіка, гадоў 42, з маёнтка Тальманты, парафіі Нацкай, з аддзелу Нарбута, высланы ў Томскую губерню).

232. Скавінскі Зыгмунт (сын Валянціна, гадоў 18, высланы ў Самарскую губерню).

233. Скібінскі Рамуальд (сын Яна, гадоў 31, ксёндз пробашч, з мястэчка Дзембраў, прыгавораны да катаргі на 8 гадоў).

234. Смілгін Цыпрыян (сын Дамініка, гадоў 25).

235. Стацкевіч Казімір з ваколіцы Вайдагі.

236. Стацэвіч Міхал (сын Юзафа, гадоў 19, з ваколіцы Курміны, высланы ў Сібір).

237. Стацэвіч Станіслаў (сын Яна, гадоў 27, высланы ў Самарскую губерню).

238. Стацэвіч Стэфан (сын Яна, гадоў 20, з ваколіцы Сурконты).

239. Стацэвіч Юзаф (сын Юзафа, гадоў 18, з ваколіцы Сурконты).

240. Стацэвіч Юстын.

241. Струміла Адольф (сын Юзафа, з м. Шчучын, высланы на катаргу ў цвердзь у Сібір).

242. Сумарок Рамуальд (гадоў 25, высланы ў Сібір).

243. Сумарок Фелікс (высланы ў Сібір у салдаты).

244. Сумарок Ян (сын Францішка, гадоў 25, з маёнтка Ваверка, быў ў аддзеле Чудоўскага і Рыхлеўскага, высланы ў Томскую губерню).

245. Сурконт Адам (сын Антонія, гадоў 19, высланы ў Сібір).

246. Сырвід Ануфры (ксёндз пробашч, з м. Васілішкі, прыгавораны да 12 гадоў катаргі).

247. Сяклуцкі Вінцэнт (з маёнтка Гарнастаішкі, парафіі Эйшышскай).

248. Сяліцкі Рамуальд (сын Барталамея, гадоў 20, высланы ў Сібір).

249. Сямашка Ян (з маёнтка Гірнікі, высланы ў Арэнбургскую губерню, разам з жонкаю Валерыяй).

250. Табенская Альжбета (дачка Міхала, гадоў 32, з маёнтка Рудова, выслана ў Томскую губерню).

251. Табенская Антаніна (дачка Міхала, гадоў 22, з маёнтка Рудова, выслана ў Сібір).

252. Табенскі Яраслаў (сын Дыяніза, гадоў 39, з маёнтка Земляпіша, высланы ў Пермскую губерню).

253. Тарашкевіч *(Тарашэвіч)* Ігнацы (з аддзелу Нарбута). *(Загінуў пад Дубічамі, рэд.)*

254. Таўкевіч Вінцэнт (з маёнтка Кабыльнікі).

255. Трушынскі *(Трушчынскі)* Юзаф (сын Яна, гадоў 37, з вёскі Ліпкунцы, высланы ў Сібір).

256. Тубялевіч Мацей (гадоў 35, з г. Ліды). *(Мешчанін.)*

257. Тубялевіч Юзаф (гадоў 30, з ваколіцы Мудрукоўшчына, з аддзелу Нарбута, высланы ў Пермскую губерню).

258. Туровіч Адам (сын Юзафа, гадоў 15, з вёскі Мількунцы).

259. Турскі Ксаверы *(Конрад)* (сын Яна, з маёнтка Парадунь).

260. Турчынскі Вінцэнт (высланы ў Сібір).

261. Тышкевіч Кароль (сын Юрыя, з маёнтка Жырмуны, гадоў 44, высланы ў Пермскую губерню).

262. Уланоўскі Фелікс (з ваколіцы Вайдагі).

263. Фалькоўскі Адам (ксёндз пробашч, гадоў 53, з м. Ішчолна, расстраляны *ў Лідзе).*

264. Хмялеўскі Юзаф (сын Марціна, гадоў 23, з аддзелу Чудоўскага, высланы ў Томскую губерню).

265. Цадронскі Міхал (сын Яна, гадоў 17, з маёнтка Дуцішкі).

266. Цыдзік Міхал (гадоў 40, з ваколіцы Дылева парафіі Васілішскай, высланы ў Сібір).

267. Цяцянец Дыяніз (сын Барталамея, гадоў 25, з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Енісейскую губерню).

268. Цяцянец Ігнацы (сын Шымона, гадоў 27, з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Сібір).

269. Чарвінскі Ян (сын Аляксандра, гадоў 33, высланы ў Сібір).

270. Чачот Томаш (ксёндз вікары парафіі Восаўскай).

271. Шабельскі Юзаф (ляснічы ў лясах графа Тышкевіча, высланы ў Томскую губерню).

272. Шалевіч Адольф (гадоў 26, высланы ў Самарскую губерню).

273. Шалевіч Кароль (сын Фелікса, гадоў 24, высланы ў Сібір).

274. Шалевіч Юзаф (сын Феліцыяна, з маёнтка Шалева).

275. Шахоўскі Валяр'ян (гадоў 20, з аддзелу Нарбута). *(Селянін.)*

276. Шкіландзь Адольф (сын Яна, гадоў 17, з ваколіцы Паддуб'е высланы ў Сібір).

277. Шмігер Густаў (сын Юзафа, гадоў 17, высланы на катаргу ў рудніках на 12 гадоў).

278. Шмігер Юзаф.

279. Шукевіч Томаш (сын Яна-Вінцэнта, гадоў 36, з маёнтка Крупава, павятовы суддзя, высланы ў Томскую губерню).

280. Шчасновіч Міхал (высланы ў Томскую губерню),

281. Шэлкінг Альфонс (з маёнтка Забалоцце графа Патоцкага).

282. Эйсмант Аляксандр (сын Захарыя, з маёнтка Пікулішкі, высланы ў Табольскую губерню).

283. Эйсмант Леанард (сын Пятра, гадоў 59, з маёнтка Пікулішкі, высланы ў Табольскую губерню).

284. Юндзіл Ян (сын Гіпаліта, гадоў 18, з ваколіцы Вайдагі).

285. Юрэвіч Анастазы (з ваколіцы Пашышкі, быў ў аддзеле Нарбута, высланы ў Сібір). *(Мешчанін.)*

286. Юрэвіч Ануфры (гадоў 30, з маёнтка Юршышкі, парафіі Эйшышскай з аддзелу Нарбута).

287. Якубоўскі Францішак (сын Юрыя, гадоў 19, высланы ў Самарскую губерню).

288. Янкоўскі Аляксандр (сын Пятра, гадоў 20, з маёнтка Рачкоўшчына парафіі Навадворскай, быў ў аддзеле Нарбута і Астрогі, высланы ў Сібір),

289. Янкоўскі Канстанцін (сын Пятра, з маёнтка Рачкоўшчына, высланы ў Сібір),

290. Янкоўскі Пётр (сын Пятра, гадоў 24, быў ў аддзеле Нарбута з 3.03.1863 года, пад час бою пад Дубічамі 30.03.1863 г. быў паранены, высланы

на катаргу ў рудніках, дзе памёр).

291. Янкоўскі Стэфан (сын Пятра, гадоў 22, высланы на катаргу на 12 гадоў ў Табольскую губерню).

292. Янушкевіч Людвік (сын Вінцэнта, гадоў 40, высланы ў Томскую губерню).

293. Янушкевіч Эдвард (сын Ігнацыя, з вёскі Шаўры, парафіі Нацкай, высланы ў Сібір).

294. Ястрэмбскі Рамуальд (высланы ў Самарскую губерню).

295. Ястрэмбскі Сільвестр (сын Людвіка, гадоў 18, з ваколіцы Таўчышкі, з аддзелу Нарбута, высланы ў Сібір).

296. Яцунскі Андрэй з фальварка Вайдзбойнішкі.

297. Яцунскі Пётр (сын Фелікса гадоў 21, з фальварка Стамяроўшчына, з аддзелу Нарбута, прыгавораны да катаргі на 8 гадоў).

298. Яцунскі Войцах (сын Шымона, з маёнтка Вайдзбунішкі).

299. Яцэвіч Фелікс (з маёнтка Ішчолна).

Поўны вынік дзейнасці Мураўёва на Літве на працягу двух гадоў яго бяздушнага кіравання ў Вільні ад траўня 1863 да красавіка 1865 года выглядае наступным чынам: расстраляна або павешана 128 чалавек (сярод іх: Кастусь Каліноўскі, Альберт Лясковіч, Юзаф Яблонскі, Кароль Сіповіч, браты Раўкоўскія, Генрык Макавецкі, Ян Бянькоўскі, Ян Марчэўскі, Эдвард Чаплінскі, Якуб Ціхановіч, Ігнат Здановіч, Зыгмунт Серакоўскі, ксёндз Тэафіл Рачковіч, ксёндз Станіслаў Ішора, ксёндз Раймунд Зямацкі, а ўсяго 20 ксяндзоў), на катаргу выслана 972 чалавекі, на пасяленне ў Сібір 1427 чалавек, прымусова ўзята ў войска 345 маладых мужчын, у арыштанцкія роты – 864, у губерні, размешчаныя ўнутры Расіі, выслана 1529 чалавек, адначасова перасяліўшы да іх 4096 чалавек сямейнікаў. Усяго падчас Мураўёўскіх рапрэсій пацярпеў 9341 чалавек. Да таго можам дадаць закрыццё некалькіх дзесяткаў касцёлаў і скасаванне звыш 30 каталіцкіх клештароў, ліквідацыю польскіх школ і забарону карыстання польскай мовай у публічных месцах. Рымска-каталіцкую рэлігію выкладалі ў школах па-расейску. Нават казанні ў касцёлах загадана было прамаўляць па-расейску.

Былі канфіскаваны 1794 сядзібы (да 31 студзеня 1864 года толькі ў Віленскай губерні па выраку суда былі канфіскаваны 162 маёнткі).

Важныя экзекуцыі часта праводзіліся публічна на гарадскіх пляцах у прысутнасці войска альбо аркестра, якія ігралі бадзёрыя маршы ў тыя хвіліны, калі грамадзяне адмаўлялі “Анёл Панскі” за тых, якіх праз хвілю пазбавяць жыцця.

Лініяй афіцыйнай палітыкі было не толькі фізічна ліквідаваць былых паўстанцаў праз экзекуцыі і катаржнае зняволянне, але стварыць найхутчэй нязносныя ўмовы побыту для ўсіх, хто адкрыта прызнаваўся да польскасці або рымска-каталіцкай рэлігіі.

***Пераклад з польскай Станіслава Судніка.***

***Ад рэдакцыі.***

*Прыведзены спіс гэта перш за ўсё фактычны матэрыял, які дае шмат інфармацыі для гісторыкаў, этнографаў, краязнаўцаў.*

*Так у спіс лідзян - кіраўнікоў паўстання мы можам да **Людвіка Нарбута, Баляслава Нарбута, Аляксандра Парадоўскага (Астрогі) і Баляслава Колышкі** дадаць трох камандзіраў баявых аддзелаў: **Любіча** (хутчэй за ўсё псеўданім па гербу “Любіч”, як часта рабілася падчас паўстання), а таксама **Чудоўскага** і **Рыхлеўскага**, пра якіх практычна нідзе не згадваецца.*

*Можам дадаць **Александровіча Ксаверыя, сына Антонія** (з маёнтка Нявіша), акружнога начальніка рэвалюцыйнага камітэту, а таксама парафіяльных начальнікаў (мабыць цывільных) **Ёдку Людвіка** (з ваколіцы Валочкі) і **Клімантовіча Баляслава сына Канстанціна** (з маёнтка Лябёдка, псеўданім – **Антаневіч**).*

*Асаблівую цікавасць выклікае аналіз узросту паўстанцаў. У спісе з 299 чалавек пададзены ўзрост 191 паўстанца.*

*Узрост іх хістаецца ад 15 (2 чалавекі) да 65 гадоў. Аднак гэты ўзрост размеркаваны вельмі неаднародна. Узрост ад 15 да 20 гадоў маюць 60 чалавек, ад 21 да 25 гадоў маюць 48 чалавек, ад 26 да 30 гадоў - 23 чалавекі, ад 31 да 35 гадоў - 21 чалавек, ад 36 да 40 гадоў - 13 чалавек, ад 41 да 45 гадоў - 13 чалавек, ад 46 да 65 гадоў - яшчэ 13 чалавек. Моладзь ва ўзросце ад 15 да 25 гадоў складае 56,5%. У большасці сваёй усе яны аказаліся надоўга, калі не назаўсёды выкрасленымі з жыцця Бацькаўшчыны. А ўсё гэта была адукаваная шляхочая моладзь, хлопцы, якія валодалі беларускай, польскай, як правіла французскай, расейскай ды і іншымі замежнымі мовамі. Усе яны атрымалі, як мінімум хатнюю адукацыю, многія вучыліся ў гімназіях і, нават, універсітэтах.*

*Дык ці дзіва, што генетычныя сілы нацыі аказаліся надоўга падарванымі. Па вялікаму рахунку гэта была апошняя бітва беларускай шляхты за Бацькаўшчыну. На наступных этапах, каб выратаваць краіну на пярэдні план ужо мусілі выходзіць перадавыя людзі з сялянскіх і мяшчанскіх станаў беларускага народа. Паводле ўдакладненяў, зробленых ст. навуковым супрацоўнікам Лідскага гістарычна-мастацкага музея Валерыем Сліўкіным, ужо ў гэтым спісе сярод шляхты маецца некалькі сялян і мяшчан.*

*Спіс паказвае размах паўстання і размах рэпрэсій толькі ў адным павеце. Аднак гэта не апошні спіс лідскіх паўстанцаў. У Лідзе маецца яшчэ адзін спіс, складзены польскімі навукоўцамі перад 1939 годам. Паводле павярхоўных ацэнак ён у значнай ступені дапаўняе прыведзены. Як толькі рэдакцыя атрымае доступ да гэтых матэрыялаў, мы пазнаёмім з імі і нашых чытачоў.*

***Станіслаў Суднік.***

# Нязводнае імя Кастуся Каліноўскага

***Тое, што будзе напісана зараз, будзе ў значнай ступені паўтарэннем прайдзенага і пераказам вядомага. Але гэта будзе паўтарэнне пройдзенага нямногімі і пераказам вядомага нямногім.***

Шляхочы род Каліноўскіх гербу "Калінава" вядомы паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. Продкі Каліноўскіх амаль 100 гадоў валодалі маёнткам Калінава ў Бранскай зямлі (сучасная Беласточчына). У другой палове 18 ст. іх маёнтак быў прададзены і Каліноўскія сталі беззямельнай шляхтай. Гэта магло адбыцца, тады калі ў Калінаве гаспадарыў Стэфан Каліноўскі, або яго бацька.

У Стэфана Каліноўскага ў трагічным 1794 годзе нарадзіўся сын Сымон (Сямён, Шыман).

Сымон Стафанавіч Каліноўскі недзе ў 1824 г. ўзяў у жонкі Вераніку Рыбінскую, 1806 г.н. Паводле Генадзя Кісялёва ў іх было 12 дзяцей. Некаторыя даследчыкі налічваюць – 10 дзяцей. Вядомыя імёны сыноў Кандрата – Мацея (1825 г.н), Сцяпана – Язэпа (Юзафа, 1829 г.н), Віктара – Атона (1833 г. н.), Канстанціна – Вікенція (1838 г.н), Уладзіслава – Мечыслава (1840 г.н.), дачкі Казіміры.

Паводле Генадзя Кісялёва ўсе гэтыя дзеці памерлі да 1864 г. Кастусь быў апошнім.

Але вядомыя яшчэ дачка Сымона Гандзя – Ганулька 1842 г. н. і сын Ян-Якуб (1844 г.н.), якія пражылі значна больш.

Паводле гістарычных крыніц маці К. Каліноўскага Вераніка з Рыбінскіх памерла ў 1844 г. Сымон Каліноўскі жаніўся другі раз, узяў Ізабэлу Лазарэвіч і меў з ёю яшчэ 5 дзяцей. Хутчэй за ўсё Аляксандра Каліноўская, маці Міколы Дзямідава была адной з гэтых пяцярых дзяцей.

Пасля паўстання 1863 года на род Каліноўскіх абрынуліся рэпрэсіі. Аднак рэпрэсіі насілі выбарачны характар. Невядома, ці браў удзел у паўстанні Ян-Якуб Каліноўскі, яму было на той час

## *Прыкладны радавод Каліноўскіх*




*Працяг на ст. 28.*

19 гадоў, але ён быў сасланы ў Самарскую губерню. Гандзя-Ганулька не была сасланая і засталася на сваёй зямлі ў Грынках пад Слонімам.

На момант смерці Кастуся Каліноўскага бацьку яго Сымону Каліноўскаму было 70 гадоў. Памёр ён у 1871 г.

У Яна-Якуба Каліноўскага ў 1870 гадах нарадзіўся сын Ігнат Каліноўскі

У пачатку 20-га стагоддзя Ігнат Каліноўскі жаніўся, і ўзяў Настусю з в. Касцяні. У 1906 годзе ў іх нарадзіўся сын Ян (Іван) Ігнатавіч Каліноўскі. І на два гады пазней ці раней дачка Жэня (Яўгенія Ігнатаўна Каліноўская).

Ян-Якуб Каліноўскі і яго сын Ігнат Каліноўскі памерлі ў Расіі.

Настуся Каліноўская з дзецьмі Янам і Жэняй пасля рэвалюцыі вярнулася ў Беларусь Вярталіся разам з бежанцамі 1-й сусветнай вайны. З’ездзілі ў Якушоўку, але там нікога з Каліноўскіх ужо не было. Пераехалі пад Слонім у Грынкі да Ганулькі Каліноўскай (па мужу Хварышчук). У Ганулькі сваіх дзяцей не было і яна з мужам былі ўжо старыя (за 80 гадоў). Настуся была жонкай пляменніка Ганулькі, фактычна чужая, таму Ганулька намовіла свайго мужа Яна сына Ануфрыя Хварышчука адпісаць усю сваю зямлю і маёмасць Яну (Івану) Каліноўскаму роднаму ўнуку, свайго роднага брата Яна-Якуба.

Дарчая была афармлена ў 1927 годзе. ад імя мужа Ганулькі Яна сына Ануфрыя Хварышчука.

У 1929 годзе на Міхала Ян Каліноўскі жаніўся. Узяў Вольгу Пятроўну Казека, 1907 (8) г.н. Яўгенія Каліноўская выйшла замуж за Шашкоўскага.

У гэты ж час недзе побач жыў Аляксей Каліноўскі, нашчадак Сымона Каліноўскага, нажаль пакуль поўны ланцуг спадчыннасці не ўстаноўлены, але яны лічыліся з Янам блізкімі сваякамі.

У сярэдзіне 20-х у Аляксея Каліноўскага нарадзіўся сын, якога назвалі Кастусём. Канстанцін Аляксеевіч Каліноўскі ў 1944 годзе быў забраны ў Чырвоную Армію Служыў у Германіі ў Галігенштадце. Фатаздымкі адтуль пазначаны 1946 годам.

Пасля службы Кастусь Каліноўскі вярнуўся у Беларусь. Неўзабаве (ў 1949 г.) пачалася калектывізацыя. Малады Кастусь гэтага не вытрымаў, сабраўся і пайшоў пяшком у Амерыку да дзядзькі (значыць нехта з Каліноўскіх аказаўся і там). Кастусь паспяхова перайшоў польскую мяжу, але


ODPIS

UCHWAŁA №



*1-я і 2-я старонкі з 4-х старонкавай “Ухвалы на права ўласнасці на зямельны надзел” Яну сыну Ануфрыя Хварышчуку ў в. Грынкі, солтыства Касцянева, гміны Чэмерскай, павету Слонімскага*

# Выпіска з Акту дарэння зямлі ад Яна сына Ануфрыя Хварышчука Яну сыну Ігнацыя Каліноўскаму №3607 за 1927 год



***Першы выпіс з акту складзенага Чаславам Дабравольскім, намеснікам Мечыслава Пяткоўскага натарыюса ў Слоніме і запісанага ў рэестр за год 1927 пад № 3607***

*Дня 21 верасня 1927 г. мной Чаславам Дабравольскім, намеснікам Мечыслава Пяткоўскага натарыюса ў Слоніме ў яго канцылярыі па вуліцы Касцюшкі пад № 7 ў прысутнасці знаёмых мне сведкаў Максіма Борыка і Пятра Шышкоўскага, якія жывуць ў вёсцы Грынкі Чэмерскай гміны Слонімскага павету прадстаўлены былі незнаёмыя мне польскія абывацелі: 1. Ян сын Ануфрыя Хварышчук. 2. Ян сын Ігнацыя Каліноўскі, якія жывуць ў той жа вёсцы Грынках, якіх тоеснасць асоб і дзеяздольнасць пацвердзілі вышэй названыя сведкі акту і склалі **Акт дарэння** наступнага зместу.*

*Ян сын Ануфрыя Хварышчук засведчыў, што па волі ўхвалы грамады вёскі Грынкі з дня 7 кастрычніка 1924 г. за № 53 зацверджаны павятоўвым земскім урадам у Слоніме 11 снежня 1924 г. за № 293, ён з'яўляецца праўдзейным уладальнікам надзелавай (указавай) зямлі, якая займае 3 дзесяціны ці каля 3 гектараў 2775 кв.м. размешчанай у вёсцы Грынкі Чэмерскай гміны Слонімскага павету ў 5-ці асобных дзялках ва ўрочышчах: "Пад усадзьбаю", "За гумнамі", "За балотам Алёнаўшчына", і "Косьнік", пры гэтым кожная з названых дзялак мяжуе з аднаго боку з землёй маёнтка Рагозы і з другога боку з зямлёй Герасіма Зуя. Прадстаўлены Ян Хварашчук з'яўляецца ўладальнікам жылога дому, які знаходзіцца на названай зямлі і мае права да супольнага з гаспадарамі вёскі Грынкі карыстання з належных да вёскі вуліц, дарог пашаў і няўдобіцы. А таксама ўдзельнічаць нараўне з астатнімі гаспадарамі-ўласнікамі вёскі ў карыстанні з праў, якія прызнаюцца за вёскай сілаю імяннога выкупнога спісу Люстрацыйнай камісіі.*

*Пасля такога сведчаня Ян сын Ануфрыя Хварышчук сёняшнім актам усю вышэй апісаную сваю зямлю надзельную разам з жылым домам і з правамі да грамадскіх выгод дарує і ў поўную ўласнасць аддае разам прадстаўленаму Яну сыну Ігнацыя Каліноўскаму з тым што абдораны Каліноўскі будзе ўтрымліваць даравальніка*

# Працяг радаводу Каліноўскіх па лініі Яна Каліноўскага

- Вольга з Казекаў 1908 г. н. — Каліноўскі Ян 1906-1967
  - Ніна, па мужу Гарадзецкая 1931 г.н., г. Ліда
    - Анатоль, 1952-1976
      - Мілана, 1976 г.н., Германія
  - Надзея, 1935 г.н., г. Слонім
    - Мікалай, 1956 г.н., г. Горадня
    - Пётр, 1961 г.н., г. Слонім
    - Наталля, 1963 г.н., г. Масква
  - Марыя, 1936 г.н., г. Ліда
    - Валянціна, 1960 г.н., г. Масква
      - Першыкавы
  - Валянціна, 1940 г.н.,
    - Святлана, г. Вілейка
    - Воля
  - Каліноўскі Мікалай 1942 - 1.01.2003 г. Навачаркаск
    - Юля, 1-я жонка
      - Каліноўскі Ігар 1966 г.н., г. Навачаркаск
        - Святлана
        - Воля
    - Валя, 2-я жонка
      - Каліноўскі Кастусь 1988 г.н., г. Навачаркаск



**Канстанцін Аляксеевіч Каліноўскі.**
**На адвароце здымка надпіс: “На доўгую, добрую памяць цёці Вользе (жонка Яна Каліноўскага) ад Каліноўскага Канстанціна Аляксеевіча (1946 г.)**



**На адвароце здымка надпіс: К. Каліноўскі, Мікалай Шакун,Іван Чурык, Іван Купрыянаў. 24/IX-45 г. Галігенштадт.**

*і жонку яго **Ганну з Каліноўскіх Хварышчук** да іх смерці, г.зн. будзедаваць ім жыллё запалам і святлом, вопратку, дастатковa харчавання, а пасля смерці прыстойна іх пахавае. Разам з названай нерухомасцю на абдоранага пераходзяць усе прывязаныя да ее правы і абавязкі даравальніка, а таксама ўсё тое, што даравальнік там мае і да чаго мае права ў такім стане, як тое ўсеёсць без ніякага на чыю-небудзь карысць вылучэння. Абавязак рэгулявання ўсякіх падаткаў або павіннасцяў ў натуры ад падоранай нерухомасці пераходзіць на абдоранага ад дня падпісання гэтага акту.*

*Абдораны, падараваную яму нерухомасць добра ведае ў натуры, дар той з удзячнасцю прымае, абязуецца ўтрымоўваць Яна і Ганну Хварышчукоў да іх смерці, уваходзіць з сёняшняга дня ў фактычнае і правамоцнае ўладанне падарованай яму нерухомасцю і сённяшні акт прымае.*

*Даравальнік згаджаецца на перапісанне, дзе належыць, назвы ўласнасці і падараванай нерухомасці на імя абдоранага на яго аднабаковы ўнёсак, а таксама сведчыць, што нерухомасць тая нікому непрададзена, не заложана, спрэчкамі не абцяжана і не знаходзіцца пад арыштам. Бакі сведчаць што паміж імі няма акалічнасцяў прадугледжаных у артыкуле № 7 статута ад дня 29 траўня 1920 года аб падаткаабкладанні спадчыны і дарэнняў. А таксама ацэньваюць падораную нерухомасць паводле сумлення на 600 злотых. Акт той у прысутнасці вышэй названых сведкаў прачытаны, што да сутнасці зразумелы і, як згодны з іх воляй, прыняты і падпісаны. Першы выпіс належыць выдаць абдоранаму, а наступны кожнаму з прадстаўленых. Аплата ад дарэння не ўзята ў сілу артыкула 1 Статута ад дня 18 ліпеня 1924 года. За непісьменнага Яна Хварышчука па яго асабістай просьбе падпісаўся Іван Кашаед. Ян Каліноўскі.*

*Сведкамі былі: пацверджаны тоеснасць асоб і правадзейнасць правамоцных Яна Хварышчука і Яна Каліноўскага і што за непісьменнага Яна Хварышчука па яго асабістай просьбе акт той у нашай прысутнасці ўласнаручна падпісаў пан Ян Кашаед, які жыве ў вёсцы Грынкі Слонімскага павету, Пётр Шышкоўскі, Максім Борык.*

*Подпісы расейскія, якія азначаюць Ян Кашаед і Максім Борык, пераклаў і акт той падпісаў Дабравольскі намеснік натарыюса.*

# Працяг радаводу Каліноўскіх па лініі Яўгеніі Каліноўскай




на нямецкай папаўся.

Судзілі. Тэрмін адбываў у Чалябінску. Пасля таго, як адсядзеў, пераехаў у Гур'еў. Быў жанаты. Там і памёр.

У Яна Каліноўскага ў Грынках у 1931 г. нарадзілася дачка Ніна, у 1935 г. – Надзея, у 1936 г. – Марыя, у 1940 г. – Валянціна, у 1942 г. – Мікалай. Ніна, Надзея і Марыя Каліноўскія былі хрышчаныя ў Сынкавіцкай уніяцкай царкве. Валянціна і Мікалай былі хрышчаны ў той жа царкве, але ўжо праваслаўнай. Савецкая ўлада ў барацьбе з уніяй была шчырым прадаўжальнікам палітыкі царызму.

У 1942 годзе Яна Каліноўскага бацьку пяцярых дзяцей забралі на работы ў Германію. Немцы ў 1942 годзе звычайна бралі толькі моладзь, але ў вайны так шмат выключэнняў. Забралі ў 36 гадоў ад вялікай сям'і. Працаваў Каліноўскі на авіяцыйным заводзе, вызвалілі амерыканскія войскі. Быў перададзены саветам. Да 1946 года служыў у шэрагах Чырвонай Арміі. Калі дэмабілізавалі яго 1906 год, бацька вярнуўся дамоў, моцна хварэў і ў 1967 годзе памёр.

Старэйшая дачка Яна Ігнатавіча Каліноў-

скага Ніна (1931 г.н.) выйшла замуж за Гарадзецкага, мела сына Анатоля (1952-1976), мае ўнучку Мілану (1976 г.н. жыве ў Германіі). Ніна Каліноўская жыве ў Лідзе.

Надзея Іванаўна Каліноўская (1935 г.н.,) жыве ў Слоніме, мае сына Мікалая (1956 г.н. Горадня), сына Пятра (1961 г.н., Слонім), дачку Наташу (1963 г.н., Масква) і ўнукаў.

Марыя Іванаўна Каліноўская (1936 г.н. жыве ў Лідзе мае дачку Валянціну (1960 г.н. Масква, празвішча па мужу Першыкава, двое дзяцей).

Валянціна Іванаўна Каліноўская (1940 г.н. дочкі Святлана і Воля).

Мікалай Іванавіч Каліноўскі (1942 г.н. жыў у Навачаркаску, памёр 1.01.2003 г.) Першая жонка Юля, сын Ігар (1966 г.н. Навачаркаск), у Ігара дочкі Юля і Ксеня.

Другая жонка Валя. Сын Канстанцін Мікалаевіч Каліноўскі (1988 г. н., Навачаркаск). Самы малады Кастусь Каліноўскі вучыцца сёння ў 10-м класе.

Унучка Яна-Якуба Каліноўскага Яўгенія Ігнатаўна Каліноўская ў замустве Шышкоўская мела траіх дзяцей: сын Валодзя падарваўся на міне ў 12 гадоў, сын Мікалай, дачка Ганна (1929 г.н., жыве ў в. Касцяні, працавала фельчарам – акушэрам, замужам з 1945 г.

Ганна Шышкоўская – прапраўнучка Веранікі Каліноўскай, мацеры Кастуся Каліноўскага, якая мела 12 дзяцей, пераўзышла сваю прапрабабку і нарадзіла 13 дзяцей (Воля, Ніна, Валодзя, Пеця, Коля, Алена, Наташа, Ваня, Аня, Света, Ірына, Саша, Таня).



***Самы малодшы Кастусь Каліноўскі. (Канстанцін Мікалаевіч Каліноўскі, 1988 г. н., Навачаркаск.)***

Магчыма праведзенае, не надта глыбокае даследванне і не мае вялікага навуковага значэння, але мае вялікае маральнае. Мы прасачылі адну лінію роду Каліноўскіх і можам канстатаваць, што ў жылах дзесяткаў а мо ўжо і сотняў беларусаў цячэ кроў роду Каліноўскіх, перыядычна хлопцы гэтага роду атрымоўваюць імя Кастусь. Генетычная памяць не ўмірае і, магчыма, у кім-небудзь з Каліноўскіх паўторыцца вялікі змагар за Беларусь Кастусь Каліноўскі і паўторыцца не толькі імем.



***Ніна Каліноўская (Гарадзецкая) з Ліды прамаўляе ля магілы Віктара Каліноўскага ў Свіслачы***

*Я выказваю шчырую падзяку Валерыю Сліўкіну, Уладзіміру Хрышчановічу за сабраны матэрыял па радаводу Каліноўскіх, а асабліва Ніне Каліноўскай, якая ў Лідзе высока прымае штандар свайго вялікага роду і з чыіх словаў запісаны ўвесь гэты матэрыял.*

***Станіслаў Суднік.***

**Валеры Сліўкін**

# Урбанонімы горада Ліды

## Лідскія гарадскія гадонімы і агаронімы (Назвы лідскіх вуліц і пляцаў)

*(Заканчэнне. Пачатак у № 22.)*

**Аб назвах.**

У сваёй большасці назвы вуліц у Лідзе надуманыя, яны прыдуманы і ўзаконены ўладамі. Сярод 290 вуліц няма і дзесятка, якія мелі б адносіны да ланшафту, або да блізка размешчаных пабудоваў. Вуліца Замкавая размешчана каля Замка. Авіяцыйная, Аэрадромная і Лётная – каля аэрадрома, Чыгуначная – уздоўж чыгункі, Дачная – па дарозе на дачы. Зялёны бераг, Прыазёрная, Набережная- каля вадасховішчаў, Зарэчная – за Лідзейкай, Транспартная – каля аўтапарка. І гэта напэўна ўсё. Гаварыць пра лідскія гадонімы не выпадае. Народных назваў няма, іх паўсюль замянілі адміністратыўнымі саветызмамі: Інтэрнацыянальная, Камунараў, Камуністычная, Камсамольская, Чырвонаармейская, Чырвонагвардейская, Чырвонадонцаў, Калгасная, Кастрычніцкая, Партызанская, Піянерская, Пралетарская, Рэвалюцыйная, Савецкая, Саўгасная, Сацыялістычная. Асаблівае "захапленне" выклікаюць вуліцы, абазваныя днямі года: 7-га лістапада, 1-га мая і 8-га сакавіка.

**Аб імянных вуліцах.**

На сёння ў Лідзе 148 імянных вуліц.

**Вуліц, названых імёнамі вучоных – 14**: В.В. Дакучаева, (1846-1903), М. Я. Жукоўскага, (1847-1921), М. Каперніка (1473-1543), М. І. Лабачэўскага (1792-1856), М.В. Ламаносава (1711-1765), Д.І. Мендзялеева (1834-1907), І.І. Мечнікава (1845-1916), І.У. Мічурына (1855-1935), І.П. Паўлава (1849-1936), І.І. Паўзунова (1728-1756), А.С. Папова (1859-1906), Г.Я. Сядова (1877-1914), І.М. Сечанава (1829-1905), К.А. Цімяразева (1843-1920), У.П. Філатава (1875-1956).

**Вуліц, названых імёнамі пісьменнікаў і паэтаў** - 30: імя В.Р.Бялінскага (1811-48), А.П. Гайдара (1904-41), А.І.Герцана (1812-70), М.В. Гогаля (1809-52), М.Горкага (1868-1936), А.С. Грыбаедава (1795-1829), М.А.Дабралюбава (1836-61), Ф.М. Дастаеўскага (1821-81), Я.Коласа (1882-1956), І.П.Катлярэўскага (1769-1838), І.А. Крылова (1769-1844), Я.Купалы (1882-1942), М.Ю.Лермантава (1814-41), У.У.Маякоўскага (1893-1930), А.Міцкевіча (1798-1855), М.А.Някрасава (1821-78), М.А.Астроўскага (1904-36), А.С. Пашкевіч (1876-1916), А.С.Пушкіна (1799-1837), А.М.Радзішчава (1749-1802), К. Ф. Рылеева (1795-1826), А.С. Серафімовіча (1863-1949), В.П.Таўлая (1914-47), Л.М. Талстога (1828-1910), І.С.Тургенева (1818-83), І.Я.Франко (1856-1916), Д.А.Фурманава (1891-1926), М.Г. Чарнышэўскага (1828-89), А.П.Чэхава (1860-1904), Шалом-Алейхема (1859-1916).

**Імёнамі музыкантаў** названыя дзве вуліцы: М.І.Глінкі (1804-57), П.І.Чайкоўскага (1840-93).

**Імёнамі мастакоў** - таксама дзве вуліцы: І.Я.Рэпіна (1844-1930), І.К.Айвазоўскага (1817-1900).

**Камуністычныя дзеячы і рэвалюцыянеры** ашчаслівілі сваімі імёнамі 27 вуліц: імя М.Э. Баўмана (1873-1905), Ф.Э.Дзяржынскага (1877-1926), М.І.Калініна (1875-1946), С.М.Кірава (1886-1934), Н.К.Крупскай (1869-1939), В.У.Куйбышава (1888-1935), У.І. Леніна (1870-1924), К.Лібкнехта (1871-1919), Р.Люксембург (1871-1919), К.Маркса (1818-83), П.М.Машэрава (1918-80), В.Р. Менжынскага (1874-1934), А.Ф. Мяснікова (1886-1925), С.К.Арджанікідзэ (1886-1937), Г.В.Пляханава (1856-1918), С.О.Прытыцкага (1913-71), Т.С. Радзюка (1906-61), Я.М.Свярдлова (1885-1919), Э.Тэльмана (1886-1944), М.С.Урыцкага (1873-1918), Р.Ф.Фамічова (1925-78), М.В.Фрунзэ (1885-1925), А.С.Шчарбакова (1901-45), Ф.Энгельса (1820-95), Г.М.Дзімітрава (1882-1949), К.Цэткін (1857-1933), Ульянавых.

**Імёны паўстанцаў** носяць 5 вуліц: І.І. Балотнікава (?- 1608), К.Каліноўскага (1838–64), Я.І. Пугачова (1742-75), С.Ц.Разіна (к. 1630-71), Т. Касцюшкі (1746-1817), Б.М.Хмяльніцкага (к. 1595-1657).

**Імёны палкаводцаў і ваеначальнікаў** маюць 15 вуліц: П.І.Багратыёна (1765-1812), Л.І.Бяды (1920-76), М.Ф.Ватуціна (1901-44), К.М.Галіцкага (1897-1973), Л.А.Говарава (1897-1955), Л.М. Даватара (1903-41), Дз. Данскога (1350-89), Г.К. Жукава (1896-1974), М.І.Кутузава (1745-1813), П.С.Нахімава (1802-55), А.Неўскага (1220-63), А.В. Суворава (1730-1800), М. М. Тухачэўскага (1893-1937), Ф.Ф.Ушакова (1744-1817), І.Д.Чарняхоўскага (1906-1945).

**Імёны герояў** маюць 24 вуліцы: імя Б.С. Акрэсціна (1923-44), П.Д.Асіпенка (1907-39),А.Я. Брандыса (1923-?) М.Г. Гарэева (1922-), М.Ф. Гастэлы (1907-41), С.Д.Герасімава (1915-44), І.П. Вядзеніна (? -1942), А.Т. Дундзіча (1897-1920), Д.І.Жабінскага (1920-45), К.С.Заслонава (1910-42), М.Казея (1929-44), З.А.Касмадзям'янскай (1923-41), Р.І.Катоўскага (1881-1925), А.В.Кашавога (1926-43), С.Г.Лазо (1894-1920), М.М. Малахава (1921-93), А.М.Матросава (1924-43), П. Марозава (1918-32), А.Я.Пархоменкі (1886-1920), А.К.Сярова (1910-39), Л.І.Чайкінай (1918-41), В.І. Чапа-

ева (1887-1919), В.П.Чкалава (1904-38), М.А. Шчорса (1895-1919).

**Імёны партызанаў і падпольшчыкаў** атрымалі 13 вуліц: Б.А. Булата (1912-84), М.М. Ігнатава (1910-44), А.Г.Качана (1925-44), А.А.Клімко (1925-44), М.І.Канаховіча (1900-48), М.І. Кастраміной (1923-43), Зоі (1926-44) і Лёні (1929-44) Кудачовых, М.К.Наказных (1923-44), І.А. Пралыгіна (1917-76), В.А.Рыбіноўскага (1918-44), В.І. Шубіна (1916-44), А.А.Коннава (1919-73), В.З. Царука (1899-1957)

**Імёны ўдзельнікаў баёв за горад** носяць 10 вуліц: М.П.Арцёменкі (1913-44), П.П.Брыкеля (1903-1984), С.І.Балгарына (1925 гр), М.Ф. Выдайкі (1913-44), В.М.Грыгор'ева (1908-44), У.В. Лупава (1897-44), М.С.Аслікоўскага (1900-71), І.І.Сытнікава (1904-44), А.Ф.Труханава (1911-44), М.Ц. Шаўчэнкі (1907-79).

**Перадавікі вытворчасці** далі свае імёны дзвюм вуліцам: П.Н. Ангелінай (1913-59), А.Р. Стаханава (1906-77)

А таксама ёсць вуліцы імя касманаўта Ю.А. Гагарына (1934-68), супрацоўнікаў камісарыяту ўнутраных спраў І.М. Наскова (1911-48), і А.Я. Стралкоўскага (1917-53) і Шчадрына. Якога Шчадрына мелі на ўвазе – народніка, пісьменніка, жывапісца ці скульптара, пакуль не ведаю. Ёсць сумнівы і з Шаўчэнкам: вуліца Шаўчэнкі існавала ў цэнтры горада ў 1940 гадах, як вуліца Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі, а ў 1955 годзе ўзнікла заміж вуліцы Шырокай, як вуліца імя Міхаіла Цімафеевіча Шаўчэнкі, ганаровага грамадзяніна Ліды. Так напісана ў кнізе: "Іх імёнамі названы" (Мінск, 1997, с.679). Я абышоў усе дамы, з надзеяй удакладніць, каго ж з Шаўчэнкаў мелі на ўвазе. Але, ні на адным з трафарэтаў няма ініцыялаў, і любы грамадзянін па прозвішчы Шаўчэнка можа лічыць, што гэта вуліца названа ў яго гонар.

З прыведзенага спісу відно, што перавага назваў лідскіх вуліц аддадзена вайскоўцам, партызанам і падпольшчыкам – 62 вуліцы, камуністычным дзеячам, рэвалюцыянерам і паўстанцам – 32 вуліцы. І ні аднаго імені заснавальніка завода, фабрыкі, вытворчасці.

Павінен адзначыць, што абсалютная большасць вядомых і знакамітых вучоных, пісьменнікаў, паэтаў, музыкантаў, мастакоў, правадыроў, паўстанцаў, герояў і перадавікоў вытворчасці не мелі ніякіх адносін да нашага горада, ды і наўрад ці чулі пра яго існаванне.

Толькі 17 чалавек: М.І. Канаховіч, В.П. Таўлай, М.М. Ігнатаў, А.Г. Качан, А.А. Клімко, М.І. Кастраміна, Зоя і Лёня Кудачовы, М.К. Наказных, І.А. Пралыгін, М.Г. Гарэеў, Л.І. Бяда, І.М.Наскоў, А.Я. Стралкоўскі, Т.С.Радзюк, Р.Ф.Фамічоў, М.М.Малахаў жылі ў Лідзе. Магчыма ў Паўднёвым гарадку жыў таксама А.Я. Брандыс. В.А. Рыбіноўскі 52 дні сядзеў у лідскай турме.

16 чалавек з спісу пахаваныя ў Лідзе: М.М. Ігнатаў, А.Г. Качан, А.А. Клімко, М.І.Кастраміна, Зоя і Лёня Кудачовы, М.К. Наказных, М.П. Арцёменка, М.Ф. Выдайка, В.М. Грыгор'еў, І.І. Сытнікаў, А.Ф. Труханаў, І.М. Наскоў, А.Я. Стралкоўскі, Т.С. Радзюк, М.М. Малахаў.

А. Міцкевіч, Ф.Э. Дзяржынскі, А. С. Пашкевіч (Цётка), Я. Купала, А.А. Коннаў, С.І. Балгарын, М.С. Аслікоўскі, М.Ц. Шаўчэнка, П.П. Брыкель, П.М. Машэраў, К.М. Галіцкі, Б.А. Булат, магчыма таксама У.В. Лупаў - бывалі ў Лідзе.

І толькі 1 чалавек з ўсяго спісу ў 148 прозвішчаў – Аляксанд Аляксандравіч Клімко – нарадзіўся ў Лідзе. Трэба думаць, што ў горадзе за амаль 700 гадоў яго існавання акрамя падпольшчыка А.А. Клімко, растралянага фашыстамі ў 19 гадоў, нікога вартага імяннной вуліцы не нарадзілася. Вышэйшы клас савецкага гаданімічнага пілатажу.

Я магу назваць дзесяткі ўраджэнцаў Ліды і Лідчыны – акадэмікаў, паэтаў, прамыслоўцаў, якія годны імяной вуліцы ў горадзе больш, чым Нахімаў, Дундзіч, Лібкнехт... Уладам былым і сённяшнім яны не вядомыя.

За час афіцыйнай незалежнасці з'явілася 5 імянных вуліц – гэта ізноў вайскоўцы: маршал і лётчыкі-штурмавікі.

У 90-я гады пры выбары назваў для вуліц у ход пайшлі **прафесіі** (Геалагічная, Інжынерная, Рыбацкая, Фермерская); **дрэвы і кусты** (Вербная, Кляновая, Ліпавая, Лазовая, Чаромухавая); **месяцы** (Майская); **гарады і пасёлкі** (Полацкая, Воранаўская, Дзітвянская, Дубровенская, Іўеўская, Нарачанская, Ашмянская).

Вярнуліся тры назвы 30-х гадоў. (Лётная, Ліпавая, Шырокая). А ў астатнім стандартны набор саветызмаў: (Акадэмічная, Балтыйская, Вясёлкавая, Дружная, Загарадная, Збожавая, Калядная, Камунальная, Крынічная, яшчэ раз Крынічная (у Расейскім перакладзе Родниковая), Міру, Мірная, Народная, Наватарская, Паветраная, Паркавая, Парніковая, Пясчаная, Падлесная, Пасялковая, Прыгарадная, Прамысловая, Радасная, Раздольная, Рэспубліканская, Рамантыкаў, Сустрэчная, Узорная, Фестывальная, Фізкультурная, Цэнтральная (на ўскраіне горада).

З назваў вуліц прыезджы замежнік ніякім чынам не зразумее, куды ён прыехаў, але адразу вызначыць, у які час. Мы жывём у сталінскім мінулым. Спадзяюся, што не назаўсёды. Не сумняваюся, што калі-небудзь у нас з'явяцца вуліцы вялікіх князёў Гедзіміна, Альгерда, Вітаўта, кнігавыдаўца Яна Карцана, вучоных Догеля, Юндзіла, Дамейкі, Нарбута, акадэмікаў Котвіча і Мігдала, літаратуразнаўцы Когана, актрысы Раксы, заводчыкаў Пупко і Шапіры, мастака Ямантa, музыканта Горскага, дактароў Казубоўскага і Вераб'ёва... - стваральнікаў, а не разбуральнікаў, будаўнікоў, а не штурмавікоў, даследчыкаў, а не падпольшчыкаў, тутэйшышых знакамітых людзей, а не чужаземцаў.

**Некаторыя мясцовыя парадоксы.**

Рэчку Лідзейку лідскія вуліцы перасякаюць не меняючы назваў. Іншая справа чыгункі, - пры іх перасячэнні вуліцы назвы, як правіла, мяняюць. Свярдлова - Савецкая - Энгельса – Навапрудская 1-я; Труханава - Шаўчэнкі – Някрасава; 8 сакавіка

– Чырвонаармейская, два выключэнні: вуліца Энгельса і Люксембург перасякаюць каляю да нафтабазы захоўваючы назвы.

Штампавярховая мураваная забудова 70-80 гадоў была накладзена на прыватную драўляную 40-60 гадоў. Шырокія магістралі заміж вузенькіх вуліц і завулкаў. Незавершанасць забудовы прывяла да парадаксальных вулічных сітуацый. Вуліца Маркса плаўна пераходзіць ў вуліцу Дзекабрыстаў, якая ўпіраецца ў плот, цераз два кварталы вуліца Маркса з'яўляецца зноў на супрацьлеглым баку вуліцы Горкага. Вуліца Чырвонаармейская робіць ход канём, вызваляючы месца вуліцы Рыбіноўскага. Вуліца Шчорса мае паўкіламетравы разрыў які перасякаюць 4 папярэчныя вуліцы.

Для нашых вуліц характэрны крутыя павароты і нечаканыя глухія заканчэнні. Вуліца Энгельса пад вуглом 90 градусаў паварочвае да Малочна-кансервавага камбіната, ля варот камбіната яшчэ раз павароачвае на 90 градусаў і заканчваецца, упёршыся ў плот АТП. Вуліца Беларуская таксама закончваецца каля плоту. Вуліца Гогаля на агароджанай тэрыторыі дзіцячага садка № 7 робіць 90-градусны паварот і ўпіраецца ў бардзюр.

Райвыканкам і Нацыянальны банк хаваюць, што размешчаны на вуліцы Шалом - Алейхема. Іх афіцыйныя адрасы – Савецкая – 8 і Савецкая – 10. Дзяржаўным чыноўнікам, відаць, не па рэквізіту працаваць на вуліцы яўрэйскага пісьменніка. Праезд які цягнецца ад вуліцы Савецкай да Кургана не мае назвы. Гэта не Ленінская, не Купалы і не Шалом- Алейхема, хаця два драўляныя дамы, размешчаныя ў яе пачатку маюць трафарэты Шалом-Алейхема.

На вуліцы Суворава застаўся адзін дом № 29. На Маладзечанскай засталося 3 дамы.

Вуліцу Коннава ў мясцовым друку часта называюць вуліцай Коннага, Мяснікова – вуліцай Мясніковіча, Сытнікава – Сітнікава.

Глухія завулкі, такія, як Бялінскага, Грыбаедава, Кудачавых, Купалы, Шубіна, называюцца вуліцамі, а нармальныя вуліцы з праездамі ў абодва бакі называюцца завулкамі – Лугавы, Люксембург, Малахава 1- шы, Свярдлова 2-гі, Садовы, Вузкі. У Лідскім гарадскім аддзеле архітэктуры розніцу паміж вуліцай і завулкам мне патлумачыць не змаглі, аказваецца ў сучасных слоўніках, законах, СНіП-ах, і метадычных указаннях, азначэнні ***вуліца*** і ***завулак*** не тлумачыцца.

Затое ёсць азначэнне мікрараёна, якім не грэх бы і карыстацца. ***"Мікрараён – структурны элемент, жылой забудовы, плошчай, як правіла 10-60 га, але не больш 80 га, не падзелены магістральнымі вуліцамі і дарогамі, у межах якога размяшчаюцца ўстановы і прэдпрыемствы штодзённага карыстання з радыюсам абслугоўвання, не больш 500 м ; межамі як правіла, з'яўляюцца магістральныя або жылыя вуліцы, праезды, пешаходныя шляхі, натуральныя рубяжы"***. (СНіП 2.07.01-89, с. 4).

У горадзе выразна выдзяляюцца такія мікраraёны, як Паўднёвы гарадок, Новы Паўднёвы гарадок, Касманаўтаў, кварталы паміж вуліцамі Машэрава і Горкага, Рыбіноўскага і Тухачэўскага, паміж вуліцай Фрунзе і вадасховішчам на рацэ Лідзейцы. Прывязваць назвы мікраранёнаў да магістральных праездаў неразумна. Нумарацыя дамоў ў мікрарайоне Тухачэўскага-Рыбіноўскага незразумелая нават яго жыхарам. Гэтыя мікраранёны на мой погляд, павінны мець кароткія ёмкія назвы і зразумелую нумарацыю дамоў без усякіх карпусоў.

**Мартыралог, знікшых лідскіх гадонімаў**

Аўтары мемуараў пастаянна блытаюць назвы вуліц. Асабліва гэта тычыцца часоў вайны, калі ўлады і большасць гараджан карысталіся не савецкімі назвамі, накінутымі ў 1939 -40 гадах, а польскімі. Каб аблегчыць ім ўспаміны прыводжу спіс знікшых назваў лідскіх вуліц.

Вул. Віленская (1674 - 1921), Сувальская, ці правільна Палка Сувальскага (1921-40), Савецкая з 9.01.1940 па гэты час.

Вул. Замкавая (1675 -1940), паўн. частка стала Віленскай каля 1850 г., паўдн. частка - Энгельса з 9.01.1940 па г.ч.

Вул. Каменская (1680 -1921), 3-га мая (1921-40), Ленінская (у 40-х гадах Леніна) з 9.01.1940 па г.ч.

Вул. Крывая (1680 -1935), Мацкевіча (1935-40), ?, зав. Ленінскі з 12.12.1968, знік у 70 -х.

Вул. Дваровая (1798).

Вул. Сенатарская (1846).

Вул. Паштовая (1843-92), зав. Паліцэйскі (1892-1903), вул. Паліцэйская (1903-21), Пераца (да1995), знікла.

Вул. Аляксандраўская (1892-1921), вул. Ёселевіча да 9.01.1940, Шалом-Алейхема з 1940 па г.ч.

Зав. Завальны 1892, вул. Завальная да 1955, Ламаносава з 1955 г. па г.ч.

Зав. Лідскі (1892-1903), вул. Лідская (1903-63), Таўлая з 1963 г. па г.ч.

Зав. Камерцыйны (1892-1903), вул. Камерцыйная (1903-55), Шолахава да 24.10.1957, Вясенняя з 1957, знікла ў 80-х.

Зав. Садовы (1892-1903), вул. Садовая (1903-41), знікла пасля бамбёжкі 23 чэрвеня 1941 г.

Зав. Шкляны (1892-1903), вул. Шкляная (1903- 45), Купалы Я. з 30.10.1945 па г.ч.

Зав. Гандлёвы (1892-1903), вул. Гандлёвая (1903 -45), знікла ў 50-х.

Зав. Школьны (1892-1906), вул. Школьная (1906 -40), Кірава з 9.01.1940 па г.ч., зах. частка – вул. Неўскага з 1955.

Зав. Яраслаўскі (1892-1921).

Вул. Дваранская (1903-21).

Вул. Пастаўская (1903-41), Папаніна (1940-41) і Фрунзе з 9.01.1940.

Вул. Сядлецкая (1903 -38), Нарбута (1938-40), Піянерская з 9.01.1940 па г.ч.

Зав. Александраўскі (1903-21).

Зав. Замкавы (1903 -21).

Зав. Чырвоны 1903, вул. Чырвоная да 1940 г., знікла 23.06.1941.

Зав. Крупскі (1903-13), вул. Крупская (1913-55), вул. 8 сакавіка з 9.01.1940 па г.ч., паўн-зах. адрэзак – Гастэлы з 1955 па г.ч.

Зав. Міхайлаўскі (1903-21).

Вул. Вакзальная (1906 -21).

Зав. Моргаўскі 1906 - Маргі да 9.01.1940, Пасялковая (1940-45), Пакрышкіна (30.10.1945-24.10.1957), Суворава з 1957 па г.ч.

Зав. Сянны (1906-21).

Вул. Алея Самаабароны да 1955, Молатава да 24.10.1957, Чыгуначная з 24.10.1957 па г.ч.

Вул. Белагрудская да 31.05.1965, Выдайкі з 1965 па г.ч.

Вул. Бярозавая да 26.05.1955, Пралетарская і Дзімітрова з 26.05.1955 па г.ч.

Вул. Балотная (1938 -45), знікла ў 50-х.

Вул. Бальнічная знікла ў 80-х.

Вул. Баравая да 1955, Рэвалюцыйная з 1955 па г.ч.

Вул. Бары да 9.01.1940, Асіпенка П. з 1940 па г.ч.

Вул. Вясёлая знікла ў 1940 г.

Вул. Віленская (1921-40), Свярдлоўская (9.01.1940-45), Свярдлова з 1945 па г.ч.

Вул. Вішнёвая да 1955, Матросава з 1955 па г.ч.

Вул. Воўчая да 9.01.1940, Сакаліная (1940 - 55), Тэльмана з 1955 па г.ч.

Вул. Гедзімінаўская да 9.01.1940, Пушкінская (1940-55), Замкавая з 1955 па г.ч.

Вул. Гарыстая да 7.05.1970, Стралкоўскага з 1970 па г.ч.

Вул. Гарнянская да 30.10.1945, Ракасоўскага (1945 -57), Інтэрнацыянальная з 24.10.1957 па г.ч.

Вул. Гражыны да 9.01.1940, Энгельса з 1940 па г.ч.

Вул. 29 студзеня да 9.01.1940, вул. 9 студзеня з 1940, знікла ў 60-х.

Вул. Дзіканка або Касцельная знікла ў 1940.

Вул. Доўгая (Длуга) да 1955, Талстога Л. з 1955 па г.ч.

Вул. Маладварцовая до 1937, Домб-Бярнацкага (1937-40), Малачыгуначная (1940-41), Маладварцовая 1945, Малая чыгуначная (1945-55), Варашылава (1955-24.10.1957), Маладварцовая (24.10.1957), Гагарына з 70-х па г.ч.

Вул. Дубовая да 1955, зав. Маркса 1-шы з 1955 па г.ч.

Вул. Яловая (Ядлова) да 1955, Чайкінай з 1955 па г.ч.

Вул. Жвіркі да 9.01.1940, Някрасава з 1940 па г.ч.

Вул. Жалігоўскага да 9.01.1940, Дзяржынскага з 1940 па г.ч.

Вул. Жалезная знікла ў 1955.

Вул. Чыгуначная (Колейова) да 15.08.1944, Труханава з 15.08.1944 па г.ч.

Вул. Жаромскага - знікла ў 1955.

Вул. Жырмунская да 1955, Тургенева з 1955 па г.ч.

Вул. Жураўліная да 1955, Менжынскага, Дакучаева і Франко з 1955 па г.ч.

Вул. Закрытая да 1955, зав. Спартыўны з 1955, знік у 70-х.

Вул. Казармавая (Кошарова) да 9.01.1940, Чырвонаармейская з 1940 па г.ч.

Вул. Каштанавая да 30.10.1945, Жукава (1945-57), Марозава П. з 24.10. 1957 па г.ч.

Вул. Кілінскага да 9.01.1940, Гогаля з 1940 па г.ч.

Вул. Могілкавая (Цментарска) да 9.01.1940, Люксембург Р. з 1940 па г.ч.

Вул. Касцюшкі да 9.01.1940, Ламаносава з 1940 па г.ч.

Вул. Легіённая до 9.01.1940, Кулямётная (1940-64), Клімко з 11.06.1964, паўн.-усх. адрэзак – зав. Энгельса з 1964 па г.ч.

Вул. Тартакі да 9.01.1940, Лесазаводская з 1940 па г.ч.

Вул. Лётная (1938- 8.07.1979), генерала Бяды з 8.07.1979 па г.ч.

Вул. Ліпавая да 1955, Айвазоўскага з 1955 па г.ч.

Вул. Кахання (Мілосна) да 9.01.1940, Маякоўскага з 1940 па г.ч., паўн. адрэзак - імя Дабралюбава з 1955 па г.ч.

Вул. Мянніцкага да 9.01.1940, Танкавая (1940- 64), Радзюка з 11.06.1964 па г.ч.

Вул. Мастоўская да 9.01.1940, Чарнышэўскага з 1940 па г.ч.

Вул. Нарутовіча да 9.01.1940, Камунальная (1940-45), Чарняхоўскага з 30.10.1945 па г.ч.

Вул. Няпоўная да 9.01.1940, Катоўскага з 1940 па г.ч.

Вул. Новая 1938-45, знікла.

Вул. Навінка, знікла ў 1945.

Вул. Навасельская да 9.01.1940, Шчорса з 1940 па г.ч.

Вул. Агульная (Вспульна) да 9.01.1940, Чырвонагвардзейская з 1940 па г.ч.

Вул. 11-га лістапада да 9.01.1940, 7-га лістапада з 1940 па г.ч.

Вул. Орліч-Дрэшара да 9.01.1940, Камуністычная з 1940 па г.ч.

Вул. Акопы да 9.01.1940, Асаавіяхімаўская (1940-88), Тухачэўскага з 13.12.1988 па г.ч.

Вул. Вызвалення до 9.01.1940, ? (1940-45), Калініна з 1945 па г.ч.

Вул. Перацкага да 9.01.1940, Беларуская (1940-45), Перамогі з 1945 па г.ч.

Вул. Пескі да 1945, знікла

Вул. Пілсудскага да 1940, Чапаева з 1940 па г.ч.

Вул. Пагулянка да 30.10.1945, Касмадзям'янскай (1945-55), знікла.

Вул. Пажарная (Стражацка) да 1955, Чайкоўскага з 1955 па г.ч.

Вул. Палесская знікла ў 1940.

Вул. Палявая (Польна) да 1955, Маркса з 1955 па г.ч.

Вул. Прыгожая (Гожа) да 9.01.1940, Чкалава з 1940 па г.ч.

Вул. Птушыная да 9.01.1940, Загародняя (1940- 72), Жабінскага з 5.05.1972, Галіцкага (26.04

-30.05.1973), Жабінскага па г.ч.

Вул. Радунская, знікла ў 80-х.

Вул. Райнеса да 9.01.1940, Мінская з 1940 па г.ч.

Вул. Райская да 9.01.1940, Горкага М. з 1940 па г.ч.

Вул. Раслякі – знікла ў 60-х.

Вул. Рыдз-Сміглага да 9.01.1940, Куйбышава (1940-2.05.1958), паўн. адрэзак - ім. Сядова і Крылова з 1955, Куйбышава 4-ая (1958-69), Катлярэўскага з 10.07.1969 па г.ч.

Вул. Самаабароны - знікла ў 1955.

Вул. Шавецкая да 9.01.1940, Шаўчэнкі (1940-45), знікла ў 50-х.

Вул. Сельская (Вейска) да 1955, зав. Сельскі з 1955, знік у 80 х.

Вул. 17-га красавіка да 9.01.1940, 17 верасня (1940-55), да Камсамольскай у 1955.

Вул. Сойкішкі да 9.01.1940, Хасанская (1940-45), Хасанаўская (1945-71), Хасанаўская 1-ая з 1971 па г.ч.

Вул. Сакаліная да 1940, Спартыўная (1940-1965), Шубіна з 31.05.1965 па г.ч.

Вул. Сасновая да 1955, Заслонава з 1955 па г.ч.

Вул. Скарупкі да 9.01.1940, Крупскай з 1940.

Вул. Стругі да 1955, Калгасная з 1955.

Вул. Сукурчэўская да 9.01.1940, Лясная (1940-55), Шастаковіча (1955-24.10.1957), Багратыёна з 1957 па г.ч..

Вул. Сыракомлі да 9.01.1940, Мопраўская з 1940 па г.ч.

Вул. Цёплая з 9.01.1940, Баранавіцкая з 1940 па г.ч.

Вул. Ціхая да 1955, Нахімава з 1955 па г.ч.

Вул. Таполевая да 1955, Даватара з 1955 па г.ч.

Вул. Турэцкая да 9.01.1940, Малая з 1940, знікла ў 50-х.

Вул. Вузкая до 1955, Лермантава з 1955 па г.ч.

Вул. Фалькоўскага да 9.01.1940, Беларуская (1940-45), Перамогі з 1945 па г.ч.

Вул. Халодная да 1940, Гомельская з 9.01. 1940, знікла ў 80-х

Вул. Кветкавая да 1955, Фурманава з 1955 па г.ч.

Вул. Шаптыцкага да 9.01.1940, Астроўскага М. з 1940 па г.ч.

Вул. Шырокая да 1955, Шаўчэнкі М. з 1955 па г.ч.

Вул. Эйшышская (да 9.01.1940), Кааператыўная з 1940 па г.ч.

Вул. Будзённага да 24.10.1957, зав. Саўгасны з 24.10.1957 па г.ч.

Зав. Молатава да 24.10.1957, зав. Чыгуначны з 24.10.1957 па г.ч.

Зав. Саўгасны 1-шы да 22.05.1958, вул. Паўзунова з 22.05.1958 па г.ч.

Зав. Першамайскі 1-шы да 22.05.1958, вул. Камунараў з 22.05.1958 па г.ч.

Зав. Пляханава 1-шы, 2-гі, 3-ці (да 22.05. 1958), зав. Камунараў 1-шы, 2-гі, 3-ці з 22.05.1958 па г.ч.

Зав. Першамайскі 2-гі (да 22.05.1958), зав. Пляханава 1-шы з 22.05.1958 па г.ч.

Зав. Арджанікідзэ 2-гі і 3 -ці (22.05.1958), зав. Пляханава 2-гі і 3-ці з 22.05.1958 па г.ч.

Зав. Заслонава (1955-22.05.1958), вул. Пляханава з 22.05.1958 па г.ч.

Вул. Саўгасная (1955-65), Ігнатава з 31.05. 1965 па г.ч.

Вул. Шпітальная (1938-65), Арцёменкі з 31.05.1965 па г.ч.

Зав. Гомельскі (1955-22.05.1958), вул. Паўночная (1958 -67), Грыцкевіча з 23.11.1967- знікла ў 80-х.

Вул. Дабралюбава да 23.11.1967, Лупава з 23.11.1967 па г.ч.

Зав. Горкага 2-гі (12.12.1968) знік у 70-х.

Вул. Пясчаная (15.04.1965-5.05.1972), Герасімава з 5.05.1972 па г.ч.

Вул. Маскоўская 2-ая да 5.05.1972, Акрэсціна з 5.05.1972 па г.ч.

Вул. Кіеўская 2-ая да 26.04.1973, Кастрамiной з 26.04.73 па г.ч.

Вул. Чырвонармейская 2-ая да 26.04.1973, Рыбіноўскага з 26.04.1973 па г.ч.

Вул. Вільнюсская 2-ая да 26.04.1973, Канаховіча з 26.04.1973 па г.ч.

Зав. Чарнышэўскага 3-ці да 26.04.1973, вул. Наказных з 26.04.1973 па г.ч.

Зав. Энгельса 4-ты да 26.04.1973, вул. Кудачавых з 26.04.1973 па г.ч.

Вул. Маскоўская 4-ая да 26.04.1973, Коннава з 26.04.1973 па г.ч.

Вул. Маскоўская 3-я да 30.05.1973, Галіцкага з 30.05.1973 па г.ч.

Вул. Крупаўская 1-ая до 8.06.1979, Фамічова з 8.06.1979 па г.ч.

Зав. Говарава да 8.06.1979, Царука з 8.06. 1979 па г.ч.

Зав. Говарава 2-гі да 8.06.1979, Каліноўскага з 8.06.1979 па г.ч.

Зав. Чарнышэўскага 4-ты да 8.06.1979, вул. Грыбаедава з 8.06.1979 па г.ч.

Зав. Чарнышэўскага 5-ты, вул. імя Гайдара з 8.06.1979 па г.ч.

Зав. Камунараў знік у 70 –х.

Зав. Кіеўскі 1-шы і Кіеўскі 2-гі зніклі ў 70-х.

Зав. Куйбышава 2-гі, 3-ці, 4-ты зніклі ў 70-х.

Вул. Ураджайная да 11.07.1985, Булата з 11.07.1985 па г.ч.

Вул. Жданава (1955- 1989), Зялёная з 14.03. 1989 па г.ч.

Вул. Заводская (24.10.1957-1991), знікла.

Вул. Заводская 1-ая (1971-89), знікла.

Гэты спіс патрабуе ўдакладненняў, не выключаны і памылкі, буду рады любым дапаўненням. Мне, напрыклад, не вядома, як называлася вуліца Калініна ў 1940-41 гг. - Маскоўскай ці Інтэрнацыянальнай, а можа быць неяк інакш.

**Валеры Сліўкін**

# Гісторыя адукацыі ў Лідзе

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

## Легальная польская адукацыя пад нямецкай акупацыяй

У беларускай і польскай літаратуры пра адукацыю пад нямецкай акупацыяй прынята адзначаць, што немцы паўсюль закрывалі польскія школы і адкрывалі беларускія. Але на практыцы гэта выглядала не зусім так. Акрамя 1-й, 2-й і 3-й беларускіх (беларускамоўных) народных школаў у Лідзе былі яшчэ 4-я і 5-я. Пра 4-ю інфармацыі няма, а вось 5-я называлася "Беларуская народная школа з польскай мовай навучання". Захавалася пасведчанне на імя Дзякевіч Веранікі аб заканчэнні 7-га класа гэтай школы і здачы экзаменаў за 1941/42 навучальны год.

Пасведчанне выпісана на дзвюх мовах: беларускай і нямецкай. Пры гэтым беларускамоўная частка пасведчання надрукавана беларускай лацінкай (чэшскі варыянт, тарашкевіца). Подпісы настаўнікаў стаяць на абодвух баках пасведчання, а вось пячатка акруговага школьнага інспектара стаіць толькі на нямецкім тэксце.

У 7-м класе гэтай школы праходзілі беларускую мову (вусна і пісьмова), нямецкую мову (вусна і пісьмова), польскую мову (вусна і пісьмова), арыфметыку з алгебрай, геаметрыю, фізіку, хімію,



PASVIEDČAŃNIE

*Беларуская бачына пасведчання В. Дзякевіч*

прыродазнаўства, геаграфію, гісторыю, ручную працу, рысаванне, спевы, фізічнае ўзгадаванне. Выкладанне вялося па-польску.

Экзамены здаваліся па беларускай мове (вусна і пісьмова), нямецкай мове (вусна і пісьмова), арыфметыцы з алгебрай, геаметрыі фізіцы і прыродазнаўстве. Па астатніх прадметах выстаўляліся гадавыя адзнакі.

На перыяд нямецкай акупацыі прыпалі тры навучальныя гады: 1941/42, 1942/43, 1943/44. На працягу гэтых гадоў фармат адукацыі не заставаўся нязменным, але змены былі нязначнымі. Захавалася пасведчанне Рышарда Межвы, які закончыў Лідскую 1-ю семігадовую народную школу (беларускую) у 1943 годзе. У пасведчанні



*Беларуская бачына пасведчання Р. Межвы*

выстаўлены адзнакі па беларускай мове і літаратуры, нямецкай мове, матэматыцы, фізіцы і хіміі (разам), прыродазнаўстве, геаграфіі, гісторыі і грамадазнаўстве (разам), ручной працы, рысаванні, спевах, фізічным узгадаванні. У 1943 годзе беларуская частка пасведчання друкуецца ўжо кірыліцай (тарашкевіца). Пасведчанне на двух аркушах. Нямецкая і беларуская часткі ўяўляюць сабой як бы два пасведчанні. Пячатка акруговага школьнага інспектара стаіць на абодвух аркушах.

# Адукацыя ў Лідзе ад 1944 года да нашага часу

Першым пасляваенным кіраўніком гарана прызначылі 29-гадовую партызанку Ніну Бейзараву. На другі дзень пасля вызвалення горада загадчыца гарана **Ніна Сцяпанаўна Бейзарава** сфармавала штат гарана з 8 чалавек.

**Загад №1**

***па Лідскаму гарадскому аддзелу народнай адукацыі ад 10 ліпеня 1944 года.***

*Па гарадскому аддзелу народнай адукацыі (з 15 ліпеня ) прызначаю:*

*1. Сакратаром тав. Парункевіч Яўгенію Пятроўну з акладам 175руб. у месяц.*

*2. Бухгалтарам тав. Емільянаву Марыю Андрэеўну з акладам 350руб. у месяц.*

*3. Тэхнікам-будаўніком тав. Манько Мікалая Іванавіча (400).*

*4. Інспектарам-метадыстам тав. Жука Фаму Іосіфавіча (450).*

*5. Інспектарам па дашкольнай працы, працы дзетдома і дзетсада тав. Геніш Чаславу Саламонаўну (450).*

*6. Інструктарам вайсковай і фізкультурнай падрыхтоўкі тав.Галаванава Анатоля Філіпавіча (500).*

*7. Інспектарам па палітыка-асветніцкай рабоце тав. Стычынскую Валянціну Казіміраўну (450).*

*8. Прыбіральшчыцай тав. Барташэвіч Паўліну (115).*

***Заг. гарана Бейзарава.***



**Н. С. Бейзарава**



**Я. П. Парункевіч**

Цераз 5 дзён Н.С. Бейзарава зацвердзіла штаты шасці лідскіх школ, (загад №3): 1- й рускай, 2-й беларускай, 3-й польскай і трох пачатковых – 4-й, 5-й і 6-й.

**Загад №3**

*па лідскаму гарадскому аддзелу народнай адукацыі ад 15 ліпеня 1944 года.*

***Параграф 1. Па рускай поўнай сярэдняй школе № 1 г. Ліды прызначаю:***

*1.Дырэктарам Кажамяку Пракофія Іванавіча з акладам 705 руб. у месяц.*

*2. Заг. навучальнай часткай Галадкоўскага Яўгена Ігнатавіча (600).*

*3. Выкладчыкам гісторыі Кошалева Сямёна Усцінавіча (550).*

*4. Выкладчыкам хіміі Навуменка Іраіду Барысаўну (650).*

*5. Выкладчыкам біялогіі Дзяшовага Барыса Мікалаевіча (650).*

*6. Выкладчыцай рускай мовы і літаратуры Мілерс Веру Аляксееўну (710).*

*7. Выкладчыкам прыродазнаўства Зыкава Сцяпана Рыгоравіча (650).*

*8. Выкладчыкам матэматыкі Цюранкова Васіля Данілавіча (710).*

*9.Выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры Жыгланаву Таццяну Мікалаеўну(635).*

*10. Выкладчыцу рускай літаратуры Стычынскую Валянціну Казіміраўну (635).*

*11. Выкладчыцай малодшых класаў Тарасаву Марыю Іванаўну (400).*

*12. Сакратаром школы Абрамовіч Станіславу (175).*

*13. Вартаўніком Зайцава Канстанціна (115).*

*14. Заг.гаспадаркі Худякова Уладзіміра (300).*

Паводле ўспамінаў вучняў пачатку 50-х гадоў выкладчыкі ў асноўным былі пажылымі. **Галадкоўскі Я. І.** стары чалавек, сівы, с пышнай шавялюрай, дарэвалюцыйнага выхавання: *"Не прыстойна карыстацца пачулямі, - гаварыў ён, - чалавек павінен быць проста вымыты"* – выкладаў рускую мову. Прыходзіў сядаўся, гаварыў, гаварыў, цэлы ўрок гаварыў. Вучні шумелі, выходзілі, заходзілі. Але як харошую кнігу, якую ўспамінаеш потым, яго запомнілі. Біёлаг **Дзяшовы Б.М.** – старэнькі, пасля 70, дабрэйшай душы чалавек, добры настаўнік, яго нават слухалі на ўроках, нагляднымі дапаможнікамі не карыстаўся, тлумачыў ўсё словамі. **Мілерс В. А.** – бабуля ў акулярах, блізарукая. **Навуменка І. Б.** – незвычайны чалавек, рафінаванай культуры, асколак старой самай высокай арыстакратыі, разумніца, верх эрудыцыі, называла вучаніц: *дзеванькі міленькія*, выкладала нямецкую. Разышлася з Івашкам і з маці выехала з Ліды. **Цюранкоў В. Д.** – высокі з вусікамі, прыгожы бадзёры дзядок, меў ўвесь рошаны задачнік, ў выглядзе сшытага зборніка сшыткаў. Задачы шукаў па нумарах, пагартае, пагартае і потым на дошцы піша рашэнне, яго любілі, але не маглі рашыць ні адной кантрольнай. **Стычынская В.К.** – прыгожая маладая жанчына, старшакласнікі з яе вачэй не зводзілі.

***Параграф 2. па беларускай няпоўнай сярэдняй школе № 2 прызначаю:***

*1. Дырэктарам школы тав. Кісялёва Аркадзя Іванавіча з акладам 550руб. у месяц.*

*2. Заг. навучальнай часткай Кацельнікаву Зінаіду Мікалаеўну (474).*

*3. Выкладчыцай рускай мовы тав. Прохараву Лідзію Матвееўну (525).*

*4. Выкладчыцай прыродазнаўства Быліну Алену Канстанцінаўну (475).*

*5. Настаўніцай пачатковых класаў Кацкевіч Пелагею Якаўлеўну (450)*

*6. Выкладчыцай нямецкай мовы Цярэшчэнка Іраіду Сяргееўну (350).*

*7. Настаўніцай пачатковых класаў Кісялёву Ганну Дарафееўну (450)*

*8. Выкладчыкам матэматыкі і фізікі Васільева Яўгена*

*Зяноўевіча (535).*
*9. Выкладчыкам гісторыі Лосева Данііла Радзівонавіча (475)*
*10. Настаўніцай пачатковых класаў Крамянеўскую Веру Іванаўну (350).*
*11. Выкладчыкам беларускай мовы Мельнікава Мікалая (578).*
*12. Сакратаром Клімко Валянціну Аляксандраўну (175).*
*13. Вартаўніком Вілкашынскага Б.В. (115).*
*14. Заг. гаспадаркай Вілкашынскага А.В. (210).*
*15. Прыбіральшчыцай Казельскую Ганну (115).*
*16. Прыбіральшчыцай Вількашынскую (115).*
*17. Цеслем Анацкага М.О. (115).*

**Мікалай Ісакавіч Мельнікаў** быў у 1944 годзе членам падпольная групы пры лідскім гэбітскамісарыяце, разам з будучым дырэктарам НСШ №3 **Пінчуком А.В.** замахваўся на жыццё лідскага гэбітскамісара Ганвега і яго намесніка Дрэкселя

***Параграф 3. Па польскай няпоўнай сярэдняй школе № 3 г. Ліды прызначаю:***
*1. Дырэктарам школы Пінчука Аляксандра Васільевіча з акладам 700 руб. у месяц.*
*2. Загадчыцай навучальнай часткі Ёдка Алену (600).*
*3. Настаўнікам 3-га класа Цялевіча Казіміра (600).*
*4. Выкладчыкам фізікі і матэматыкі тав. Рэкерта Роберта Р. (575).*
*5. Выкладчыцай рускай мовы і літаратуры Чаркес Кацярыну Д. (525).*
*6. Выкладчыцай польскай мовы і літаратуры Ляўковіч Ванду В. (500).*
*7. Выкладчыцай замежных моваў Пінскер Лідзію Г. (600).*
*8. Выкладчыкам геаграфіі Вырко Мікалая (525).*
*9. Выкладчыцай гісторыі Главінскую Кацярыну Сцяпанаўну (525).*
*10. Выкладчыкам фізікі і матэматыкі Харкевіча Аляксандра В. (575).*
*11. Настаўніцай 1 класа Міхнеўскую Юзэфу (575).*
*12. Настаўніцай 2 класа Міклашэвіч Станіславу (400).*
*13. Настаўніцай 1 класа Лаўкайціс Ванду Б. (500).*
*14. Настаўніцай 4 класа Віцкевіч Тамару (541).*
*15. Настаўнікам 2 класа Кіслера Іосіфа А. (400).*
*16. Настаўнікам 4 класа Паўловіча Вацлава (541).*
*17. Ваенруком Кудзінава Андрэя М. (750).*
*18. Настаўнікам 1 класа Анышка Юльяна Г. (500).*
*19. Настаўніцай 4 класа Юхневіч Еўляліну Іванаўну (568).*

Ёдка Алена і Ляўковіч Ванда – выкладчыкі польскай падпольнай сістэмы навучання 1941-44 гг. Пінскер Лідзія – выкладчыца французскай мовы ў польскай даваеннай гімназіі.

Неўзабаве яны ўсе выехалі ў Польшчу.

***Параграф 4. Па пачатковай школе № 4 г. Ліды прызначаю:***
*1. Загадчыкам школы тав. Бардоўскага Пятра Георгіевіча з акладам 550 руб. у месяц.*
*2. Настаўніцай Сілуанаву Марыю Мікалаеўну (400).*
*3. Настаўніцай Пагоскую Алену Эдуардаўну (400).*
*4. Настаўніцай Балобіну Любоў (450).*

***Параграф 5 Па пачатковай школе № 5 г. Ліды прызначаю:***
*1. Загадчыкам школы тав. Заека Юліяна Якаўлевіча з акладам 500 руб. у месяц.*
*2. Настаўніцай Грыгор'еву Анастасію Паўлаўну (400).*
*3. Настаўніцай Кельбас Валерыю Яўгенаўну (450).*
*4. Настаўніцай Славута Надзею Іосіфаўну (450).*
*5. Прыбіральшчыцай Рэдзьку Паўліну (115).*

***Параграф 6. Па пачатковай школе № 6 г. Ліды прызначаю:***
*1. Загадчыцай школы тав. Сачыніну Ніну Аляксееўну з акладам 500 р. у месяц*
*2. Настаўніцай Воранаву Кацярыну Адамаўну (400).*
*3. Настаўнікам Ліснеўскага Міхаіла Антонавіча (450).*
*4. Настаўнікам Чарнавуса Вацлава Іванавіча (450).*

***Заг. гарана Бейзарава.***

У верасні 1944 г. пачалі працу чатыры школы: руская сярэдняя школа № 1 у будынку цяперашняй СШ № 1, беларуская няпоўная сярэдняя школа № 2 у будынку ВВК на Слабадзе, няпоўная сярэдняя польская школа № 3 у будынку цяперашняга ліцэя і пачат-ковая школа № 4. 1 кастрычніка былі ліквідаваны 5-я і 6-я пачатковыя школы, выкладчыкі загадам № 19 па гарана былі пераведзены ў іншыя школы: Заека Ю. Я. – у НСШ №2, Грыгор'ева А. П. і Славута Н.І. – у ПШ № 4, Воранава Я. А. Кельбас В. Я. і Сачыніна Н. А. – у СШ № 1, Ліснеўскі М. А. быў адпушчаны ў адпачынак на адзін месяц па хваробе.



**А В. Пінчук**

Зімою была ліквідавана 4-я пачатковая школа, прычына ліквідацыі пачатковых школ – адсутнасць вучняў, памяшканняў і паліва.

1 снежня 1944 г. беларуская НСШ №2 была вызначана базавай школай і цалкам пераведзена на бюджэт адноўленай лідскай педнавучальні. Студэнты праходзілі ў школе практыку. Школа перамясцілася ў двухпавярховы будынак насупраць будынка СШ № 1. А на Слабадзе была арганізавана ведамасная чыгуначная сярэдняя школа № 12. У канцы траўня 1945 года будынак цяперашняга педкаледжа быў пакінуты вайскоўцамі і перададзены педнавучальні. Туды ж пераехала СШ № 2 і інтарнат пры педнавучальні.

Навучальны 1944/45 год быў ваенным. Дзеці ў класах былі рознаўзроставымі. З розных сістэм адукацыі рознамоўныя, вялікаўзросныя, нацярпеўшыяся. У класах было холадна, вучыліся не здымаючы верхняй вопраткі.

Да пасляваеннага 1945/1946 навучальнага

года пачалі рыхтаваца загадзя. 2 жніўня 1945 г. гарвыканкам выявіў, што рамонт школьных будынкаў вядзецца вельмі павольна. У СШ № 1 праведзена толькі нутраная пабелка, а рамонт ацяпляльнай сістэмы, каналізацыі, вадаправодаў, акон, школьных партаў, сталоў і дошак не пачынаўся. У СШ № 2 рамонт памяшканняў і ацяпляльнай сістэмы, каналізацііі і вадаправодаў праводзіцца павольна, таксама павольна ідзе рамонт у НСШ № 3. Да нарыхтоўкі дроў і шкленняў акон школы не прыступілі. Выканкам абавязаў дырэктараў школ № 1 Галадкоўскага Я.М., № 2 Жук Ф. І. і № 3 Пінчука А. В. паскорыць падрыхтоўку школ да новага навучальнага года. *(ЗГА у г. Ліда. Фонд 55, воп. 1, с. 10, арк. 15).*

Навучальны год школы пачалі с праблемамі. 4 верасня 1945 г. у СШ №1 не хапала табурэтак і дроў на ацяпляльны сезон. У будынку школы разлічаным на 600 вучняў, займалася 700. У беларускай СШ № 2 сабралася толькі 55 вучняў. У НСШ №3 не хапала 2-х настаўнікаў. Гарвыканкам абавязаў заг. гарана Кажамяку П. І. з 7.09. па 1.10. арганізаваць нарыхтоўку дроў для школ сіламі вучняў старэйшых класаў і настаўнікаў. А камандзіра вайсковай часткі палкоўніка Сазонава прасіў забяспечыць іх аховай у час знаходжання на нарыхтоўцы дроў. *(Фонд 55, воп. 1, с.10, арк.48).*

У наступным 1946/47 навучальным годзе была адкрыта пачатковая школа № 4. Школа была адкрыта ў прыватным жылым доме № 1 на вуліцы Лётнай (зараз ў гэтым будынку размяшчаюцца мастацкія майстэрні). Будынак быў амаль новы, пабудаваны ў 1937 г., гаспадар выехаў у Польшчу. Былі стораны 4 класныя пакоі, кухня ператорана ў настаўніцкую. Настаўнікі самі зрабілі рамонт і ў лістападзе пачалі займацца. Вучыліся ў дзве змены, дзеці-падросткі ішлі ў школу з 8-9 гадоў. Парты былі доўгімі – садзілі па 5 чалавек. Працаваў буфет, дзецям давалі па 100 г. хлеба і 70 г. цукру. 26 кастрычніка гарвыканкам сваім рашэннем дадаткова перадаў на баланс гарана пад школу № 4 жылы дом № 3 па вуліцы Лётнай "для стварэння нармальных умоваў у працы школы, правядзення пазашкольнай і пазакласнай работы". *(Ф.55, воп.1, с.18, арк.174).* 26 кастрычніка 1946 г. гарадскія школы наведвалі 1716 вучняў. 18 дзяцей якія жылі па вул Асіпенка з-за аддаленасці школу не наведвалі. Самай вялікай заставалася СШ № 1 – 25 класаў- камплектаў, у СШ № 2 – 11, у НСШ № 3 – 12, у першым класе 40 чалавек, у ПШ №4 – 7 класаў-камплектаў. Вынікі першай чвэрці прызнаныя нездавальняльнымі, не паспявалі 546 вучняў з 1692.

29 траўня 1947 г. гарвыканкам прызнаў, што ў прайшоўшым навучальным годзе праца школ праходзіла ў ненармальных умовах. Рамонт школьных будынкаў быў праведзены не якасна, школы не былі забяспечаны палівам на ўвесь ацяпляльні сезон *(Ф.55, воп.1, с.29, арк.57).* Школам прызначалі шэфаў: СШ № 1 – камбінат харчовых канцэнтратаў і ліцейны завод № 1, БСШ № 2 – ліцейны завод № 2 і "Ардаль", НСШ № 3- піўзавод і хімкультзавод, ПСШ № 4 – цвіковы завод і аўтабазу.

16 ліпеня 1948 г. гарвыканкам заслухаў інфармацыю пра ход падрыхтоўкі школ да новага навучальнага года, адзначыў, што шэраг школ горада своечасова пачалі падрыхтоўку да новага навучальнага году. 7-мі гадовая школа №3 дырэктар Тарасік нарыхтавала дровы на ацяпляльны сезон, закончвае рамонт школьнага будынка. У СШ № 1 рамонт ідзе крайне павольна. Рыхтуюцца да адкрыцця тры будынкі новых пачатковых школ. Жыладдзел не прыняў канкрэтных мераў для вызвалення і рамонту будынкаў па вуліцы Асавіяхімаўская, Свярдлова, Польная, што стварае пагрозу зрыву своечасовай падрыхтоўкі да адкрыцця трох новых школ. У мэтах своечасовай падрыхтоўкі школ да новага навучальнага года выканкам гарадскога савета дэпутатаў працоўных зацвердзіў на 1948/49 навучальны год наступную сетку школ з колькасцю класаў у іх: СШ № 1 – 19 пачатковых класаў, 9 сярэдніх (5-7), і 4 старэйшыя (8-10), разам 32. СШ № 2 – 8 пачатковых, 4 сярэдніх, 3 старэйшых; НСШ № 3 – 9 пачатковых і 6 сярэдніх; ПШ № 4 - 8 пачатковых; ПШ; № 5 – 4 пачатковых; ПШ № 6 – 6 пачатковых; ПШ № 7 – 5 першых. Усяго па горадзе: 59 пачатковых, 19 сярэдніх і 7 старэйшых. Начальнік жыладдзела Касцевіч да 15 жніўня абавязаны быў правесці вызваленне і рамонт будынкаў па вул. Свярдлова № 122 і Асавіяхімаўскай №26, з-за перагрузкі вучнямі чыгуначнай школы № 12 было вырашана прасіць начальніка акругі Краснабаева вызваліць будынак па вул. Польнай, заняты інтарнатам паравозных машыністаў пад школу № 7. Дырэктара педнавучальні Макаранка заклікалі да 20 ліпеня вызваліць школьны будынак СШ № 2 і прасілі абласны аддзел народнай адукацыі даць указанні дырэктару педнавучальні аб неадкладным вызваленні падвальных памяшканняў беларускай школы. Асобнымі пунктамі былі прынятыя рашэнні аб кватэрах для настаўнікаў, аб буфетах і вешалках *(Ф.55, воп.1, с.48, арк. 36-37).*



**Д. Ф. Івашка**

У жніўні 1948 г. тры работнікі гарадскіх школ былі прадстаўлены да ўрадавых ўзнагародаў: Івашка Дзмітры Філіпавіч – выкладчык СШ № 1 – да ордэна "Знак пашаны", Ваз-

дуган Марк Міхеевіч – дырэктар СШ № 2 – да медаля “За працоўную доблесць”, Канаплёў Віктар Іванавіч – заг. гарана – да медаля “За працоўную адзнаку” *(Ф. 55, воп.1, с.48, арк. 189).* Былыя вучні пра Д. Ф. Івашку адзываюца аднолькава: *“Настаўнік ад Бога”. Вельмі разумны. Вельмі чэсны. Вельмі парадачны і круты. Вельмі патрабавальны, добранькім ніколі не быў.”*

У верасні 1948 г. па вул. Асавіяхімаўскай, Свярдлоўскай і Польнай былі адкрыты тры новыя школы. Пад адкрытыя школы былі перададзеныя: пад пачатковую школу № 5 – прыватны жылы дом па вул. Свярдлова № 122 яўрэяў Беркавічаў, рас-



**Будынак пачатковай школы № 5 г. Ліды, адкрытай у 1948 г. Цяпер гэты будынак выкарыстоўваецца пад майстэрні базавай школы № 5.**

стралянных 8 траўня 1942 г.; пад пачатковую школу №6 – жылы дом па вул. Асавіяхімаўскай № 26 пад 7-мі гадовую школу № 7 – будынак былой базы Райспажыўсаюза з вартавой будкай *(Ф.55, воп.1, с.48, арк. 321).* 30 верасня ў трох новых школах былі прызначаны загадчыкі: школа № 5 – Іваноў Мікалай Ісаевіч, № 6 – Язвінская Марыя Фёдараўна, № 7- Асмалоўскі Фёдар Пятровіч. У горадзе пасля правядзення перапісу ўлічана 2547 вучняў. Не вучыліся па прычыне занятасці на гаспадарцы 17 чалавек і па хваробе 5 чалавек. Частка дзяцей наведвала школу не рэгулярна па прычыне матэрыяльнай незабяспечанасці, адсутнасці абутку і вопраткі *(Ф.55, воп.1, с.48, арк.238-239).*



**Дом, у якім размяшчалася пачатковая школа № 6 г. Ліды, адкрытай у 1948 г. Фота 1966 г.**

ўвядзенне ўсеагульнага 7-гадовага навучання.

У верасні 1955 г. адчыніла дзверы новая сярэдняя школа на вул. Савецкай (зараз музнавучальня). У склад мікраараёна новай сярэдняй школы былі ўключаны вуліцы Я. Купалы, Пераца, Лідская, Камерцыйная, Савецкая, Энгельса, Замкавая, Лётная, Чэрнышэўскага, Паўднёвы гарадок, Маякоўскага, Гарыстая, Камсамольская і Шалом-Алейхема *(Ф.55, воп.1, с.396, арк.234).*

Пастановай гарвыканкаму і бюро гаркаму КПБ сярэдняй школе-навабудоўлі была прысвоена назва “Лідская сярэдняя школа № 8”. Улічваючы, што сярэдняя школа № 8 укамплектоўваецца за кошт рускіх сярэдніх школ № 1 і № 3 і пачатковай школы № 4, а таксама тое, што ў мікраараёне школы жыве да 80 % вайскоўцаў, якія звярнуліся з хадайніцтвам аб адкрыцці рускай школы, гарвыканкам і бюро ГК КПБ пастанавілі прасіць абкам КПБ і ЦК КПБ зацвердзіць рускі статус новай школы.

22 верасня ў сувязі з вялікім напаўненем у 3,6 і 7 класах, звязаным з прыездам бацькоў у горад, гарвыканкам зацвердзіў 6 дадатковых класаўкамплекатаў, звыш народна-гаспадарчага плана. *(Ф.55, воп.1, с.397, арк.28).*

Старэйшыя класы ў школе ў 1955 г. яшчэ заставаліся платнымі, толькі 17 вучняў 8-10 класаў вызвалены ад платы за навучанне.

10 лістапада 1948 г. былі павялічаны зарплаты настаўнікам. Рос кантынгент вучняў – павялічваліся выдаткі на адукацыю: 1950 г. – 1558 тыс. руб., 1955 г. – 2588 тыс. руб., 1957 г. – 3263 тыс. руб.

У 1951 годзе 12-я чыгуначная школа стала 52-й.

Да сярэдзіны 50-х гадоў было завершана

**11 жніўня 1955 г. была зацверджана школьная сетка горада на 1955/56 навучальны год**

| Школы | 1 кл. | 2 кл. | 3 кл. | 4 кл. | 5 кл. | 6 кл. | 7 кл. | 8 кл. | 9 кл. | 10 кл. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| СШ 1 | 2 | 4 | 2 | 2 | 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 2 | 25 |
| СШ 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 17 |
| СШ 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 | 1 | 20 |
| СШ 8 | 3 | 3 | 3 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | 2 | 1 | 20 |
| НСШ 7 | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | | | | 8 |
| ПШ 4 | 1 | 1 | 1 | 1 | | | | | | | 4 |
| ПШ 5 | 1 | 1 | 1 | 1 | | | | | | | 4 |
| ПШ 6 | 1 | | | 1 | | | | | | | 2 |
| Разам | 18 | 15 | 11 | 11 | 9 | 10 | 10 | 7 | 8 | 6 | 25 |

*(Ф.55, воп.1, с.396, арк.273).*

15 лістапада 1956 г. былі разгледжаны вынікі паспяховасці ў першай чвэрці 1956/57 навучальнага года. Заслухаўшы даклад заг. гарана тав. Віннічэнкі Н. М. выканкам Лідскага гарсавета дэпутатаў працоўных адзначыў што паспяховасць у школах горада за першую чвэрць з'яўляецца нізкай. З 3064 вучняў не паспявалі 446 чалавек самая нізкая паспяховасць па школе №2, з 423 вучняў не паспявалі 77 чалавек, па восьмых класах з 57 чалавек не паспявалі 22, па СШ №3 з 543 вучняў не паспявалі 82. Па вячэрняй школе рабочай моладзі з 161 чалавека не паспяваў 31, адсеў 49 чалавек, з якіх 39 з райпрамкамбіната. Па пазменнай школе з 252 чалавек не паспявалі 58, 25 чалавек не атэставаны, адсеў 10 чалавек. Асабліва нізкая паспяховасць па рускай мове. З 3064 чалавек не паспявалі 226, па матэматыцы не паспявалі 220 чалавек.

Асноўнымі прычынамі нізкай паспяховасці вучняў прызнаны: некаторыя настаўнікі не дастаткова рыхтуюцца да ўрокаў, допускаюць фармалізм і шаблон у пабудове урокаў, не дастаткова працуюць з адсталымі вучнямі. Не дастатковы кантроль за працай настаўніка дырэктараў школ, завучаў і гарана. Слабая сувязь школы з бацькамі і грамадскасцю горада. Педкабінет слаба аказвае дапамогу школам у наладжванні метадычнай працы. *(Ф.55, воп.1, с.405, арк.45-46).*

У наступныя гады сістэма адукацыі ў горадзе развівалася натупным чынам:

1955/56 н.г. - 5 СШ, 3 ПШ, 3174 вучні, 2 дзетсады, 2 установы пазашкольнага выхавання і адукацыі.

1960/61 н.г. - 7 СШ, 3 ПШ, 4713 вучняў, 5 дзетсадоў, 2 пазашкольныя ўстановы.

1970/71 н.г. - 10 СШ, 8639 вучняў, 12 дзетсадоў, 3 пазашкольныя ўстановы.

1980/81 н.г. - 11 СШ, 10744 вучні, у вячэрніх школах 476 вучняў, 21 дзетсад, 4 пазашкольныя ўстановы.

1990/91 н.г. - 15 СШ, 15162 вучні, 35 дзетсадоў, 5 пазашкольных ўстановаў.

2000/01 н.г. - 17 СШ, 17655 вучняў, 34 дзетсады, 7 пазашкольных ўстановаў.

Будаваліся новыя будынкі і адкрываліся новыя школы:

1959 г. - васьмігадова школа № 9, з 1970 г. СШ;

1962 г. - сярэдняя школа № 11;

1966 г. - новы будынак з пераездам СШ № 6;

1972 г. - новы будынак з пераездам СШ № 8;

1976 г. - новы будынак з пераездам СШ № 4;

1980 г. - новы будынак з пераездам СШ № 7;

1982 г. - СШ № 12;

1983 г. - СШ № 14;

1986 г. - СШ № 13;

1989 г. - СШ № 15;

1991 г. - СШ № 16;

1993 г. - СШ № 17;

1994 г. - новы будынак СШ № 9 з захаваннем старога.

У 1993 г. СШ № 7 стала школай-гімназіяй, а з 1997 г. гімназіяй № 1. У 2003 г. СШ № 3 пераўтворана ў ліцэй.

**На канец 2003 г. у Лідзе:**

14 агульнаадукацыйных школ, 1 сярэдняя агульнаадукацыйная школа для дзяцей з асаблівасцямі фізічнага развіцця, 1 вячэрняя школа, ліцэй, гімназія. У іх вучацца 15664 вучні. У ліку агульнадукацыйных ёсць школы з ухіламі: музычна-харавым (СШ № 4); харэаграфічным (СШ № 8,9,13); архітэктурна-мастацкім (СШ № 14); агульна эстэтычным (СШ № 10); мастацкім, тэатральным (СШ № 15); паглыбленным вывучэннем англійскай мовы (СШ № 8).

34 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, у якіх выхоўваецца 4708 дзяцей. Сярод дзіцячых дашкольных устаноў ёсць санаторны дзіцячы сад (№ 2); для дзяцей з аслабленым зрокам (№ 16); для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Функцыянуюць 7 установ пазашкольнага выхавання і навучання: Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі; Цэнтр тэхнічнай творчасці; Экалагічны цэнтр дзяцей і юнацтва; Цэнтр дзіцяча- юнацкага турызму і экскурсій; Дзіцяча-юнацкі клуб фізічнай падрыхтоўкі; дзве дзіцяча- юнацкія спартыўныя школы. Функцыянуе 5 дзіцячых пакояў па месцы жыхарства.

З 1946 г. у горадзе існуе дзіцячая спартыўная школа, з 1958 г. - музычная школа, з 1973 г. – музычная навучальня. У 1977 г. утворана ПТВ-196, у 1978 – ПТВ-136, у 1988 г. – ПТВ-235.

З 1944 па 1956 г. у горадзе функцыянавала педагагічная навучальня, у 1982 г. яна была адноўлена, у 2001 г. пераўтворана ў педкаледж.

У 1956-82 гг. у горадзе дзейнічала школа-інтэрнат.

У 1951 г. быў адкрыты тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі, у 1957 г. ён быў пераўтвораны ў сельска-гаспадарчы тэхнікум (1957-60), затым у вячэрні філіял Бабруйскага аўтатранспартнага тэхнікума (1960-62 ), Лідскі вячэрні філіал Менскага палітэхнікума (1962-64) і нарэшце у Лідскі індустрыяльны тэхнікум (1964-2003), з 2003 г. гэта тэхнічны каледж.

З 1941 г. існуе дзіцячы дом. У 1999 г. адкрыты сацыяльны прытулак для непаўналетніх. У 1995 г. быў адкрыты Дыягностыка-рэабіліатыцыйны цэнтр, у 2001 г. ён рэарганізаваны у Цэнтр карэкцыйна-развівальнага навучання і развіцця. 1 верасня 2003 г. адкрыты Сацыяльна-педагагічны цэнтр.

Сістэма адукацыі г. Ліды з 1956 года па наш час пададзена схематычна. Падрабязны разгляд патрабуе напісання гісторыі кожнай навучальнай установы. А гэта яшчэ некалькі дзесяткаў асобных гістарычных даследванняў.

***Мікола Дзікевіч***

# ДЗ І Т Р Ы К І

## згукі заснуўшай цывілізацыі

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### Пяты перыяд: чэрвень 1941 года – чэрвень 1944 года - "Новы парадак Германіі"

На хутарах наступіла зацішша. Не стала чырвонаармейцаў і немцаў. Наогул, немцаў мы не бачылі, а чулі толькі гул іх машын ды ляскат фурманак. Нейк сабралася нас чалавек пяць і парашылі пайсці на шашу. Супраць барвіцкіх могілкаў праз шашу знаходзіўся невялікі сасоннік, дзе людзі на зіму хавалі бульбу. Тут заўважылі мінамётныя зарады. Хтосьці падказаў думку: узарваць іх. Побач бульбяная яма ў рост чалавека. Туды склалі міны, наверх накідалі пабольш сухога галля. Падпалілі, а самы пабеглі і заляглі наўскрайку жыта, палюбавацца выбухамі. Глянулі ў бок Беліцы і ахнулі: на раварах едуць немцы! Група чалавек трыццаць.

Дзень быў цёплы і ясны. Па шашы рухаліся вясёлыя, на выгляд усе маладыя, з аўтаматамі на грудзях, з закасанымі рукавамі салдаты. Смяяліся, хтосьці іграў на губным гармоніку.

Трэба такому здарыцца: немцы пад'ехалі і тут пачалі падрывацца міны. Немцы пападалі, хто на шашу, хто ў роў. Выбухі закончыліся, і немцы асцярожна паўставалі, разабраліся, што ім падрабілі "гумар": пачалі смяяцца. Добра, што мы не выявілі сябе. Тады не здабраваць бы! Вось так мы пазнаёміліся з немцамі на адлегласці.

Прайшло некалькі дзён, і мы пабачылі немцаў зусім блізка ў нечаканыя абставінах. У канцы былой нашай вёскі на лузе хутараніна Буйніцкага Івана затрымалася невялікая вайсковая частка на коннай цязе фурманак дванаццаць. Мы тады парашылі, што гэта былі санітары. Рабіць тады ім не было чаго – раненыя не паступалі. Коні хадзілі па лузе, карабіны стаялі ў "казлах", а з чатырох фурманак утварылі футбольныя вароты. Паміж імі босыя, у ботах, нейкіх тапачках немцы ганялі мяч. Ім паказалася нявесела гуляць і паклікалі нас. Мы нерашуча падышлі да немцаў, падзялілі яны нас налева, направа і пачалася гульня. Нейк забылася, што яны захопнікі і ў гульні пачалі штурхацца, абманваць іх. Немцы асабліва не рэагавалі на нашы " выкрунтасы", смяяліся, нешта насмешлівае гаварылі адзін другому. Правучыўшыся два гады нямецкай мове, называлі ім нейкія словы. Немцы ківалі галовамі, гаварылі: "Я-я, яволь".

І тут мы перанеслі канфуз. Наш сябра доўга не думаючы пачаў мачыцца на кола воза. Немцы закрычалі: "Швайн", - і паказалі яму месца для гэтай справы. Каля лазовага куста ў баку выкапана доўгая вузкая яма. Па канцах яе ўбіты калы, а на іх пакладзена жэрдка: садзіся як у нужніку, каб потым засыпаць драўлянай лапатай пясок.

Апоўдні немцы разышліся па хутарах нашай вёскі і вёскі Жомайды, дайшлі нават да вёскі Істакі. Ведалі толькі словы: матка – сала, масла, сыр, яйка.

Набраўшы харчоў у запас, зайшлі да нас чатыры немцы. Папрасілі ў мамы вялікую патэльню. Нейк дагаварыліся падсмажыць на пліце здабытыя харчы. Мама прынесла трэскі, распаліла агонь. Каля печы ляжалі сухія палены і стаяла сякера. Немец бярэ сякеру і прабуе пасекчы дровы на прыпечку. Мама выхваціла ў яго сякеру і, не звяртаючы ніякай увагі, коле палены на падлозе. Бачачы сябра ў куце хаты, дружна смяяліся над ім немцы. Па кухні пайшоў дым ад падгарэлага сухога кумпяка. І мама зноў уступае ў справы "гора-кухара". Выкінула падгарэлы кумпяк, растапіла сала, нарэзала кумпяка, разбіла яек і ўсё гэта падсмажыла. Хто лыжкай, хто відэльцам пачалі немцы есці, кусаючы лусты ад вялікага бохана хлеба.

На лузе немцы абазвалі нашага сябра свінёй. Не мінула такая доля аднаго з іх. Мама хапіла венік і замахнулася, бо за сталом пукаў непрыстойныя гукі, абазвала свінёй. Сябры рагаталі.

Каля стала вісела сумка. Распыталі немцы ў якім класе вучыўся. Адзін з іх зацікавіўся змесцівам у сумцы. Асаблівую ўвагу прыцягнуў падручнік нямецкай мовы. На першай старонцы змяшчаўся партрэт Сталіна. Немец сказаў, што партрэт трэба замазаць чарнілам. Потым, калі мы вучыліся ў Ганчарскай школе, настаўнікі загадалі тое самае зрабіць. Але нейкае чалавечае пачуццё падказвала, што падручнікі будуць патрэбны ў далейшым. Мы выразвалі адпаведнага памеру белую паперу, намазвалі па краях клеем, і заклейвалі малюнак. На наклейцы малявалі кветкі. У 1944 годзе наклейкі мачылі вадой, лісточкі добра адставалі, бо клей рыхтавалі з пшанічнай мукі.

Падчас вайны на вёсцы рэдка бачылі немцаў. Яны пасяліліся ў бункерах. У Сяльцы іх было два: каля чыгуначнага моста па левым беразе ракі Нёман і ў хаце Станкевіча супраць станцыі. Падобныя бункеры немцы пабудавалі на паўстанку і ў вёсцы Ганчары, каля чыгуначнага моста ў Даржах на Дзітве, у Агародніках ля драўляннага моста на рацэ Нёман.

Казармы агароджвалі двайнымі сценамі шырынёй паўметра з круглых барвенняў. Паміж бярвенняў укладалі дзёрн і засыпалі пясок. Па вуглах агароджы стаялі станкавыя кулямёты. Лес, кустоўе, асобныя дрэвы за паўкіламетра немцы спілавалі. Лепшы лес адвозілі ў Германію, а з горшага будавалі бункеры і палілі ў печах. Немцы абсталёўвалі таксама бункеры ў аднасобных будках, дзе жылі рабочыя чыгункі. Такі бункер быў пабудаваны на жамойскім пераездзе, дзе жыў Алікевіч. Зараз гэтая чыгуначная будка захавалася, дзякуючы таму, што там жыве прастарэлая жонка памерлага працаўніка чугункі і ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны Сухорскага. Такія "апорныя бункеры" немцы будавалі найбольш. Ахова чыгункі з двух чалавек хадзіла ў асноўным у светлы час. Заўсёды магла схавацца ад партызанаў.

У жамойдскім бункеры збіралася вясковая моладзь.Там жылі дзеці Алікевіча сын Броніс і дачка Марыя. Немцы заходзілі ў будку, адпачывалі, жартавалі з дзяўчатамі. Быў там і я аднойчы. Моладзь весялілі Шулейкі Стась і Франак, граючы на гармоніку.

Я наглядаў за паводзінамі немцаў. Павінен адзначыць, што пачынаючы з зімы 1942-1943 года, адносіны да насельніцтва змяніліся. Вялі сябе насцярожана і недаверліва. "Зборышчы" забаранілі. Аднак моладзь збіраліся ў другіх хатах, ладзілі гульні і весяліліся па-ранейшаму.

Як вядома на адрэзку чыгункі Наваельня – Ліда за апошнія гады разбураны будкі і станцыйныя будынкі ў Мінойтах, Ганчарах, на пераездзе каля вёскі Супраўшчына, у Яцуках – аж два. Ці не "сверб" разбурэння?

Вернемся ў той ваенны час. Можна здагадацца, што немцаў мы бачылі, бываючы ў Лідзе і ў Сяльцы. Яны нам не надакучалі. Горш было пазней у 1942-1944 гадах, калі па хутарах вечарам хадзілі, як іх у нас называлі, "чырвоныя" партызаны, а пад раніцу – "белыя". Першыя любілі добра выпіць самагонкі ды закусіць салам і каўбасой. Другія – больш арганізаваныя- прысылалі друкаваныя паведамленні, каб солтыс сабраў патрэбную суму грошай у рублях або маркамі: палатна, якое яны фарбавалі ў зялёны колер і шылі з яго мундзіры і "рагатыўкі". Патрэба ў матэрыяле ўсё ўзрастала. Выконваць іхнія загады станавілася цяжэй і цяжэй. "Пасаду" солтыса пачалі перадаваць праз два тыдні па чарзе.

На ахову чыгункі немцы пасылалі параненых салдат, якія праходзілі тут далечванне. З імі служылі састарэлыя мужчыны. Маладыя салдаты заходзілі на бліжэйшыя хутары. Гаспадары былі з імі знаёмы. Немцы прасілі дастаць "шнапсу". Помню, некаторыя з іх плацілі маркамі. Яны прыносілі і прадавалі вайсковыя боты або чаравікі з жалезнымі цвікамі, бялізну, цыгарэты, кансервы.

Колькі я ведаю, у немцаў існаваў графік праверкі чыгункі. Не прайсці вызначны для аховы адрэзак дарогі яны не маглі. Са станцыі Нёман ахоўнікі за раку Нёман ішлі да рудзянскага пераезду, адкуль ад пераезнага павінны былі патэлефанаваць дзяжурнаму аховы і яшчэ сустрэцца з аховай, якая ішла ад Мурына. Так жа рабілася і ў бок Ганчароў: сустрэча патрулёў адбывалася на жамойдскім пераездзе. І так на ўсім участку ў бок Ліды.

Неяк восенню 1942 года мы гналі самагонку. Тады ніхто не хаваўся, і рабілі гэтую справу днём. Партызаны не прыходзілі, немцы таксама. Прыдумалі нават гнаць побач са студняй: вада для ахалоджвання недалёка, заўсёды бачна, ці невядомы падыходзіць да хутара. Агонь хуценька залівалі вадой, а бражнік накрывалі дзяругай.

І так, тады гналі самагонку мы на кухні. Кацёл з вадой прымуравалі да пліты (можна было ставіць на яму). Праз акно было бачна за вярсту ў бок жамойдскага пераезду. Там з'явілася постаць чалавека, якая шпарка рухалася па дарозе ў наш бок. Углядзеліся і заўважылі немца з аўтаматам на грудзях. Хутар наш знаходзіцца ў 50-ці м. ад дарогі. Немец зварочвае на нашу дарожку і без стуку заходзіць на кухню. Наступае хвіліна маўчання. Немец глядзеў на ўвесь гэты рыштунак: кацёл, бражнік, сухапарнік і змеявік-халадзільнік, мы – на яго. Брат апомніўся першым і сказаў, што гонім "шнапс". Растлумачылі, што хутка ён пацячэ. Сапраўды, праз нейкі час пачаў капаць "першачок". Калі набралася чацвярцінка, налілі ў кубак і прапанавалі немцу. Аднак ён даў часткова выпіць брату, а затым мне. Толькі потым выпіў сам. З прыемнасцю пацмокаў губамі, нагладзіўшы жывот. Закусіў хлебам з салам. Задаволены, узяў тую чацьвярцінку "першаку", не чакаў, каб нацякло болей, і хуценька пайшоў назад. Мы так і не зразумелі: ішоў ён да нас па "наводцы", ці зайшоў выпадкова на дымок з коміна.

Бачылі мы немцаў і ў іншых абставінах. Адна з іх – адбыванне шарваркі. На яе выкананне заказваў солтыс. Зімой 1941-1942 года адрэзак шышы Саламянка – Ельня занесла снегам і машыны не праходзілі. Супраць вёскі Істакі снег ляжаў у рост чалавека. Некалькі дзён я хадзіў з лапатай на расчыстку шашы. Тады на "Вілюсе" бачыў чатырох немцаў у форме СС. Так яны і не даехалі ў Беліцу.

Немцы перажыўшы марозную і снегавую зіму на наступны год парашылі ўтварыць снегазатрыманне. Кожнаму гаспадару вызначаўся каля шашы адрэзак, каб з яловых ці сасновых галінак пабудаваць плот. Паехаў я ў бліжэйшы лес, насек вялікіх галінак, прывёз да шашы, а каню даў сечкі з аўсом. Жалезным ломам нарабіў ямак і пачаў устаўляць у іх галінкі. З боку Ліды рухалася легкавая машына з невялікай хуткасцю. Напярэймы ёй на шашу выскачыў наш вялікі сабака, ды не разлічыў свае магчымасці: трапіў пад колы. Машына падскочыла, павярнула ўправа і ледзь не заехала ў роў. Сабака адбег і са скавытаннем упаў каля шашы. Немцы павыскаквалі з машыны, адзін з іх наставіў карабін у наш бок. Я стаяў за

канём і не ведаў, што мне рабіць. Другі немец рукой павярнуў карабін да зямлі. Штосьці пагаварылі, глянулі ў бок скуголячага сабакі і паехалі. Знаходзіліся мы ў сотні крокаў ад месца здарэння. Не ведаю, што было б далей?

Снегазатрыманне не прадаўжаў. Паклаў нерухомае цела сабакі на воз. Дома сустрэлі са здзіўленнем. Расказаў аб здарэнні. Здзіўленне перайшло ў роспач мамы. Шкуру з сабакі садралі , з мяса наварылі каля пуда мыла. Прадукт дэфіцытны ў той час.

Хадзіў з хлопцамі на пабудову бункера на левым беразе ракі Нёман каля чыгуначнага моста. Там абразалі "вуглы", (бярвенні, якія выступалі па вуглах бункера). Стары немец цэлы дзень пілаваў са мною гэтыя вуглы. Сілы яго былі невялікія, і я вельмі стаміўся. У абед нас паклікалі ў казарму. Немцы пачаставалі чорнай кавай і эрзац-хлебам. Мы іх – салам. Абмен задаволіў абодва бакі.

Сярод немцаў былі лекары. У іх можна было за харчы купіць лякарства. У Сяльцы ў бункеры каля станцыі Нёман лечэбнай практыкай займаўся зубны доктар. Два зубы, падрыхтаваныя для лячэння савецкай жанчынай, абязболіўшы, вырваў немец за два дзесяткі яек.

Раней успамінаў, што немцы будавалі бункеры шляхам шарваркі, але і потым людзі хадзілі выконваць розныя работы рэзалі дровы, калолі іх, высякалі кусты, палілі галлё, прыбіралі тэрыторыю і інш.

Жыхары бліжэйшая вёсак наладжвалі сувязі з немцамі. Немцы за цыгарэты, адзенне, абутак прасілі масла, сала, яйкі, а лепш за ўсё – "шнапс". Самагонку бралі толькі пасля таго, як гаспадар рабіў у прысутнасці іх "дэгустацыю". Выручалі немцы і нафтай (газай). Немцы асвятлялі бункеры 16-лінейнымі лямпамі Ахова ноччу хадзіла з электрычнымі ліхтарамі.

У час акупацыі сяляне ездзілі ў Ліду на рынак. Там можна было купіць абутак, нейкае адзенне. Грошы здабываліся за прададзенае збожжа, бульбу, а таксама за самагонку, якая вельмі шанавалася ў немцаў. Немцы аб гэтым ведалі і ў рыначны дзень выходзілі на чыгуначныя пераезды і іншыя месцы, каб "канфіскаваць" гарэлку. Папаліся і мы з братам на дроздаўскім пераездзе. Немец знайшоў чатырохлітровы буталь з самагонкай. Пазней мы іх перахітрылі: у возе зрабілі двайное дно, дзе ў сене складалі бутэлькі.

Франтавікі, жыхары іншых дзяржаў, прызваныя ў нямецкую армію, работнікі чыгуначнай дарогі, якія непасрэдна кантактавалі з рамонтнымі рабочымі, дзяжурнай службай дарогі, дэпо адносіліся да насельніцтва дастаткова лагодна. Але па хутарах распаўсюджваліся чуткі пра зверствы немцаў у вёсцы Сялец, дзе расстралялі мясцовых актывістаў савецкага часу і яўрэяў: гаварылі пра расстрэл яўрэяў у Беліцы, Лідзе, псіхічна хворых у Мінойтах.

Немцы аховы чыгуначнай дарогі, фанернай фабрыкі гаварылі, што гэта дзеянні гестапа. Чуткі наводзілі страх на вёску. Людзі перасталі без патрэбы аддаляцца ад хатаў.

Дарэчы ўспомніць пра людзей, у якіх жыццёвы шлях пераламала вайна. Цікавая доля Казлоўскага Франака. Бацька жыў бедна, жабраваў. Матка працавала ў гаспадароў, чым і карміліся. З Франакам я сябраваў. Вучыўся ён на два класы ніжэй з добрымі адзнакамі. Рэдка наведваў у першы навучальны год падчас вайны Ганчарскую школу. Казлоўскія жылі на хутары каля гасцінца. Хату перавезлі з вёскі. Сяк-так яе збудавалі, паставілі печ і адмысловы комін. Пазы вымазалі глінай, пабялілі. Дым не ішоў на хату як раней, і яна мела даволі прывабны выгляд. Побач з хатай невялікі лапік зямлі. Бацька прасіў у суседзяў каня, араў пясочак, сеяў грэчку, жыта, садзіў на лета бульбу. Пасеяную збажыну баранаваў вялікімі граблямі, збіралі небагаты ўраджай.

Пажыўшы некалькі гадоў на хутары, Казлоўскі Адольф памёр, за ім – жонка Марыя. Франак застаўся адзін, жыў у дзядзькі ў Агародніках. У 1943 годзе з Бярозаўкі немцы адправілі Франка ў Нямеччыну ў горад Гамбург. Працаваў на верфі, прысылаў паштоўкі. Пасля вызвалення саюзнымі войскамі ў 1946 годзе быў накіраваны ў Казахстан вучыцца ў ФЗО. Адтуль збег і прыехаў у вёску Дзітрыкі. Жыў у нас, у дзядзькі, потым уладкаваўся аб'езчыкам у Фалькаўскім лясніцтве. Па неасцярожнасці з паляўнічага ружжа параніў гаспадарову дачку. Як непаўналетні быў асуджданы на высылку ў Архангельскую вобласць. Адбыўшы пакаранне, працаваў на лесанарыхтоўках. Паступіў працаваць у органы НКУС упаўнаважаным у раёне. Вучыўся ў сярэдняй школе. Закончыў у Рызе міліцэйскую школу. Наведваў родныя мясціны. Гасцяваў у цётак і дзядзькоў. Завіталі з ім на стары хутар, дзе засталіся камяні ад фундамента хаты, а на палетку падняўся пятнадцацігадовы сасоннік.

Вайна-вайной, а жыццё на вёсцы праходзіла сваёй чаргой. На гаспадарцы патрэбны былі працавітыя рукі. Людзі, як і раней, рана-рана ўставалі, аралі, сеялі, збіралі ўраджай, гадавалі жывёлу. Да восені 1941 года сяляне звыкліся з новымі парадкамі. Немцы ўтварылі, як было да верасня 1939 года, Беліцкую гміну. Там гаспадарыў бургамістр. Па вёсках солтысамі прызначылі ранейшых службовых асобаў. У нашай вёсцы солтысам быў Буйніцкі Рыгор. Добры і руплівы гаспадар. На хутары пабудаваў прыгожы дом з прыстасаваным пад летнія пакоі гарышчам. Дом зараз знаходзіцца ў добрым стане. Рабіў сталярку, печы і кавальскую справу.

Мужчына прыстойны, разважлівы, павольны ў рухах, гаварыў дакладна і разумна, часам з доляй гумару. Смяяўся не гучна, толькі варушыліся чорныя вусы. Пісьменны, чытаў па-польску і руску. Памятаю, ў вёсцы да пажару, ў яго хаце вісела карта Польшчы. Нам вельмі цікава было знайсці тое месца, дзе знаходзіўся той ці іншы горад, дзе Ліда і нашая неабазначаная вёска.

Вось гэты селянін, майстар на ўсе рукі, здолеў у такі складаны час выконваць загады немцаў-захопнікаў, мясцовых начальнікаў, а затым партызанаў розных колераў. Але і ён у 1943 годзе не змог працаваць солтысам, саслаўся на дрэнны стан здароўя, аддаленасць яго хутара ад вёскі і перадаў абавязкі іншаму. Я пісаў, што з таго часу солтысам працавалі па чарзе.

Паводле расказаў дачкі Вольгі апошнія паўтары гады вайны пражылі кожны дзень і ноч у страху. Бацька хаваўся. Не лягчэй стала пасля ўцёкаў немцаў. Органы НКУС не арыштавалі, можа таму, што дзядзька Рыгор спагадліва адносіўся да людзей. Забралі яго пазней у Чырвоную Армію. Служыў у запасным палку. Як добры каваль, працаваў у кузні: каваў коней і выконваў розныя кавальскія справы. На фронт яго не паслалі. Удзельнікам вайны не палічылі. Служба ў Чырвонай Арміі канчаткова вярнула яму годны аўтарытэт.

У дзяцей дядзькі Рыгора па-рознаму склаўся жыццёвы шлях. Старэйшы сын Жэня працаваў кавалём у калгасе, Вольга – у паляводстве. Леў – настаўнікам і старшынём Трацякоўскага сельскага савета. Тамара – настаўніцай.

Фронт аддаліўся за тысячы вёрст пад Маскву. Жыццё ў вёсцы ўвайшло ў даволі спакойнае рэчышча. Другі раз думалася, што няма вайны. У Ліду можна было заехаць цягніком “Дзінсцуг” (“Службовы”), па шашы тады-сяды праязджалі машыны. Немцы праз гміну разаслалі павесткі – нарады на здачу збожжа ў дзяржаву. Падатак быў меншы, чым пры “тых саветах” – штосьці пяць мяшкоў. Павезлі іх у лістападзе з братам у Ліду. Здалі на склад, які знаходзіўся ў гумне на тым месцы дзе зараз райвыканкам і прывезлі аднаконны плуг (ці купілі бы лямех ад яго за грошы, што плацілі саветы ў 1944 годзе?). Доўга аралі ім. Ралля пасля яго была роўнай. На наступныя гады немцы не абавязвалі здаваць збожжа. У гаспадароў з’явілася магчымасць гадаваць больш жывёлы, на поле больш вывозіць гною, ураджлівасць збажыны павялічылася.

У Істаках спраўна працавалі два вадзяныя млыны. Тут малолі збожжа: гаспадары вакол размешчаных вёсак. Часта наведваў і я іх. Тады, калі немцы пачалі наступленне на Каўказе, на тоўстых вольхах і вербах, што растуць зараз вакол возера, з’явіліся розныя плакаты.

Змест некаторых памятаю зараз. На першым стаіць Сталін у ботах, з выцягнутымі рукамі ў бакі. На светлай далоні светлай паловы цела Сталіна напісана “Каму-на!” (ад слова “камуна”) і камісары з вялікімі жыватамі, папругамі на іх. На цёмнай руцэ – “Каму-не!” і на далоні – калгаснікі ў лапцях, павязаных вяроўкамі паверх рваных кашуляў.

На другім плакаце Сталін стаіць на хмарах, вяроўкай дастае з раскапанага магільніка ордэны Суворава, Нахімава і іншыя. На зямлі чакаюць на ўзнагароды салдаты і камандзіры. На трэцім лётчыкі ляжаць на нахіленых крылах самалётаў і мараць, што давядзецца лавіць рыбу з Каспійскага мора, бо немцы хутка захопяць нафтавы Баку. Былі і меншыя ўлёткі, у якіх друкаваліся загады гебітскамісара, а ў канцы жудаснае – расстрэл.

У верасні 1942 года прынята пастанова Дзяржаўнага Камітэта Абароны СССР аб стварэнні Беларускага штаба партызанскага руху. Зіма 1942-1943 года прайшла з большай актывізацыяй “чырвоных” партызан. На чыгунцы ўзрывалі цягнікі. Немцы перад паравозам штурхалі дзве-тры платформы з пяском. Асноўны націск прыпадаў на гэтыя вагоны. Тады партызаны ўзрывалі зарады вяроўкай пад паравозам.

Немцы пачалі выпускаць цягнікі толькі днём. Аднак і гэтая задума не выратоўвала немцаў. Аб дыверсіях на чыгунцы можна было здагадацца па з’яўленні партызан напярэдадні. Ноччу заходзілі ў хаты падсілкавацца. Балазе, самагонкі і закускі ў вёсцы хапала.

Перыяд з сярэдзіны 1943 года да вызвалення мясцовасці ад немцаў-захопнікаў, бадай, быў самым неспакойным часам на вёсцы. Вяскоўцы трапілі пад трайны ціск. Немцы пачалі адносіцца да нас з падазронасцю, асабліва без патрэбы не хадзілі па хатах нават каля чыгункі. “Белыя” партызаны пачалі барацьбу за тэрыторыю да ракі Нёман. Па вёсках выключна ў праваслаўныя святы расстрэльвалі былых савецкіх актывістаў, а ў большасці – не зразумела за што.

Насамрэч жыццё тады праходзіла па прыхаці тых або іншых партызан. “Чырвоныя” партызаны з-за Нёмана па начам наязджалі на хутары, каб чым-небудзь “падсілкавацца”. Наведвалі хоць рэдка, але бралі ў гаспадароў многае. Нейк зімой 1943-1944 года завіталі да нас і пачалі весці “агітацыю”, каб здалі аднаго парсюка ў дапамогу Чырвонай Арміі. У хаце ідзе гутарка, а ў хляве чуецца стрэл. Забілі парсюка і загадалі брату запрэгчы каня ў воз (зіма была не снежная). Пагрузілі парсюка і адвезлі на бераг Нёмана. Чайкамі перавезлі праз раку, а там бандарскія гаспадары – на лясны аэрадром у Налібоцкую пушчу.

Па чуткам свініну адправілі самалётамі за лінію фронта. Каня з фурманкаю прыгнаў селянін з Істакоў. У тую ноч забралі свіней і ў суседзяў. Знік і мой саматканы паўсуконны касцюм, камашы, зімовая шапка, кашулі і маміныя ручнікі з сушыльнай вяроўкі.

Як гаварыў раней, “белыя” партызаны абкладалі гаспадароў падаткамі грашыма і палатном. Брат выконваў якраз тады абавязкі солтыса, і я насіў грошы ў вёску Барвічы для патрэб Арміі Краёвай. Другі раз ён сам вазіў грошы ў іх штаб у вёску Няцеч. “Белыя” нават наладзілі выраб з бляхі арлоў на шапкі і гузікаў з імі.

Салдаты Арміі Краёвай вымагалі ад брата Ціхана, каб ён аддаў вайсковае польскае адзенне: “Як мог пакінуць адзенне і пераапрануцца ў цывільнае? Маёмасць Польскай дзяржавы пакінуў няведама каму “ – казалі яму. Так АК-аўцы

патрабавалі ад кожнага былога салдата польскай арміі. Асабліва яны лютавалі, калі сяляне насілі перашытыя вайсковыя шынялі ў бравэрку, марынарку ці порткі. Уласнік рэчаў атрымліваў шампалоў і заставаўся без адзення. Шчаслівчыкі, каго абмінулі, пахавалі адзенне да лепшага часу.

У 1944 годзе вясновай раніцай у гадзін дзевяць па так званай "праектовай" дарозе (па задуме праектоўшчыкаў яна павінна была злучыць вёскі Агароднікі і Няцеч) рухалася калона чалавек 120-150 Арміі Краёвай. Мы ўбачылі іх з вінтоўкамі і карабінамі ў рагатыўках з арламі, мундзірах (пашытых з вясковага палатна). Рознага колеру порткі і галіфе, размаіты абутак (боты, камашы, у абмотках). На двух калёсах везлі чайкі. Стала зразумела: будуць перабірацца на другі бок ракі Нёман. Якімі дарогамі ўцякалі асноўныя сілы "белых" ваякаў з-пад Пудзіна мы не бачылі. Бачылі толькі, як праз некалькі дзён у адзіночку і групамі беглі каля хутароў назад.

На хутары Жучкевіча Людвіга "ваякі" затрымаліся і загадалі запрэгчы каня. Іх сябра быў цяжка паранены. "Па каня прыдзеш заўтра" – сказалі. Сын Ян найшоў у Няцеч. Па расказах падчас пахавання забітых: памёршых ад ран "белых" Ян падышоў да афіцэра з запытаннем, як забраць каня. Той адвёў Яна ў бок лесу і забіў. Прывёз назаўтра дамоў Яна яго худзенькі конік на саломе ў возе. Вось так ваявалі "ваяры" з Арміі Краёвай.

Са з'яўленнем Арміі Краёвай у вёсцы сярод сялян узялася падазронасць, варожасць. Каталікі сталі палякамі. Іх было намнога менш, чым праваслаўных. Раней жылі мірна, ніхто не варагаваў.

Белапалякі, зачышчаючы тэрыторыю да ракі Нёман зімой і вясной 1944 года, расстрэльвалі жыхароў нашай вёскі. З сям'і Буйніцкіх расстралялі гаспадара Міхаіла Іосіфавіча 1905 года нараджэння толькі за тое, што ў 1939 годзе выступаў на сходзе сялян і гаварыў аб дрэнным жыцці пры Польшчы. Яго жонка Надзея была родам з вёскі Дакудава. На яе ўпала падаздрэнне, што трымала сувязь з чырвонымі партызанамі Пахаваны на могілках вёскі Жамойдзі.

Жудасны малюнак уяўляла хата Урбана Аляксандра. Яго жонка Анна Міхайлаўна і дачка Ніна, хворыя на тыф, ляжалі на ложках з прастрэлянымі галовамі. Сын Міша, хворы на ныркі – на падлозе, з маленькай адмецінай на шчацэ. Пахавалі іх у вялікай труне. Пасярэдзіне ляжала маці, па баках – дачка і сын. Сын Коля самы меншы, схаваўся, застаўся жывым. Бацьку "белыя" адвезлі ў Беліцу, учынілі "суд" і расстралялі. "Судзілі", як ураджэнца вёскі Дакудава (прыйшоў у нашу вёску ў прымы). Палічылі сувязным "чырвоных" партызанаў. Уся сям'я Урбанаў пахавана на могілках вёскі Жамойдзі.

Пачуўшы стук ў дзверы, Буйніцкі Іосіф Іванавіч у бялізне выскачыў праз акно і пабег у бок Істакоў. Выпала пароша і ён не быў заўважаным "белымі". Аднак смерць тады яго не абмінула. Адбегшы на некалькі соцен крокаў ад хаты на сцежцы сутыкнуўся з другой групай ваякаў і быў застрэлены на месцы. Пахаваны на могілках вёскі Жамойдзі.

Загінуў тады ад кулі белапалякаў Чыжык Генадзь, 1925 года нараджэння. Вось аб чым расказаў яго бацька Міхаіл на старонках газеты "Уперад". Да вайны Міхась быў дэпутатам сельсавета. Разам з братам Іванам і суседам Міхаілам Буйніцкім уцяклі з-пад нямецкага канвою. Міхаіл Чыжык перабраўся ў Ліпічанскую пушчу да аддзела "Варашылаўскі", камандзірам якога быў Васіль Шубадзёраў. У аддзеле быў праваднікам: вадзіў партызан-падрыўнікоў на чыгунку паміж станцыямі Нёман і Наваельня. Мсціўцы з яго ўдзелам пусцілі пад адхон сямнаццаць цягнікоў і чатыры матавозы.

Дапамагаў Міхаілу Міхайлавічу і яго сын. Васемнаццацігадовы юнак праз бацьку перадаў адзінаццаць вінтовак і скрынку патронаў. Пахаваны Генадзь у Беліцы. Пазней побач з сынам пахавалі і бацьку.

Той ноччу ў хаце Чылека Міхаіла "белыя" зрабілі сапраўдны пагром. Пабілі ўсё, што можна было пабіць, паламаць. Гаспадара забралі, але затым "суд" адпусціў.

Зусім незразумела, за што растралялі Буйніцкую Марыю ў першых днях ліпеня перад прыходам Чырвонай Арміі. Можа за тое, што яе мужык Вікенці Іосіфавіч так прыгожа пісаў сяльчанам заявы на польскай мове? Убачыўшы салдатаў Арміі Краёвай ён схаваўся ў жыце. Сын Сяргей і дочкі Ніна і Жэня засталіся ў жывых. Пахавана маці на могілках у вёсцы Беліца.

Каб павялічыць шэрагі Арміі Краёвай вясной 1944 года маім старэйшым сябрам прыслалі павесткі, каб з'явіліся ў штаб 1-ай польскай дывізіі, што дыслакавалася ў вёсцы Нацеч, для нясення вайсковай павіннасці. Павесткі трымаў і чытаў надрукаваныя на папяроснай паперы на польскай мове. Павесткі падпісаў камандзір дывізіі "Ojciec" (бацька). Павінен сказаць: з нашай вёскі ў тую армію ніхто не падаўся. У сем'ях жыў страх. Хлопцы днём хадзілі з асцярогай, а ноччу не спалі ў хатах.

Аб "актыўнасці" Арміі Краёвай супраць "чырвоных" партызанаў паказвае сяброўская дамова з немцамі з перадачай бункера для акаўцаў у вёсці Беліца дзесьці ў 1943 годзе, з гэтага часу немцы вызвалілі бункер і ўся тэрыторыя да Нёмана кантралявалася "белымі". Як яны "кантралявалі" ў нашай вёсцы, я апісаў вышэй ва ўспамінах. Вёска Беліца ў сялян выклікала асацыяцыю месца, дзе "судзілі" іх і расстрэльвалі.

"Чырвоныя" партызаны ў нашай і бліжэйшых вёсках не забілі ні аднаго немца. Можа гэта і да дабра. Супраць нашых вёсак немцы не прымалі ніякіх карных дзеянняў. З нашай вёскі толькі Мулінскі Іосіф Міхайлавіч і Чыжык Міхаіл Міхайлавіч актыўна ўдзельнічалі ў партызанскім руху. У апошні час вайны па тых або іншых абставінах у партызанаў за ракой Нёман у вёсках Пудзіна і Васілевічы хаваліся Мулінскі Уладзімір, Чыжык Іван і Буйніцкі Сяргей. Апошні шыў партызанам

адзенне і маскхалаты.

Не вядома за што была забіта Сівіцкая Мальвіна Іванаўна. "Чырвоныя" партызаны захапілі яе каля дакудаўскіх могілак і там расстралялі. Як быццам за сувязь з "белымі" партызанамі. У гумне быў забіты яе сын Юзюк. Так і засталіся таямніцай прычыны забойства.

На рахунку "чырвоных" партызанаў былі і баявыя дзеянні. На працягу вайны паміж раз'ездам Ганчары і станцыяй Нёман супраць жамойдскіх могілкаў узарвалі адзіночны паравоз. Другім разам быў узарваны таварны цягнік на падыходзе з горкі да станцыі Нёман. Тады пятнаццаць двухвосных пустых вагонаў падняліся ўверх і ўтварылі вялікую горку. З машыністаў ніхто не пацярпеў. Немцы хутка аднавілі рух на гэтым адрэзку. Вагоны расштурхалі па бакам, уклалі рэйкі. Праз нейкі час вагоны і колы пагрузілі на платформы і адвезлі ў Ліду.

У канцы 1943 года партызаны правялі аперацыю "чыгуначны канцэрт". Па адзіным сігнале на палатне ад жамойдскага пераезду ў бок станцыі Нёман працягласцю 1300-1500 м. раздаліся выбухі. Праз адзін стык былі закладзены ўзрыўныя шашкі. Рэйкі былі пашкоджаны. Немцы за два дні ўзнавілі рух цягнікоў. Прывезлі новыя рэйкі і ўклалі. З узарваных зварылі зноў такія ж. Цяпер можна ўбачыць іх на пабочных каляях. Служаць народнай гаспадарцы.

Вясной 1944 года ад жамойдскіх могілак у бок станцыі Нёман на адрэзку 1500 метраў разбурылі лінію сувязі. Вечарам у вёсцы Супраўшчына была вечарына. Моладзь танцавала. Партызаны загадалі хлопцам узяць пілы і ісці на чыгунку. Цяжэй было паваліць першыя слупы. Далей пайшло лёгка. Варта было падпілаваць да сярэдзіны слупа, як папярэднія з дротам і ізалятарамі сваім цяжарам ламалі другую палову.

Назаўтра солтыс наказаў вяскоўцам ісці на чыгунку, дапамагаць сувязістам аднавіць лінію. Я з'явіўся з сякерай. Мы білі ізалятары і вызвалялі дрот. Дрот скручвалі ў маткі. Слупы і маткі грузілі на платформы. Замест спілаваных немцы паставілі новыя, прамочаныя нейкім зялёным растваральнікам. Слупы з ізалятарамі і новым дротам прастаялі доўгі час. Пазней замянілі іх жалезацэментнымі.

Набліжалася лета 1944 года. Немцы без патрэбы не выходзілі з бункераў. "Белыя" вялі сябе па-бандыцку. Па вёсках забівалі былых дэпутатаў мясцовых і раённых саветаў, актывістаў савецкай улады. Не грэбавалі забіваць, відавочна па даносах суседзяў, сялян, якія на толіку не былі ў чым-небудзь вінаватыя. "Чырвоныя" дзейнічалі за ракой Нёман, і мы бачылі іх рэдка, аб чым хутаране не гаварылі адзін другому. За "няпрошаных" гасцей можна было паплаціцца галавою. Людзі, наогул, не спалі ў хатах. Месцам начлегу былі жыта, кусты, прыбудовы з выгодным уцёкам. Добрую службу рабілі сабакі. Па іх брэху можна заранёў вызначыць, дзе з'яўляліся чужынцы на хутарах. Асабліва на іх злавалі "чырвоныя". Нават стралялі ў іх. "Белыя" - менш, бо яны хадзілі днём.

Нягледзячы на цяжкасці, страх, недавер жыццё прадаўжалася. Моладзь жанілася, вянча-ліся ў цэркві, гулялі вяселлі, не гучныя, але з багатым сталом. Нараджаліся дзеці, паміралі старыя. За тры гады людзі абжыліся. Прыбавілася жывёлы, лепш апрацоўвалася глеба, больш уносілі ўгнаення.

У вёсцы гулялася вяселле Сівіцкага Лёні. Да яго завіталіся белыя "жаўнеры" з карабінамі. Іх, як "званых" гасцей, запрасілі за стол. Селі з карабі-намі, паставіўшы каля сябе. Добра выпіўшы, парашылі ў гонар маладых пастраляць з карабіна. Доўга не думаючы, загналі патроны ў ствалы, пачалі страляць праз акно. Шкло пасыпалася на стол і падлогу.

Значныя падзеі адбыліся ў чэрвені-ліпені 1944 года. Хутаране знаходзілі ўлёткі Савінфармбюро. Некалькі пажаўцелых знайшоў і я ў жыце. Чытаю-чы іх змест, сяльчане даведаліся, якія зараз абста-віны на фронце.

У 1939-1941 гадах у газетах пісалі, на радыё, у школе гаварылі, што немцы нашы саюзнікі, чуць не лепшыя сабры. Ва ўлётках 1944 года, што ні сказ – "фашысты", а каб пазначыць выраз: дабаўлялі "нямецкія", бо былі яшчэ італьянскія і іспанскія. Партызаны падчас вайны ні словам не гаварылі пра фашыстаў: толькі і было чуваць – немцы. Тады гаварылі: Нямеччына. Германія - зараз. "Новы парадак у фашысцкай Германіі". "Немцы называлі партызанаў бандытамі, затым – ляснымі бандытамі і толькі ў апошні час ва ўлётках, газетах партызанамі.

У канцы чэрвеня ноччу над Лідай павіслі асвятляльныя парашуты. Светла было і ў нас на хутарах. Доўга гулі самалёты і чуліся выбухі бомбаў. У пачатку ліпеня на працягу некалькіх дзён у кірунку Беліцы рухаліся калоны немцаў. Ехалі ў асноўным машыны частак абслугоўвання. Трапляліся сярод іх часткі на коннай цязе. Хутаранам яны былі непажаданымі. Коні прыставалі, кульгалі і зусім падалі. Немцы забіралі гаспадарскіх коней. Добра яшчэ, калі ў абмен давалі заезджанага. Доўгі час ў аднаго гаспадара знаходзіўся цяжкавоз, вялікі з тоўстымі нагамі і многа еў. Пачуўшы такі "гандаль" коньмі, сяляне цэлы тыдзень хавалі сваіх коней. Мы свайго Каштана трымалі ў вялікай яме, дзе калісьці жыхары вёсак Дзітрыкі і Жамойдзі капалі гліну, затым – на Залесе. Дамоў хадзілі падсілкавацца па чарзе.

Зацішша доўжылася некалькі дзён. Усе чакалі, як гаварылі на вёсцы, што прыдуць "другія саветы". Не стала ні "чырвоных", ні "белых" партызанаў. Толькі немцы ў адзіночку, а часцей па два і болей напрасткі ішлі на захад. Пазней у канцы ліпеня, працуючы на чыгунцы, бачыў немца, які пераходзіў яе і схаваўся ў кустах. Малюнак быў адваротны 1941 году. Тады чырвонаармейцы ішлі на ўсход, зараз немцы – на захад.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Міхаіл Лермантаў***

# ЛІЦЬВІНКА

**1.**

Чый церам даўні на гары крутой
Акрэсліўся зазубранай сцяной?
Бяссменым цар падсіненых палёў,
Каго хавае моцаю замкоў?
Хто цёмным нефам давярацъ прывык
Малітвы шэпт і вясялосці клік?
Яго ўладальніка, скажу я вам,
Арсень*- імя, вядомае сябрам.
І недругам вядомы ён бываў,
І імя іншага ніколі не жадаў.
Яго правы аспрэчваць не хацеў
Ніхто, калі мо, нават, моцу меў.
Судам і ўладам непадлеглы быў
Дарогу да суседзяў ён забыў;
Багаты ў міры, слаўны ў дні вайны,
Калі яго наведвалі яны, --
Ён пазбягаў даверлівых размоў,
Пагарда праступала з яго слоў;
Ён нават ласкай госця прыніжаў
Хаця, магчыма, тога не жадаў;
Ці не таму, што ў надта ранні век
Яму стаў падуладны чалавек?

**2.**

На лежбішчы спакусы і ў баю
Арсень прабавіў моладасць сваю.
Калі гучаў удар яго мяча,
Чырвоная ўзнікала епанча,
Бег ад яго татарын і ліцьвін,
І войска часта варты быў адзін!
Грудзіна ў ранах і рубцах была,
А пасярод маршчын яго чала,
Як прыгажэйшы лал ці дыямент,
Руды рубец - літоўскай шаблі след.

**3.**

З палёў вайны вярнуўшыся дамоў,
Да жонкі маладой ён не зайшоў,
Ён не прывёз парчы ёй дарагой,
Садранае з татаркі нежывой;
І іншых не прывёз у дар драбніц:
Пярлінаў ці якіх там завушніц.
Пра сына маладога не спытаў
І дом стары ён моўчкі прывітаў;
Пра вычыны свае ў чужым краі
Нікому не казаў з сямейнікаў сваіх;
І ў час спаткання, нібы кроў з ляза
З павека хоць скацілася сляза,
Ды перш, упасці долу чым змагла,
Яна слязой пакутнаю была.
Ён здрадзіў ёй, і што святы абрад
Таму, хто не аглядваўся назад?
Як воблакаў на небе не суняць,
Так не прымусіш сэрца не кахаць.

**4.**

Два дні прайшло, - і жонкі маладой
Не стала ў доме; толькі бабка з ёй
Выгнання падзяліць рашыла лёс
У клештары пад схованню нябёс,
Хаця да неба там і не бліжэй
Ці карацей маліся, ці даўжэй.
Ды жонкі звераломленай душы,
Для свету мёртвай у святой цішы,
Ці можна тога проста так забыць,
Каго прывыкла лашчыць і любіць?
Ён здрадзіў ёй! Ну дык няўжо таму
І ёй павінна здраднай быць яму?
Тугу ахвяры і святы закон
Для новай жарсці не заўважыў ён,
Для браніцы, ліцьвінкі маладой,
Для гордай панны з стараны чужой.
Ва ў году ёй за пару мілых слоў
З прыгожых вуснаў быў Арсень гатоў
Айчыну, жонку і дзяцей сваіх
Ахвяраваць з душой у той жа міг.

**5.**

Ярылы твар барвеўся праз туман
Ды клаўся на спачынак за курган,
І, разарваўшы хмар дажджлівых цень,
Апошні па зямлі слізгаў прамень.
Так соладка, так ціха, з ім было,
Нібыта свету грознае чало
Яго любові варта! Міг адзін,
І ён пакінуў, грозны змрок далін,
Гары вяршыню, церам асвятліў,
Халодны, палымяны бляск разліў
Па шыбах-вітражах святліцы той,
Дзе так нядаўна з радасцю жывой,
Каля акна, нібы ля алтара,
Свайго чакала жонка ўладара;
Дзе іхні сын маленькі шчыраваў,
Ледзь бацькавую дзіду падымаў;
Цяпер... дзе маці, сын? На месцы іх
Сядзіць ліцьвінка, квет палёў чужых,
І, дзесь рассыпаўшая голас свой,
Разладжаная лютня перад ёй,

**Падімем Арсеня Лермантаўвыводзіць аднаго з сваіх прашчураў па мацярынскай лініі. Ад гэтагароду, мабыць, і дастаўся Міхаілу Лермантаву паэтычны талент. Праз стагоддзе гэты ж талент праявіўся ў яшчэ адным прадстаўнікуроду Арсенневых - вялікай ліцьвінцы, беларускай паэтэсе Наталлі Арсенневай, аўтарцы духоўнага гімну ўсіх беларусаў "Магутны Божа!"*

I па струне, парванай трэці дзень,
Вячэрні ціхай сцелецца прамень.
Прыстала Клара ад чужых начэй,
Валожкавую сінь сваіх вачэй
Яна на захад шле Ярылу ўслед
Праз дні і вёрсты нескончоных бед;
Радзіма там, пясняр і воін той,
Які не раз схіляўся перад ёй!
Дзяўчаты вольныя ў яе зямлі
Там да кахання змусіць не маглі!

**6.**

А тут яна з пакорнасцю нямой
Кахаць павінна тога, хто вайной
Стаптаў палі ў краі яе бацькоў,
I гукі спеўныя ласкавых слоў
Цвярдзіць, каб удалося зноў і зноў
Сваю нянавісць выдаць за любоў,
I грудзі хваляваццца прымушаць,
I небывалую паказваць жарсць…
Лятучы ўздых, пагляд, за разам раз…
Павінна…, ды надыдзе помсты час!

**7.**

Вячэрні пір, рабы паўсюль шумяць,
Лампады ў пышных грыдніцах гарацць;
У срэбраным карцы кіпіць віно;
Да пары той прывыкнуўшы даўно,
Арсень пацягвае бурштынны сок,
Каб заглушыць сумленне на чуток!
Палонніца ж яго памутнены пагляд
Чытае, як вясёласці загад,
Прытворная ласкавасць, гучны смех
Падманвае аматараў уцех.
Арсеня твар ад шчасця расцвітаў,
I ласкава ліцьвінку ён абняў;
I кудры залатых яе валос
Вятрыска па плячах яго разнёс
I апусціў духмяную фатой
На грубы лік, адзначаны вайной.
А Клара нанясла на тварык сум
I шэпча, нібы даўнішнюю з дум:
“Кахаеш ты мяне?” “Што тут пытаць? -
Усклікнуў ён, - табе хіба не знаць,
Хто для цябе так многа пагубіў,
Як я? – і твой Арсень ды не любіў?
I хіба я цябе калі б абняў,
Каб не гарэў душою, не кахаў?
О, жартамі мяне не спакушай,
Сярод людзей мне пекла, а мой рай
Ля мілых ног! - як толькі я хоць міг
Сваімі не сціскаю рук тваіх,
Палац і плаха мне тады адно,
Прасвету ў днях самотных не відно!
Я беззаганны, ля тваіх грудзей,
Суровы, дзікі для чужых людзей!
Я да тваіх схіліўшыся калень
I мірны, і шчаслівы цэлы дзень.
I цёплае дыханне губ тваіх
Прыемней ад курэнняў дарагіх!
Ты валадарыць створана была;
Мяне скарыць каханнем ты змагла.
Хай раб я твой, мной не ўладарыць лёс
Ці ж годныя цябе рабы нябёс?
Каб не стварыў мяне калісьці Бог,
Ён і цябе паслаць бы ў свет не змог”.

**8.**

“Калі б дакладна ты мяне кахаў
Мяне ў вязненні ты бы не трымаў,
Я не жыла б у цераме тваім.
Ты кажаш, што ён мой, а што мне ў ім?
Багаццем дзіўны, пыхай без мяжы,
Вачам ён мілы, сэрцу ён чужы.
Праз гай тут воды чыстыя цякуць,
Ды рэчку тут не Віліяй завуць;
I вецер, што гайдае тут траву,
Мне не прыносіць песні пра Літву!
Не! Пра каханне мяне не гавары,
Без мілай волі, што твае дары?” -
Сказала Клара, і халодны яд
Пагарды поўны выліла ў пагляд.
Арсень быў нерухомы ля яе,
Аддаў бы ўсе багацці ён свае,
Адзін, адзін каб позірк атрымаць,
Ды толькі волі ёй не мог аддаць.

**9.**

А што за госць глухой начной парой
Грукоча ў браму моцнаю рукой,
I вартаўнік схапіўшыся са сну
Крычыць: “Хто там?” – “На хвілячку адну
Ўпусціце. Бура, быццам дзікі звер,
Раве і свішча, нас адно цяпер
Пусціце абагрэцца нейкі час,
А заўтра, заўтра мы пакінем вас,
Аднак ніколі ў модлах мы сваіх
Гасціны дом паміж зямель чужых,
Мы не забудзем !” Вартаўнік маўчаў;
Ды ржавы ключ упарта завішчаў,
Аб дошкі цяжкі загрымеў запор,
Вароты адчыніліся - на двор
Дарожных двое едуць. Ліхтаром
Асветлены і ў гаспадарскі дом
Ідуць. Плашчы шырокія, парой
Зазвоніць, блісне нешта пад палой.

**10.**

Арсень іх кліча за гасцінны стол
I гутарку прыветную завёў,
Ды госці, як галоднымі не быць?
Не рвуцца многа піць і гаварыць.
Адзін з гасцей даволі малады,
Другі зсівеў за доўгія гады,
I прачуваецца з яговых слоў
Адна з аддаленых ад рускай моў;
Малодшы госць на выгляд быў смялей,
Не зводзіў ён пранізлівых вачэй
З ліцьвінкі маладой, яго пагляд
Сказаў бы што каму з чужых наўрад,
Ды, знаць, спаткацца выпадала ім
Калісьці, недзе мо ў жыцці другім!
Ці можа нешта аб прайшоўных днях

Нагадваў ён, ды не жаночы страх
Яе прымусіў сціцца і ўздыхнуць,
І галаву паспешна адвярнуць,
І вочы белаю прыкрыць рукой,
Каб іх не здрадзіць радаснай слязой.

**11.**

"Ты пабялела, Клара?" – "Дрэнна мне", -
Пайшла к сабе і села пры акне,
Каб, расчыніўшы крышку шыбы ў ім,
Паветрам падбадзёрыцца начным,
Туман у полі, знічачка адна
Блішчыць здалёк, забытая з відна,
І вецер парушальнік цішыні
Шуміць у змроку ўздоўж глухой сцяны;
То брэх сабак, то са званіцы звон
У поле ўрыўкамі адносіць ён.
І Клара слухае! Як думак шмат
Прынёс таго вандроўніка пагляд;
Каб толькі хто-нібудзь пабачыць мог,
Хоць палавіну ўсіх яе трывог,
То на сябе не стаў бы прымяраць,
Каб цяжар той на трохі хоць прыняць,
І каб чало, дзе радасць і любоў
Раней бывалі, прасвятлела зноў,
І каб румянец зноў крануўся шчок,
Нібы вясёлка вечарам аблок…
І што магло так панну ўсхваляваць?
Ці не вандроўнікі, хто можа знаць?
Чым для душы пакутванне мацней,
Тым вечны след патоне ў ёй глыбей,
Пакуль усё, што дадзена з нябёс,
Не выльецца ў адзін гаротны лёс.

**12.**

Рассунуў хмары месяц залаты,
Як херувім злых духаў цемнаты,
І як надзеі непагаснай міг
Ад сэрца гоніць памяць бед былых,
І сведка абыякавы тых спраў,
Якіх бы дзень і ведаць не жадаў,
А цемра прыхаваць, нябёс абшар
Абходзіць ён адзін начны ўладар,
Акрэсліўшы ліцьвінкі юны лік,
Прамень яго ў акно няўзнак пранік
І, шклу надаўшы дыяментны ўбор,
Прайшоўся па падлозе, як танцор,
І асвятліў пярсідскі ён кілім
Святлом халодным здрадлівым сваім,
Ды што за гук раздаўся за сцяной?
Працяглы стогн, народжаны струной,
Як песні гук, няхай бы зноўку ён
Нябачным паўтарыўся песняром…
Ну вось ізноў! Спеў у начы глухой
Палонніца пачула! пэўна той,
Каго пагляд туманны з-пад чала
Яна даўно пазнала ўжо была!
І летуценнямі ахоплена яна,
І марыць ля высокага акна;
Адно ў Літве такі вось песень лад!
Як кліча, цягне ён мяне назад,
І ім адклікнуўся ў маіх грудзях
Боль па Радзіме і палону жах!

**13.**

Мінуўшчына гучала ў песні той,
Як вольнасць - вольнай, як смала - густой,
І чым Радзіма мілая была,
Палонніца ў той песні ўсё знайшла,
І ў гэтай асалодзе быў дакор
Жаночай годнасці, што з даўніх пор
Была ліцьвінкам за жыццё важней,
За помсту злей, пагарды халадней.
Яна схапіла лютню, і струна
Звініць, звініць пачуццяў глыбіня.
Запела панна, гэткай у жыцці
Нідзе ніколі песні не знайсці
Адно імгненне толькі і жыла,
Пакуль адно з грудзей да губ ішла,
Каб сэнс уцяміць, досыць сэрца мець
Нам дадзена нябёсы разумець!
Ды вельмі для зямлі стварыў нас Бог,
Каб хто-нібудзь яе запомніць мог.

**14.**

Гарыць заранка, і паўсонны гай
Пад часты грэбень чэша небакрай.
А што ж брамар, мо праз гады свае,
Маўчыць і ў дошку медную не б'е?
Што ж церам не абходзіць ён?
Няўжо ён спіць? Ён спіць - ды вечным сном!
Адкінута завала ад варот;
Ляжыць стары, заціяўшы мёртва рот,
І вочы прызаплюшчыў назаўжды,
І кроў цячэ па космах барады.
Прыбеглі слугі, топчуцца вакол,
Адно дратуюць баязліва дол;
Маўчыць адзін, схіліўшы галаву,
Другі вакол разглядвае траву;
Хапала духу дзеда шкадаваць,
Далей ніхто не ведаў, што пачаць.
Забойца дзе? Чыя няўмольная рука
Не ўздрыгнула над шыяю дзядка?
Хто адчыніў высокае акно
І вузкай, белай стужкай палатно
Спусціў на двор? Блакітны пояс чый
Утоптаны ў пясок быў уначы?
Чужыя дзе? След да варот вядзе
Няма нідзе. І Клары тэж нідзе!

**15.**

І доўга давялося ім гадаць,
Як вестку змрочную Арсеню перадаць.
Сказалі ўрэшце, слухаў і маўчаў,
Хацеў схапіцца, нерухомы стаў,
Як даўні стод, нібыта той мярцвяк,
Пагляд адкрыты, не глядзіць ніяк!
Нібы прыкаваны і мкне ў палёт,
Блішчаў агнём, халодны быў, як лёд,
Руку заціснутую ўверх падняў
І штось губамі сінімі шаптаў,
Падобны быў на клятву шэпт яго,
Не зразумеў аднак ніхто таго;
Яна была на мове на сваёй,
Ды толькі дальні гром грымеў у ёй!..

16.

Сцякалі дні. Арсень пачаў ізноў
У сутнасць унікаць пачутых слоў,
Ды сэрца, абгарэлае ў журбе,
Было, як мёртвае, само сабе;
Сумеў яго прымусіць не кахаць,
Ды што было, таго не пахаваць
Навек. Хто можа марам загадаць
Па-над сабой не плаваць, не лунаць?
І ад душы хто зможа памагчы,
Каб змучаную частку адсячы?
Сцякалі дні, нічога з усяго
Дзівоснага не ўразіла б яго
Хоць навальніца па-над ім магла
Чарнець, вісець, не моршчыў ён чала
Але, як вытаў ён не пазбягаў
Ад лёсу, нават - проста іх трымаў,
Але, як паказаць ён не хацеў,
Што мог цярпець, як некалі цярпеў,
Дык рана, што хацеў ён пагарджаць,
Яго ўсё болей пачала з'ядаць.
Ён Клару не сумеў бы перыжыць
Каб проста смерць... а здраджанаму быць?
Раней было, ён пагарджаў людзьмі,
А тут усе абмыліся слязьмі...
Яго зладзействы пагубілі лік
Стаў вылюдкам на цэлы свет вялік.

17.

Ёсць змрок душы, дзе шэрасць спіць сама,
Калі ні дня, ні ночы ў ёй няма.
Яна сама закоўвае сябе,
Жыцця не хоча - смерць не па губе.
І неба вінаватым не зрабіць,
Вакол усё вясёласцю бруіць!
Яна – ахвяра патаемных мук,
Сугучча свету – няпраўдзівы гук.
Яна глядзіць на бляск прыроды ўсёй,
Нібы ахвяра ў страты дзень сваёй
Глядзіць на ўсмешку ката! І назад
Яна кідае змучаны пагляд.
Ды хвалі след у моры не знайсці,
Лісту апаўшаму наноў не прырасці!
Ёсць дэман-разбуральнік добр зямных,
Ён радасць дорыць на кароткі міг,
Каб лёсу выт нас паканаў хутчэй,
Сапраўдны вораг, неба і людзей,
Наш дух слабы звышжорсткім робіць ён,
Аж покуль мукі не знясуць, як сон,
Усё, што цэнім мы адзіны раз,
Усё што зайздрасна яму між нас!..

18.

Супроць Літвы пайшоў вялікі князь,
Яго дружыны помстаю гараць,
Нясуць краям пагрозу тым яны,
Дзе запылае полымнік вайны.
Каб адстаяць сваёй зямлі правы,
За вольнасць б'юцца рыцары Літвы,
І дзюбы крумкачоў, і зуб ваўкоў
Скрыгочуць па касцях яе сыноў.

19.

І ў рускі стан, асеннім, шэрым днём,
З'явіўся раз, адзін, без слуг, пяшком
Баец вядомы храбрасцю сваёй, -
І тут жа стаў прычынаю размоў.
Даўно не падымаў ён тарчу, меч,
Прымушаны ў прыгрыдніцы ржавець!
І для чаго з'явіўся ён сюды?
Не край радзімы выручыць з бяды;
Між сэрцаў многіх ён адно шукаў,
Яго адно прабіць баец жадаў.

20.

Уздоўж па рэчцы з пенай бурных хваль
Разносіць вецер грознай бітвы шал!
У полі гонным цвет сваіх дружын
Звялі сягоння рускі і ліцьвін.
Барвовай рысай шэры небасхіл
Блакіт палёў ад неба аддзяліў,
Аблокі ў небе бухнуць пакрысе,
Віхор у вочы пыл з пяском нясе;
А бой кіпіць і гнецца рускі шыхт
І новы ўжо ці вытрымае выт?
Ды голас чый над полем загрымеў
З такою сілай, што ліцьвін знямеў?
Чырвоны плашч, крывавы сцяг на ём,
Без тарчы ён, даўно згубіў шалом;
Узброены сякераю стальной
І вораг падае; адзін, другі пад ёй
З запёкшайся крывёю на губах
Упаў з ім побач. І таемны страх
Абняў сыноў Літвы; і больш яны
Не маюць ласкі ад багоў вайны.
Ім перамогі больш не датрымаць,
Іх гоняць, б'юць, ім трэба адступаць,
Ды і ва ўцёках, глянуўшы назад,
Яны смяртэльных стрэлаў сыплюць град.

21.

Арсень цудоўны гэты быў ваяр,
Ён кроўю вырашыў кахання жар
І пал душы спапеленай заліць,
Ён ненавідзіць свет, каб не любіць
Адно стварэнне! Кучы мерцвякоў
Без тарчаў валяцца з усіх бакоў,
І палымнее радасцю пагляд,
Дзе помста пасялілася назад
Так многа год. Паперадзе сваіх,
Як метэор між аблакоў начных,
Калі ж заўважыў ён, што быў адзін
Сярод варожых для яго дружын,
Было ўжо позна! "Бачу час настаў!" -
Падумаў ён, і меч яго шукаў
Апошняга. Ды чуе: "Гэта ён!"-
За ім усклікнуў нехта. Як агонь
Апёк Арсеня, воін захацеў
Паслаць праклён і тога не сумеў.
Анёлам бітвы ў лёгкім шышаку
Ўздымала Клара з шабляю руку,
І маладцы цясніліся пры ёй;
Паглядам, словам, тонкаю рукой



Яна наперад рыцараў вяла,
І, быццам лёс, ужо для іх была.
Арсеня стрэўшы, ні на міг яна
Ні пабялела, ні хаця б каня
Спыніла чуць. Быў голас грозны той,
Калі ўзмахнуўшы белаю рукой
Яна гукнула: "Рыцары Літвы,
Няма надзеі, покуль ён жывы,
Пыхлівы гэты рускі, перад ім
Яны бягуць, ды мы не пабяжым,
Хто першы мне яго пакажа кроў,
Таму мае каханне і любоў!"

**22.**

Арсень пагляд з пагардай адвярнуў,
Калі той вырак для сябе пачуў.
"І ты супроць мяне!" – усклікнуў ён,
Ды словы тыя, як апошні стогн,
Прапела сэрца лепшая струна,
І ў гэты ж момант лопнула яна.
З пагардай меч свой кінуў ён, затым
Плашчом закрыўся ад усіх сваім,
Каб права з іх сказаць ніхто не меў,
Арсень нібы ў час смерці пабялеў.
Тры дзіды грудзі працялі таго,
Хто сам шукаў спачынення свайго,
У кім з дабром вяло змаганне зло,
І дзе яно ў канцы перамагло.
Як цар дубравы, горда ён упаў,
Не глянуў, не шапнуў, не закрычаў,
Хаця б малітву ці які папрок
Прамовіў ён. Ды ўжо на свет здалёк
Глядзеў Арсень, бо век шчаслівы свой
Ён вызначыў нявернаю душой;
Жыццё закончыў у глухой жальбе
Бо тут даўно ён збудаваў сабе
Свой рай і пекла, тут даўно іх меў
І іншых знаць і ведаць не хацеў.

**23.**

І апусцеў яго высокі дом,
І падарожны не гасцюе ў ём;
І двор зарос зялёнаю травой,
І пыл паслаўся шэрай сівізной.
Святыя абразы, льняны абрус
Кілім пярэсты, ды дубовы брус
Не скрыпне больш пад лёгкаю нагой
Прыгожай паланянкі маладой.
Ні ў срэбных похвах непадкупны меч,
Ні шолам моцны, ні даспехі з плеч
Асілкавых не бліснуць на сцяне;
Яны ляжаць у дальняй старане,
Дзе ён загінуў. Тут жа ля акна
Ўсяго што лютня, ды вакол струна
Абвіта, ды яшчэ дзве сукні тут
На мяккім ложку, быццам дзень таму,
Як панна мілая з краін чужых
Рукой нядбалаю паклала іх.
Здараецца, што толькі пры акне
Начны вятрыска злёгку іх кране,
Калі сюды свой перахіліць лік
Гарэза ночы, юны маладзік!

**24.**

Ёсць манастыр, і там у тыдзень раз
За супакой малітва мае час.
Бывае часта, што ў царкве святой
Арсень успамінаецца парой.
Стаіць у цэркве доўгі трунаў шыхт
Гярбы бацькоў адсвечваюць па іх;
Ды толькі там не будзе блізка той,
Хто слаўны род закончыў іх сабой.
Ні свежы дзёрн, ні пышны маўзалей
Не ў цяжар для сырых яго касцей;
Ніхто не плача, а ўсяго адна
Манахіня!.. Бог знае, хто яна?
Бог знае, што ў глыбі яе душы
Шкадобу да таго, хто так грашыў,
Падтрымвае, бо ён не шкадаваў
І нават быць каханым не жадаў;
Нязмернае няшчасце ёй прынёс,
Ды хіба лепей з ім паладзіў лёс?
І як не плакаць вечна ёй над тым,
Хто быў абмануты сабой самім,
З кім лёс развёў на дзірване зямным
І не звядзе ніколі ў свеце тым?
У сэрцы смутным толькі можа жыць
Каханне палкае, якое не забыць.
У трэшчыне скалы сяды - тады
Бярэзінкі так дубчык малады
Паселіцца і радасць нам нясе,
Хаця вакол упэўненыя ўсе
Што не даўгі адмераны ёй век
Ці звер які, ці жорсткі чалавек,
Ці летні жар, ці сіверны мароз
Яе закончыць незайздросны лёс.
Пакуль жа дождж і вецер-ураган
Дарэмна трэплюць яе тонкі стан,
І пыльны ліст адданасці святой
Трапеча на галінцы маладой.

***Пераклад Станіслава Судніка.***

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




**У выдавецтве “CZAS”, г. Вільня выйшла кніга Часлава Малеўскага “Шляхецкія роды ў Лідскім павеце на Літве ў XIX стагоддзі”.**



**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі, г. Менск выйшла кніга II 6-га тома “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі” Наклад 10000 асобнікаў. 616 ст.**




**У выдавецтве УП “Тэхнапрынт”, г. Менск выйшаў зборнік гістарычных п’есаў Алеся Петрашкевіча “Здрапежаная зямля”. Наклад 250 асобнікаў. 448 ст.**



**У выдавецтве “Беллітфонд”, г. Менску серыі “Беларускі гістарычны раман” выйшла кніга Васіля Якавенкі “Надлом” Наклад 1000 асобнікаў. 528 ст.**



**У выдавецтве “Беларускі кнігазбор”, г. Менск выйшла кніга Алеся Белакоза “Каб жыла Беларусь. Успаміны. Артыкулы. Інтэрв’ю”. Наклад 200 асобнікаў. 104 ст.**




**У выдавецтве “Беларуская навука”, г. Менск выйшла кніга “Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года” Наклад 700 асобнікаў. 448 ст.**



**Польскі інстытут у Менску і гістарычная майстэрня ў Менску выдалі кнігу “Забытыя жаўнеры Польскага войска ў часы Другой сусветнай вайны” Наклад 300 асобнікаў. 192 ст.**



**Помнік Францішку Скарыну ў Лідзе, устаноўлены 25 ліпеня 1993 г.**
***Бронза, граніт. Скульптар Валяр'ян Янушкевіч.***